УДК 94(476)
ББК 63.3(4Беи)
Т65

Серыя заснаваная ў 2012 г.

*Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзентуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта эсэ і аналітыка, даследаванні і дыялогі пра Беларусь, грамадства, культуру і час.*

**Трафімчык, А.**
**Т65** Ленін і Сталін думаюць пра Беларусь/ Анатоль Трафімчык. — Мінск : І. П. Логвінаў, 2013. — 104 с. — (Бібліятэка “Беларускі калегіюм”).
ISBN 978-985-562-088-5.

Даследаванне выкрывае фарысейскую палітыку кіраўніцтва бальшавіцкай Расіі стасоўна лёсу Беларусі; прыводзяцца пераканаўчыя доказы таго, што ленінска-сталінскі Крэмль быў супраць беларускай дзяржаўнасці, але рэальнасць геапалітычнай сітуацыі ў сімбіёзе з амбіцыямі на сусветную рэвалюцыю вымусіла яго з «беларускае карты» зрабіць козыр і пайсці — хаця б фармальна — на стварэнне Савецкай Беларусі.
Кніга разлічаная не толькі на спецыялістаў-гісторыкаў, але і на ўсіх, каго цікавіць станаўленне беларускай дзяржаўнасці.

**УДК 94(476)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-562-088-5**

# ЗМЕСТ

*Першынцу Аляксею*

# ПРАДМОВА

Карфаген мусіць быць разбураным — казалі рымляне, калі думалі пра інтарэсы ўласнай дзяржавы. Створаны ў БССР гістарыяграфічны міф пра ўзгадаванне беларускай дзяржаўнасці з дапамогай Леніна і Сталіна, пра бальшавіцкую місіянернасць як ласку для беларускай нацыі таксама мусіць быць разбураны, калі маладая Беларусь думае пра ўласны імідж, а яе грамадзяне маюць нацыянальную годнасць. Міф гэты будаваўся на стагоддзі. Выглядае фундаментальна, як будынкі ў стылі сталінскага класіцызму на галоўнай вуліцы Мінска. Можа таму за яго разбурэнне гісторыкам сталага веку так страшна брацца. Але гэтага не скажаш пра маладога аўтара дадзенай манаграфіі. Ён узяўся за справу. І гэта радуе.

Існуе погляд, што разбурэннем гістрыяграфічнай савецкай спадчыны займацца бессэнсоўна. І так відавочна — абсурд. Навошта пэцкаць рукі. Хай сабе гэтыя савецкія міфы-будынкі стаяць. Самі абрынуцца. Ёсць больш актуальныя праблемы...

У тым і справа, што хутка не абрынуцца. Прыдзецца доўга чакаць, бо робяцца спробы рэстаўрацыі. Ачышчаць нацыянальную гісторыю ад бальшавіцкай ідэалогіі неабходна па ўсіх накірунках. Прыклад дадзенай працы паказвае, што пачынаць трэба з галоўнага. Аўтар звярнуўся да твораў Леніна і Сталіна, зайшоў у створаны савецкімі гісторыкамі дом-міф пра беларускую савецкую дзяржаўнасць і пачаў

расказваць пра ўбачанае. Хаця ўвайсці туды было не так проста. Змрочная атмасфера. Смурод палітычных мерцвякоў. Патрабавалася пэўная мужнасць і адвага. Але аўтар зрабіў гэта і атрымаў станоўчы вынік. Нельга сказаць, што яго намаганнямі міф-будынак разбураны. Але сталася відавочна, што за знешняй рэспектабельнасцю ўнутры яго — спрэс фальсіфікацыя. Цяпер іншыя стануць смялейшымі.

Фактычна аўтар пачаў перапісванне гісторыі партыі расійскіх бальшавікоў з пазіцый сучаснай беларускай суверэннасці і паказаў мэтазгоднасць гэтай справы. Даўно — пара!

Не з усімі поглядамі аўтара можна пагадзіцца. Але я не выступаю тут рэцэнзентам. Хачу толькі падтрымаць майго калегу, які дэманструе высокую дасведчанасць у праблеме і прафесіяналізм. Лічу сваім абавязкам даць яго арыгінальнаму даследаванню, як кажуць, «пуцёўку ў жыццё». Ён апраўдвае мае надзеі на маладых навукоўцаў, якія ў стане стварыць праўдзівую гісторыю ўласнай краіны.

*Прафесар Захар Шыбека*

# УСТУП

Многія пытанні станаўлення беларускай дзяржаўнасці паранейшаму не знаходзяць адказаў, або тыя адказы гучаць вельмі няпэўна. Таму гэтыя пытанні, нягледзячы на гурбы спісанай паперы, застаюцца адкрытымі. Цікава, што найбольш увагі па гэтай тэме заўсёды ўдзялялася аспекту, вынесенаму намі ў загаловак. Цалкам лагічна, што навукоўцы адмыслова абіралі для грунтоўных даследаванняў «крамлёўскі ракурс», бо менавіта меркаванні бальшавіцкіх палітыкаў з’яўляліся лёсавызначальнымі для Беларусі. І тым не менш менавіта гэты аспект у гістарыяграфіі застаецца найбольш полівалентным.

Якімі ж яны былі, тыя меркаванні — і сапраўдныя, і дэкларатыўныя? Якой была іх рэалізацыя? Вось пытанні, на якія гістарычная навука пакуль не дае пэўнага адказу. З гэтага грамадства мае дамінаванне міфа пра ленінска-сталінскую дапамогу ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці. А за мяжой калі і былі антытэзы, то 1) не ў патрэбнай колькасці (што важна як для міфастварэння, так і для разбурэння міфаў), 2) яны фактычна знаходзіліся пад забаронай у «сацыялістычным лагеры» і таму заставаліся там невядомымі. Дэмантаж посткастрычніцкага эксперыменту спарадзіў плюралістычную атмасферу ва Усходняй Еўропе, у тым ліку ў гуманітарных дысцыплінах. Аднак афіцыйная беларуская навука, якая мусіла быць флагманам у даследаванні дзяржаўнасці сваёй краіны, практычна засталася ў палоне савецкай гістарыяграфічнай традыцыі. Новым жа даследаванням пакуль не хапае грунтоўнасці. Разам з тым, у навуковы зварот, нават у беларускім гістарыяграфічным дыскурсе, ужо ўведзена столькі матэрыялу, што даць канкрэтнае абазначэнне пазіцый расійскіх баль-

шавікоў і абгрунтаваць дэтэрмінізм тых пазіцый цалкам магчыма. Гэта і робіцца ў рэпрэзентуемым даследаванні, якое, тым не менш, ні ў якім разе не канцуе праблему. Наадварот яго трэба расцэньваць як прапанову да больш шырокага і актыўнага асэнсавання праблемы.

Гэты нарыс фактычна з'яўляецца гістарыяграфічным. Аднак ён не мае на мэце ахапіць усё тое, што ўжо напрацавана гістарычнай навукай. Найперш акцэнтаваліся тыя кантэксты, што адпавядалі зададзенай тэме. З гэтага па-за належнай увагай застаўся шэраг высакаякасных даследаванняў (напрыклад, В. Круталевіча, С. Рудовіча).

Важна было б даследаваць паасобку і адносіны да беларускай дзяржаўнасці іншых суб'ектаў міжнароднай палітыкі. Бо пра іх як у навукоўцаў, так і ў грамадства ўяўленне часта досыць ўтрыраванае. Але спачатку неабходна як мага больш поўна праясніць ролю Масквы ў станаўленні і развіцці дзяржаўнасці на Беларусі ў першай палове XX ст. як найбольш важкую, так і найбольш скажоную. І хаця шматлікія матэрыялы гэтай гісторыі ляжаць, здавалася б, навідавоку, многія даследчыкі ўпарта не жадаюць імі карыстацца. А колькі яшчэ дакументаў марнее ў архівах (перадусім расійскіх) і чакае сваіх аналітыкаў, можна толькі здагадвацца.

Калі вынікі рэпрэзентацыі гэтых навуковых пошукаў выклічуць дадатковую ўвагу да тэмы і хоць трохі актывізуюць працу ў дадзеным накірунку, то аўтар палічыць задачу-мінімум выкананай. З удзячнсцю прыму крытыку і ўдакладненні, бо складанасць задачы, канечне, не магла не абумовіць пэўных памылак і хібаў. Тым больш, што гэта фактычна толькі пачатак распрацоўкі тэмы, якая ў будучым павінна перарасці ў фундаментальнае даследаванне.

Загадзя дзякую чытачу за ўвагу да маёй сціплай манаграфіі.

# Ад Петраграда да Рыгі (1917–1921)

Мы за *автономию* **для всех** частей, мы за *право* отделения (а не *за отделение* всех!) <…> В общем, мы против отделения. Но мы стоим за право на отделение. <… > *Ничего*, абсолютно ничего кроме *права* на отделение здесь нет и быть не должно

**В. Ленин**

Принцип на самоопределение должен быть средством борьбы за социализм.

**И. Сталин**

У гістарычнай навуцы Беларусі пытанне пра адносіны кіраўніцтва бальшавіцкай партыі і савецкай краіны да станаўлення беларускай дзяржаўнасці дасюль не мае пэўнага адказу, як няма яснага адказу на пытанне: наколькі ж і як спрычыніліся бальшавікі да вырашэння гэтай праблемы? Савецкая гістарыяграфія стварала міф пра тое, што абяздолены беларускі народ толькі дзякуючы кастрычніцкай рэвалюцыі займеў паўнавартасную дзяржаўнасць. Паралельна існавала ледзь не цалкам адваротная думка беларускіх эмігрантаў: маўляў, гэта была бальшавіцкая акупацыя. Аднак за рамантызмам і эмоцыямі тыя навуковыя даследаванні нярэдка гублялі сваю вартасць, таму акрэсленая

тэма заставалася слабадаследаванай. Тым больш, што даследаванні з-за «жалезнай заслоны» праводзіць было практычна немагчыма, паколькі неабходныя архівы знаходзіліся ў СССР, але пры гэтым былі недаступныя і савецкім гісторыкам. А калі апошнія што і знаходзілі, то трымаліся рамак ідэалагем, або гэта за іх рабіла цэнзура. Сучасная гістарычная навука Беларусі стасоўна гэтай праблемы, як і многіх іншых, мае пэўныя здабыткі, якія, аднак, вельмі часта характарызуюцца прынцыповымі супярэчнасцямі. Даходзіць да парадоксаў: зробленыя ў канцы працы высновы могуць канцэптуальна пярэчыць папярэдняй аналітыцы[1]. Такое становішча падштурхоўвае да перакanструявання сэнсу падзей, якое, што праўда, не прэтэндуе на поўную завершанасць, аднак імкнецца да аб’ектывізацыі тэндэнцый, якія панавалі ў кіраўнічых органах маладой савецкай дзяржавы (з 1922 г. — СССР). Яшчэ заўважым, што абсалютная большасць матэрыялаў, якія леглі ў аснову працы, з’яўляецца агульнадаступнай і мае даволі шырокую рэпрэзентацыю.

У свой час шляхам трох падзелаў канфедэрацыі Кароны Польскай і ВКЛ — Рэчы Паспалітай — Расійская Імперыя атрымала ў свой склад усе этнаграфічныя беларускія землі — тыя, на якіх магла б утварыцца беларуская нацыя і нацыянальная дзяржава. Чарговы ўздым нацыянальнага руху ў Еўропе абудзіў імкненні многіх «падімперскіх» народаў да самавызначэння. Палякі ў сваім адраджэнні кіраваліся менавіта станам краіны на 1772 г.[2], калі суседзі пача-

[1] Гл. аналіз паказальнага прыкладу: Трафімчык А. Рэцэнзія на: У. Ф. Ладысеў, *Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 — 1939 гг.)* / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін, БДУ, Мінск, 2003, сс. 307 // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2006, № 26. С. 288–299. (Памылкова надрукавана пад імем і прозвішчам Дзмітрый Крывашэй.)

[2] Паводле сакрэтнага рашэння польскага ўрада ад 8 сакавіка 1920 г., максімальнымі патрабаваннямі былі межы 1772 г., мінімальнымі — «лінія бяспекі»… Яна павінна была прайсці недзе паміж лініяй фронту і мяжой 1772 г.: Рабышка В. Этнапалітычны фактар у беларуска-польска-літоўска-расійскіх адносінах у 1919 – 1921 гг. // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 9. С. 14. Відавочна, насамрэч палякі падстаў на такія прэтэнзіі не мелі, бо Рэч Паспалітая з’яўлялася канфедэрацыяй ВКЛ і Кароны Польскай, хоць і з дамінаваннем апошняй.

лі брутальна ўмешвацца ва ўнутранае жыццё канфедэратыўнай дзяржавы. Таму незалежніцкія тэндэнцыі, праяўленыя нацыянальнай элітай беларусаў у 1918 г., мелі аніяк не меншыя падставы на падобныя памкненні, тым больш, што «Дэкларацыя правоў народаў Расіі» (ад 2 лістапада 1917 г.) гарантавала нацыям права на вольнае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы. Больш таго, «пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 29 жніўня 1918 г. савецкі ўрад прыняў падпісаны У. І. Леніным дэкрэт аб адмове ад дагавораў і актаў, заключаных урадам былой Расійскай імперыі аб падзеле Рэчы Паспалітай»[3]. А гэта значыць, што расійская інкарпарацыя беларускіх зямель, якія з’яўляліся ядром ВКЛ, de iure ліквідоўвалася, а за іх насельніцтвам прызнавалася права на самавызначэнне (натуральна, калі яны адмовіліся б ад ранейшага дзяржаўнага status quo ў выглядзе ВКЛ[4] ці Рэчы Паспалітай, у якой Княства — у адрозненне ад Савецкай Беларусі — з’яўлялася далёка не фармальнай структурнай адзінкай, хоць яго статус у тандэме з Каронай і быў моцна паслаблены ў выніку спусташальных войн сярэдзіны XVII ст. і далейшай расійскай экспансіі). Выбар народаў былой Рэчы

[3] Гісторыя Беларусі: Падруч. У 2 ч. Ч. 2. Люты 1917 г. — 2002 г. / Я. К. Новік, Г. С. Марцуль, Э. А. Забродскі і інш.; Пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. Мінск: Выш. шк., 2003. С. 254. Дарэчы, дзіўна было знайсці такую інфармацыю менавіта ў гэтым падручніку — апалагетыцы савецкай гістарыяграфіі, бо на фоне згаданага дэкрэта выразна праяўляецца імперыялістычнае фарысейства бальшавіцкага кіраўніцтва.

[4] Была і такая задума. У 1915 г. пасля нямецкай акупацыі заходняй часткі Беларусі дзеячы беларускіх, літоўскіх, польскіх і яўрэйскіх палітычных арганізацый стварылі нават Канфедэрацыю ВКЛ (гл. тэкст дакумента ў: Трус М. Венскае выданне брашуры Максіма Багдановіча «Беларускае адраджэнне» (1916): вядомае і невядомае // Роднае слова, 2009, № 1. С. 30–31). Аднак зачын меў як праблемы ўнутранага характару, так і неспрыяльныя ўмовы міжнароднага кантэксту. Таму ідэя згасла, не разгарэўшыся. Ужо на наступны год адзін з прадстаўнікоў ідэі Канфедэрацыі ВКЛ В. Ластоўскі ачольвае «Сувязь незалежнасці і непадзельнасці Беларусі», у праграмных дакументах якой вылучаецца ідэя стварэння незалежнай беларускай дзяржавы, якая ахапіла б усю этнічную тэрыторыю беларусаў (Луцкевіч А. За дваццаць пяць гадоў (1903 — 1928): Успаміны аб працы першых беларускіх палітычных арганізацый: Беларуская сацыялістычная грамада / Пасляcл. А. М. Сідарэвіча. Мінск: БелСЭ, 1991. С. 46; Сташкевич Н. Трудный путь государственности // Беларуская думка, 2008, № 1. С. 29).

Паспалітай (палякаў, літоўцаў, ураінцаў) быў зроблены на карысць самастойнага шляху дзяржаўнага будаўніцтва, што фактычна не пакідала альтэрнатывы беларусам у выпадку памкнення да самастойнага вырашэння свайго лёсу. Тоесную думку выказаў таксама гісторык правазнаўчай думкі Язэп Юхо[5].

Паўсталая ў выніку тых працэсаў БНР вымусіла лічыцца з сабою ўсіх суседзяў, якім, аднак, такое суседства не было патрэбным. У першую чаргу гэта датычыцца панскай Польшчы і бальшавіцкай Расіі. Хаця, як лічыць дзеяч БНР Кляўдуш Душ-Душэўскі, і Польшча, і Савецкая Расія фактычна прызналі БНР у 1918 г. Ён прыводзіць пэўныя доказы, што праўда, іх можна лічыць толькі ўскоснымі. Аб прызнанні БНР згадвае і Старшыня польскай дэлегацыі ў сваёй заяве на другім пасяджэнні Галоўнай камісіі мірнай канферэнцыі 4 кастрычніка 1920 г.: «Польская Республика, не ожидая шагов со стороны России, признала независимость Литвы, Украины и Белоруссии». А ў дэкларацыі расійскай дэлегацыі ад 24 лістапада 1920 г. гаварылася аб прызнанні Расіяй незалежнасці Беларусі яшчэ ў 1918 г.[6] Ёсць і юрыдычныя дакументы, якія сведчаць аб прызнанні на прававым узроўні прадстаўнікоў БНР пры ўрадзе РСФСР (такім у якасці генеральнага консула быў Алесь Бурбіс, копія дыпламатычнага пашпарта якога захавалася[7]). Паводле меркавання беларускага гісторыка А. Грыцкевіча, «бальшавікі ў Маскве вымушаны былі лічыцца з трэцяй Устаўной граматай да народаў Беларусі. У лістападзе 1918 г. урад Леніна нават спрабаваў дамовіцца з тагачасным урадам БНР на чале з Антонам Луцкевічам, але потым спыніў пера-

5 Юхо Я. Беларускія ўрады 1918 — 1921 гг. і іх паўнамоцтвы // Беларускі гістарычны часопіс, 1993, № 4. С.66.

6 Душ-Душэўскі К. Беларусь і Рыжскі мір Прадмова і публікацыя Аляксандра Вабішчэвіча // Спадчына, 1995, № 6. С. 209–210; Ковалева Л. А. Некторые аспекты заключения Рижского мира // Рыжскі мірны дагавор 1921 г. і лёсы народаў Усходняй Еўропы: Матэрыялы міжнар. навук.-тэарэт. канф. (Мінск, 16–17 сакавіка 2001 г. / Пад навук. рэд. У. Ф. Ладысева. Мінск: БДУ, 2001. С. 58.

7 Біч М. В. Бурбіс Алесь // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 2. Мінск: БелЭН, 1994. С. 133.

мовы»[8]. Дый Варшава мела дыпламатычныя стасункі з прадстаўнікамі БНР менавіта ў такой іх якасці[9]. Прэзідэнт Рады БНР П. Крэчэўскі прыводзіць дакументы з цытатамі аб прызнанні ў 1918 г. незалежнасці Беларусі і Польскай Рэспублікай, і РСФСР[10]. Паводле А. Ціхамірава, урад Украінскай Народнай Рэспублікі прызнаваў Беларусь дэ-факта, але адмовіўся прызнаць яе дэ-юрэ, спасылаючыся на ўмовы Брэст-Літоўскага мірнага дагавора. Гетман Скарападскі, які прыйшоў да ўлады пасля дзяржаўнага перавароту, заняў прыкладна такую ж пазіцыю[11].

Гэткім чынам, мы маем шэраг фактычных прызнанняў БНР з боку непасрэдных суседзяў, якія — будзем аб'ектыўнымі — у цэлым не былі зацікаўленыя ў падобных прызнаннях, але мусілі на іх пайсці з прычыны эвентуальнага выкарыстання высокай паводле вартасці беларускай карты. Іншая справа, што прызнанні тыя былі вельмі асцярожнымі, амбівалентнымі ці нават латэнтнымі. І гэта зразумела. Міжнародна-палітычная кан'юнктура не дазваляла выяўляць канкрэтнасць — таго ці іншага парадку — бо: 1) існаванне незалежнай Беларусі не прадугледжвалася — у першую чаргу Савецкай Расіяй ды Польшчай, 2) канкрэтнасць, акрэсленасць пазіцыі па гэтай праблеме замінала б гнуткасці яе выкарыстання на дыпламатычна-прававым полі.

---

8 Грыцкевіч А. Ідэя незалежнасці Беларусі ў гістарычным аспекце // Спадчына, 1996, № 5. С. 26. Гл. таксама: Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэдактар) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2006. С. 103–104. Праўда, існуюць і абвяржэнні гэтага меркавання: Лазько Р. «Перагаворы» Антона Луцкевіча ў Маскве як міф беларускай гістарыяграфіі // Беларускі гістарычны часопіс, 2007, № 4. С. 9–14.

9 Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа. X–XXI стст. Варшава: Demart Sp. Z o.o. 2006. С. 193. Гл. таксама: Materski W. Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943. Warszawa: Oficyna Wydawnicza RYTM, 2005. S. 64.

10 Крэчэўскі П. Мандаты БНР. Даклад чытаны ў Беларускім Студэнцкім Клюбе ў Празе 16 студзеня 1926 г. // Спадчына, 1993, № 3. С. 3.

11 Ціхаміраў А. В. Станаўленне і развіццё беларуска-украінскіх адносін ў 1917–1920 гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://library.by/portalus/modules/belarus/readme.php?subaction=showfull&id=1141337326&archive=1291800676&start_from=&ucat=8&. Дата доступу: 13.01.2012.

1918-ы не стаў для беларусаў годам аднаўлення дзяржаўнасці. У адрозненне ад заходняга суседа (і Літвы), не хапіла ўнутранага патэнцыялу і знешняй падтрымкі каб забяспечыць БНР, абвешчанай 9 сакавіка з дэклараваннем незалежнасці 25 сакавіка 1918 г., жыццяздольнасцю. (Дарэчы, гэткі акт палякі здзейснілі толькі 11 лістапада таго ж года.) Сілы беларускага адраджэння на той гістарычны момант не маглі супрацьстаяць неспрыяльнаму ім міжнароднаму развіццю падзей па аб’ектыўных прычынах: разгром бальшавікамі ў канцы 1917 г. Усебеларускага Кангрэса / З’езда (хоць ён стаяў на савецкіх пазіцыях саюза з федэратыўнай Расіяй з мэтай фарміравання самастойнага беларускага кіраўніцтва на Беларусі) стварыў сітуацыю, у якой нацыянальныя сілы Літвы і Украіны апынуліся ў больш авантажным становішчы, што прымусіла звярнуць увагу ваюючых бакоў на праблему самавызначэння гэтых усходнееўрапейскіх народаў.

Арыентацыя Усебеларускага Кангрэса патрабуе асобнай увагі. Паводле сваёй рэзалюцыі, Кангрэс імкнуўся да «отстаивания цельности, неделимости Белоруссии и неотторжения ее от Российской Федеративной республики и всех остальных принципов демократического мира, провозглашенного Советом рабочих, солдатских и крестьянских депутатов»[12]. Больш таго, сведчанне размовы старшыні Кангрэса з камісарам па нацыянальных справах І. Сталіным даўно апублікаванае. У ім адказ Петраграда быў наступным: «Никакого насильственного удержания народов в рамках какого бы то ни было государства… («Декларация советской делегации на первом пленарном заседании Мирной конференции в Брест-Литовске» от 9 декабря 1917 г. — *А. Т.*) (дэкларацыя — *А.Т.)* народу обеспечивает права свободного самоопределения путем референдума. <…> По вопросу о Белоруссии могу сказать то же самое, что и обо всех прочих народах России, т. е. полное само-

[12] Усебеларускі з'езд 1917 года: сведчанне сучасніка // Беларускі гістарычны часопіс, 1993, № 4. С. 57.

определение вплоть до отделения»[13]. Здавалася б, гэтыя словы можна расцэньваць як дазвол на дзяржаўніцкую самадзейнасць, тым больш у звязе з федэралізмам Савецкай Расіі. Але праз колькі месяцаў чарговае выказванне І. Сталіна ўдакладняе вышэйсказанае: «Принцип на самоопределение должен быть средством борьбы за социализм»[14]. Гэтым самым давалася метадалагічная ўстаноўка адносна нацыянальнай палітыкі, у тым ліку і перадусім стасоўна беларускага народа. Інакш кажучы, нацыянальнай палітыцы адводзілася роля сродку, але не мэты. Тут да месца успомніць, што, паводле марксізму, сродкі апраўдваюць мэту. Таму калі насамрэч запахла беларускім сепаратызмам, хай сабе і з савецка-сацыялістычным "духам", яго адразу памкнуліся задушыць у зародку. Згодна пражэктаў У. Леніна, паводле накідаў пачатку студзеня 1918 г., планаваўся выхад Расіі з вайны, каб: 1) тым самым узмацніць Германію супраць саюзнікаў: «пусть они истощаются (пока не взорвет революция и у них)» 2) «сначала *додушить* русскую буржуазию и переорганизовать *социалистически* Россию, *затем* начинать революционную войну, ни на минуту не прекращая подготовки к ней». Каб не рызыкаваць лёсам сацыялістычнай рэвалюцыі, У. Ленін быў гатоў згубіць Польшчу, Літву і іншыя тэрыторыі (без сумневу, у той шэраг уваходзіла і Беларусь) на карысць Германіі. «Это — в е р н е е путь к международной социалистической революции»[15]. Ніякай самастойнасці Беларусі ў святле тых пражэктаў не прадбачылася.

Разгон Усебеларускага Кангрэса прытармазіў палітычнае станаўленне беларускай нацыі, а неспрыяльныя для нас

[13] Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917–1922 гг. (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мінск: БелНДІДАС, 1997. С. 28–29.

[14] Паводле: Някляеў У. Шлях. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 3. С. 243.

[15] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 54. М.: Государственное издательство политической литературы, 1975. С. 490–491.

міжнародныя падзеі ва Усходняй Еўропе прывялі да таго, што пытанне пра беларускую дзяржаўнасць, як і яе юрыдычнае кшталтаванне 9 і 25 сакавіка 1918 г., атрымала працяг пазней, чым у паўночнага і паўднёвага суседзяў. Аднак гэтай прыпозненасці было дастаткова, каб яно апынулася лішнім для ўсіх, акрамя саміх беларускіх адраджэнцаў, паколькі за гэты час быў заключаны шэраг міжнародных дагавораў, якія не прадугледжвалі самастойнасці Беларусі (што нават прывяло да правядзення па Заходняй Беларусі літоўска-ўкраінскай мяжы, праўда, толькі на мапе[16]). Зразумела, для Беларусі самы значны сярод іх быў Брэсцкі мірны дагавор.

Але ў канцы 1918 г. (пасля рэвалюцыі ў Германіі) бальшавіцкая Расія яго дэнансавала. З гэтага, асабліва з улікам прынятых самімі бальшавікамі дакументаў адносна дзяржаўнага самавызначэння народаў (vide supra), для дзеячаў БНР склалася спрыяльная юрыдычная сітуацыя. Тым больш, што 29.11.1918 г., калі на пераважнай частцы Беларусі не было ніякай улады, яны прынялі IV Устаўную грамату, якая паўторна дэкларавала незалежнасць і самастойнасць беларускай дзяржавы. Аднак бальшавікі  нават не звярнулі ўвагі на непадмацаваны ваеннай сілай голас маладой рэспублікі.

А. Сідарэвіч упэўнены ў a priori акупацыйных намерах Савецкай Расіі, чаго не хаваў і сам У. Ленін. У яго тэлеграме да І. Вацэсіса ад 29 лістапада 1918 г. ён называе ўкраінскія і прыбалтыйскія землі акупаванымі, адзначаючы пры гэтым, што стварэннем абласных часовых урадаў аднімаецца магчымасць разглядаць рух бальшавіцкіх войск як акупацыю[17]. Як бачым, бальшавіцкі правадыр яшчэ дбаў пра хоць нейкі мінімум вонкавай прыстойнасці. Дзеля гэтага і ствараліся так званыя абласныя бальшавіцкія ўрады для

[16] Лоза Ю. Західне Полісся: етнічні межі і політичні кордони // Пам’ятки України: історія та культура, 2002, № 3–4. С. 22.

[17] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 37. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 234.

Эстоніі, Латвіі, Літвы, Украіны. Беларусь у той шэраг не мела гонару патрапіць[18]. Прычынай таму, як будзе паказана далей, з'яўлялася еўрапейская геапалітычная кан'юнктура.

Аддзяленне ад Расіі, паводле У. Леніна, насамрэч дапускалася толькі тэарэтычна: «Мы за *автономию* **для всех** частей, мы за *право* отделения (а не *за отделение* всех!) <…> В общем, мы против отделения. Но мы стоим за право на отделение. <… > *Ничего*, абсолютно ничего кроме *права* на отделение здесь нет и быть не должно» (усе вылучэнні шрыфтам — аўтарскія)[19]. Такая вось імперыялістычная амбівалентнасць.

Выкрывае фарысейства У. Леніна і беларускі гісторык Іларыён Ігнаценка: «На пытанне: "што вышэй — права нацый на самавызначэнне або сацыялізм?" У. І. Ленін адказваў: "сацыялізм вышэй". "Ці дазволена з-за парушэння права нацый на самавызначэнне аддаваць на з'яданне Савецкую сацыялістычную рэспубліку, падстаўляць яе пад удары імперыялізму ў момант, калі імперыялізм заведама мацнейшы, а Савецкая рэспубліка заведама слабейшая? Не. Не дазволена. Гэта не сацыялістычная, гэта *буржуазная* палітыка". «З такім тлумачэннем У. Леніна можна было б пагадзіцца толькі пры адной умове — калі б размова ішла аб абароне сацыялістычнага грамадскага ладу. Але ў той час такая ўмова адсутнічала. Рэвалюцыя, якая адбылася ў кастрычніку 1917 г., не з'яўлялася сацыялістычнай, не было таксама і сацыялістычнага грамадскага ладу. Да 1920 г. У. Ленін быў упэўнены у тым, што ў кастрычніку 1917 г. сацыялістычнай рэвалюцыі ў Расіі не было»[20]. Само кіраўніцтва савецкай краіны маркіравала свой прыход да ўлады ў 1917 г. пераважна пераваротам. На практычную

---

[18] Сідарэвіч А. Старонкі з гісторыі БНР // Араджэнне: Гіст. альманах . Вып. 1 / Склад. і навук. рэд. А. П. Грыцкевіч. Мінск: Універсітэцкае, 1995. С. 226.

[19] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 48. М.: Государственное издательство политической литературы, 1982. С. 233–236.

[20] Ігнаценка І. М. Наша гісторыя // Весці Нацыянальнай акдэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук, 1999, № 1. С. 7.

несацыялістычнасць кастрычніцкай падзеі слушна ўказвае і польскі мысляр Лешак Калакоўскі: «Бальшавіцкі перавапрот у Расіі не заслугоўвае на гэткае найменьне таму, што не схіляў сваю моц з канфлікту паміж буйнапрамысловым пралетарыятам і капіталам; ён быў праведзены пад лозунгамі, якія ня мелі ніякага сацыялістычнага зьместу, ня кажучы ўжо пра зьмест марксісцкі (мір і зямля для сялянаў)»[21].

Нягледзячы на тое, што яшчэ летам 1916 г. У. Ленін катэгарычна не згаджаўся з тымі, хто адмаўляў няспеласць украінскага і беларускага нацыянальных рухаў[22], на самой справе бальшавікоў не турбавала пытанне пра беларускую дзяржаўнасць: у важных гістарычных дакументах Беларусь не згадвалася ў кантэксце народаў з правам на нейкую дзяржаўнасць[23]. Пакуль беларускі нацыянальны рух (як, зрэшты, і іншыя) набываў сілу пад царскай уладай, ён каталізаваўся бальшавікамі, бо такім чынам расхістваўся царызм. Яшчэ на самым пярэдадні кастрычніцкага перавароту У. Ленін, што праўда, у форме рытарычнай фігуры ўмоўнага ладу заяўляў пра «немедленное восстановление *полной* свободы Финляндии, Украины, Белоруссии, для мусульман и т.д.»[24] Калі ж бальшавікі захапілі ўладу, ім нацыянальныя рухі сталі муляць, і яны іх імкнуліся мінімізаваць ці фармалізаваць, а беларускі — на пэўны час увогуле быў выключаны з актуальнага кантэксту.

---

[21] Калакоўскі Л. Што сёньня вытлумачвае марксізм? // Быць (або ня быць) сярэднеэўрапейцам. Сучаснае польскае мысьленьне. Мінск: Выдавецтва «Энцыклапедыкс», 2000. С. 179.

[22] Даслоўна: «Для украинцев и белорусов, например, только человек, в мечтах живущий на Марсе, мог бы отрицать, что здесь нет еще завершения национального движения» (Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 30. М.: Государственное издательство политической литературы, 1980. С. 89).

[23] Паводле: Ігнаценка І. М. Наша гісторыя // Весці Нацыянальнай акдэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук, 1999, № 1. С. 5; Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 96.

[24] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 34. М.: Государственное издательство политической литературы, 1981. С. 299.

Тэарэтычныя дэкларацыі бальшавікоў засцілі вочы не ўсім. Некаторыя лідары беларускага нацыянальнага руху бачылі, што на практыцы савецкая Масква не збіраецца прадпрымаць нейкія крокі да задавальнення нацыянальных памкненняў беларусаў. Менавіта ў такім сэнсе гучыць меркаванне Я. Варонкі адносна І. Сталіна, погляды якога тут цалкам супадаюць з вышэй прыведзенымі словамі У. Леніна пра права на аддзяленне[25].

Традыцыя разглядаць Беларусь складовай часткай маскоўска-пецярбургскай Русі мае даўнюю гісторыю. На феномен стратэгічнай важнасці Беларусі для Расійскай імперыі звярнуў увагу яшчэ М. Мураўёў: «Здешний край искони был русским и должен им оставаться <…> польский элемент здесь есть пришлый и должен быть окончательно и решительно подавлен <…> в противном случае Россия безвозвратно лишится Западного края и обратится в Московию, т. е. в то, во что желают поляки и большая часть Европы привести Россию»[26]. NB: тут ідзецца менавіта пра Беларусь, а не пра іншыя каланізуемыя землі імперыі. Відавочна, бальшавікі гэта таксама разумелі і адпаведна дзейнічалі. (Дарэчы, на сучасным этапе, паводле меркаванні многіх палітычных дзеячаў — у тым ліку і расійскіх, — важнасць Беларусі для Расіі зноў актуалізавалася ў тым жа самым сэнсе, што чарговы раз пацвярджае рацыю Мураўёва.)

Заангажаваныя ў справах Беларусі бальшавікі мелі выразна антынацыянальныя намеры, аб чым можна аб'ектыўна меркаваць па словах галоўнага бальшавіцкага ідэолага «Заходняй вобласці» В. Кнорына, якія недвухсэнсоўна характарызуюць палітычную лінію бальшавікоў: «Мы лічылі, што беларусы не з'яўляюцца нацыяй і што тыя этнаграфіч-

[25] Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 48.

[26] Паводле: Токць С. Беларуская ідэнтычнасць у XIX ст. // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2005, Z. 24. S. 86.

ныя асаблівасці, якія іх аддзяляюць ад астатніх рускіх, павінны быць зжыты. Нашаю задачаю з'яўляецца не стварэнне новых нацыяў, а знішчэнне старых нацыянальных рагаткаў. Беларускі ж рух з'яўляецца такім узвядзеннем новых нацыянальных рагаткаў, якіх не было да гэтых пор, а таму камуністы не могуць у якім бы то ні было выглядзе прымаць удзел у гэтым руху. …Мы, камуністы, у тым краі, што вы называеце Беларуссю, працуем, не лічачыся з тым, якога мы роду і племені. <…> Беларускі рух — гэта адраджэнне ў пачварных формах сацыял-шавінізму, з якім мы так доўга вядзем барацьбу» (восень 1918 г.)[27]. У. Ленін яшчэ 29 красавіка 1917 г. адкрыта заяўляў: «Конечно, теперь насилие царит над Польшей, но чтобы польские националисты рассчитывали на освобождение ее Россией — это измена Интернационалу»[28]. А 22 верасня 1920 г., г. зн. пасля правалу наступлення на Варшаву, у палітычнай справаздачы ЦК IX Усерасійскай канферэнцыі РКП(б) У. Ленін прызнаўся не для друку, што тым наступам яны імкнуліся дапамагчы «саветызацыі Літвы і Польшчы»[29]. І калі з дзейнасцю БНР, якая імкліва слабела, бальшавікі маглі спраўляцца адной прапагандай, амаль не хаваючы сваіх намераў, то з моманту адраджэння Версальска-Вашынгтонскай сістэмы Польшчы, якая адразу выявіла імперскія амбіцыі, беларуская праблема запатрабавала ад Крамля аператыўнага і прагматычнага вырашэння.

Лакалізацыя новай Польшчы ў межах яе этнічных тэрыторый, на думку аднаго з польскіх лідараў Р. Дмоўскага, прывяло б у будучыні да знікнення польскай дзяржавы[30],

---

[27] Паводле: Казбярук У. «Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты…» // Полымя, 1995, № 7. С. 244-245; Някляеў У. Шлях. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 3. С. 243.

[28] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 31. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 433.

[29] Паводле: Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 – 1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 130.

[30] Паводле: Милякова Л. Б. Польша на пути к моноэтническому государству (1918–1947гг.) [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.history.machaon.ru/all/number_13/analit4/milyakova/index.html. Дата доступу: 13.01.2012.

хоць сам гэты палітык лічыў, што нацыянальная польская дзяржава можа адмовіцца ад «крэсаў»[31]. Што было цалкам верагодна, бо ў адрозненне ад Савецкай Расіі, якая прэтэндавала на ўсю Польшчу, апошняя імкнулася толькі пашырыць сваю тэрыторыю за кошт «крэсаў», на якіх меўся пэўны працэнт палякаў. У сучаснай польскай гістарыяграфіі існуе наступнае меркаванне: «Спачатку прадстаўніцтва Польшчы настойвала на аднаўленні межаў 1772 г., каб пазней — з улікам сітуацыі ў асобных рэгіёнах былой Рэчы Паспалітай — часткова адмовіцца ад разлеглых абшараў на ўсходзе і дамагацца на захадзе тых зямель, на якіх пражывалі палякі»[32].

Пазіцыя Польшчы (у далейшым будзем называць яе і паўзабытым у гістарыяграфіі сапраўдным найменнем — Польская Рэспубліка, а не выдуманым post factum "II Рэч Паспалітая") у дачыненні да Беларусі была ў нейкім сэнсе вымушанай (што, аднак, яе не апраўдвае, але тлумачыць дэтэрмінізм): каб не стаць другой Украінай, якая ўрэшце пасля ўпартай барацьбы трапіла назад пад уладу «маскалёў», палякі выяўлялі большыя прэтэнзіі — «ад мора да мора», што дазволіла б (і ўрэшце дазволіла) захаваць ядро дзяржавы. Больш таго, ваеннастратэгічныя пралікі М. Тухачэўскага і савецкай дыпламатыі далі магчымасць Польшчы устанавіць сваю мяжу далёка на ўсход ад лініі Керзана, якая спачатку расцэньвалася як дзяржаўная. Да таго ж, каб краіны суседзі, у тым ліку і перш за ўсё Польшча, не здолелі замацаваць сваю незалежнасць, наўрад ці бальшавікоў турбавала б пытанне пра беларускую дзяржаўнасць. Як лічыць у сваім публіцыстычным эсэ беларуска-польскі літаратар Сакрат Яновіч, «перамога Тухачэўскага з Дзяржынскім пад Варшаваю ў 1920 г. працягнула б польскае бездзяржаўе (з канца XVIII ст.), нягледзячы на ўтварэнне Польскай ССР ад Шлёнску да Бярэзіны, з Беларускай АССР на

[31] Паводле: Смалянчук А. Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі нацыянальны рух на беларускіх і літоўскіх землях. Гродна, 2001. С. 318.

[32] Нарыс гісторыі Польскай Дзяржавы і Народа. X – XXI стст. Варшава: Demart Sp. Z o.o. 2006. С. 205.

прасцягу Менскай губерні. Быў такі план, выраблены ў Беластоку»[33].

Такім чынам, адпачатку было бачна, што «вышэйшыя інтарэсы рэвалюцыі ўжо на стадыі юрыдычнага афармлення БССР прадвызначылі яе незайздросны лёс, і яна павінна была спыніць сваё існаванне». Гэтую выснову зрабілі сучасныя беларускія гісторыкі, дактары навук Р. Платонаў і М. Сташкевіч на аснове аналізу матэрыялаў аб стварэнні савецкай дзяржаўнасці Беларусі[34].

Відавочна, без тэрытарыяльных прэтэнзій версальскай Польскай Рэспублікі на беларускія землі аўтэнтычнасць беларускае нацыі і яе права на геапалітычную хаця б намінальнасць былі б праігнараваны бальшавіцкай Расіяй. Яшчэ ў снежні 1918 г. савецкае кіраўніцтва займала пазіцыю непрымання беларускага сепаратызму ў якім бы там ні было выглядзе. «У газэце "Западная Коммуна" (орган Аблвыкамзаху) 21.12.1918 г. (г.зн. за 6 дзён перад адкрыцьцём 6-ай абласной партыйнай канфэрэнцыі) публікуецца рэдакцыйны артыкул "Национальные республики Советов". У вартыкуле даводзіцца патрэба захаваць вобласьці й немэтазгоднасьць тварыць нацыянальныя рэспублікі, якія, калі й творацца, то вылучна дзеля тактычных меркаваньняў. "Спрашивается, зачем эта игра в советские республики?.. Ведь для нас ясно, что Советская власть ставит своей задачей... не создание национальной обособленности в рамках маленьких национальных государств, а снесение всяких национальных рогаток. Провозглашение Советской республики Белоруссии не только не служило бы интересам борьбы с националистическими тенденциями мелкой буржуазии, но как раз развивало бы простор этим тенденциям. А это не в интересе социалистической революции. То, что мы признаем допустимым

---

33 Яновіч С. Беларусь заўтра // ARCHE–Пачатак, 2004, № 2. С. 73; гл. таксама: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 79, 206.

34 Паводле: Малыхіна Л. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс, 2003, № 4. С. 46.

в одном месте в силу тактических соображений, не должно быть перенесено в другие места, где таковых практически соображений нет и быть не может”»[35]..

Аднак ужо 25 снежня 1918 г. па ініцыятыве І. Сталіна адбылася нарада з удзелам кіраўнікоў Беларускага нацыянальнага камісарыята дзеля абмеркавання пытання «аб дзяржаўным уладкаванні Беларусі», якое завяршылася высновай, што «з прычыны сучасных міжнародных адносін, якія склаліся, у мэтах умацавання і пашырэння заваёў сацыялістычнае рэвалюцыі ў сусветным маштабе ў цяперашні момант поўнасцю наспела неабходнасць абвяшчэння Беларусі, як самастойнай ва ўсіх адносінах нацыі, незалежнай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай». Хаця яшчэ зусім нядаўна адміністрацыйная камісія пры Усерасійскім ЦВК «прапанавала захаваць Заходнюю вобласць у складзе Смаленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Менскай і Гродзенскай губерняў» у складзе РСФСР, што афіцыйна замацаваў Усерасійскі ЦВК 23 снежня 1918 г.[36] У абставінах, калі Захад рэальна пагражаў Савецкай Расіі, урад бальшавікоў выпрацоўваў «палітыку абароны рэвалюцыі», якая прадугледжвала ўтварэнне уздоўж заходняй мяжы ланцуга савецкіх рэспублік — тут найперш меліся на ўвазе Украінская, Эстонская, Латвійская і Літоўская рэспублікі. Польшча павінна была замкнуць гэты ланцуг, стаўшы апошнім яго звяном. Аднак надзеі на рэвалюцыю ў Польшчы не спраўдзіліся. Таму яе ролю ўсклалі на Беларусь[37].

На пачатку 1919 г., г. зн. адразу пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі, У. Ленін адзначаў, што рэспубліка буферная

[35] Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выданьне 2-ое. Клыўлэнд, 1985 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://knihi.com/kalubovic/ajcy.html. Дата доступу: 13.01.2012. Мяркуючы па стылю аўтарства артыкула належыць Вільгельму Кнорыну (пар.: Казбярук У. «Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты…» // Полымя, 1995, № 7. С. 244–245; Някляеў У. Шлях. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 3. С. 243).

[36] Міхнюк У. Першае абвяшчэнне ССРБ: умовы, прычыны, значэнне // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 3. С. 6–7.

[37] Гл.: Ігнаценка І. М. Наша гісторыя // Весці Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Серыя гуманітарных навук, 1999, № 1. С. 5–6.

і патрэбная толькі таму, што мяжуе з варожымі краінамі, а што тычыцца ўсходніх яе губерняў (Смаленскай, Віцебскай і Магілёўскай), то іх можна выключыць са складу рэспублікі, бо яны злучаныя з Расіяй[38]. Дарэчы, адразу пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі 1 студзеня 1919 г. пэўны час (літаральна некалькі тыдняў) яна ахоплівала амаль усю беларускую этнічную тэрыторыю — пяць губерняў (адпаведная пастанова была прынята 30 снежня 1918 г. беларускімі бальшавікамі[39]). «Тэрыторыя БССР у такіх памерах нават па самых прыблізных падліках складала больш за 300 000 кв. км з насельніцтвам блізу 10 млн. чалавек»[40]. Але з аглядкай на пагрозу, што ў пэўнай сітуацыі Беларусь можа быць адарванай ад Савецкай Расіі з пяццю губернямі, пакінулі толькі дзве з іх[41]. Устаноўку У. Леніна ажыццявілі на пасяджэнні Цэнтральнага Бюро КП(б) Беларусі 22 студзеня 1919 г., у пратаколе якога А. Іофе падкрэсліваў, што бальшавіцкае кіраўніцтва вырашыла стварыць паміж Савецкай Расіяй і імперыялістычным акружэннем, у першую чаргу мелася на ўвазе Польшча, шэраг рэспублік-буфераў, чым быў бы пастаўлены бар’ер націску імперыялістаў[42].

Была і другая прычына абмежавання памераў БССР — «жаданне ЦК РКП(б) аслабіць у рэспубліцы нацыянальныя

[38] Паводле: Платонов Р., Сташкевич Н. Тернистый путь к свободе // Неман, 1992, № 10. С. 155.

[39] Постановление I съезда КП(б)Б о границах Белорусской Советской Социалистической Республики // История Беларуси в документах и материалах / Авт.-сост. И. Н. Кузнецов, В. Г. Мазец. Мінск: Амалфея, 2000. С. 339–340.

[40] Хоміч С. Асноўныя этапы фармавання тэрыторыі БССР (1918–1926) // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 7. Сш. 2. Менск, 2000. С. 353.

[41] Гл. падрабязней пра развіццё тых падзей адпаведныя дакументы ў: Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 276–282.

[42] Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917–1922 гг. (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мінск: БелНДІДАС, 1997. С. 95.

тэндэнцыі»[43]. Гэтага фактара таксама не хавалі бальшавіцкія кіраўнікі тагачаснай Беларусі[44]. «С целью защитить соседей от большевистской заразы нужно было разжечь пагубные националистические чувства и заглушить классовые противоречия. <…> Но когда на тот же путь вступило правительство (на чале з З. Жылуновічам — *А. К.*), декретировавшее выделение Белорусской республики, на сцене снова появился белорусский язык. Целесообразность этого акта мы никак понять не можем ни экономически, ни политически, ни этнографически. Положение пяти губерний, вошедших в состав Белорусской Республики, ничем существенным не отличается от остальных губерний Советской России. Нам нужно классовое самоопределение, но не искусственное национальное…»[45] — такія тэлеграмы слалі бальшавіцкія прадстаўнікі ледзь не з самага пачатку стварэння Савецкай Беларусі. Пры гэтым яны нават прызнавалі канструктыўныя моманты ў існаванні БНР — але толькі для пэўнага гістарычнага моманту. Польскі даследчык В. Матэрскі лічыць, што да таго ж падзел Беларусі ствараў Маскве камфортныя ўмовы для саветызацыі рэспублікі і знішчэння яе нацыянальнай інтэлігенцыі[46].

Цікава, што, нягледзячы на гэта, знешнепалітычны кантэкст вымусіў Маскву нават прызнаць немэтазгодным хуткае ўключэнне Беларускай рэспублікі ў склад Савецкай Расіі на правах федэрацыі, бо апошняе «ліквідуе ўсю выгаду існавання буфераў-рэспублік», і прапанаваў метад працяг-

[43] Хоміч С. Асноўныя этапы фарміравання тэрыторыі БССР (1918–1926) // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 7. Сш. 2. Менск, 2000. С. 353.

[44] Гл.: Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917–1922 гг. (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мінск: БелНДІДАС, 1997. С. 95.

[45] Паводле: Каўка А. Тэрыторыя ці нацыя? // Беларусіка-Albaruthenika: Кн. 2 / Рэд. А. Анціпенка і інш. Мінск: Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, 1993. С. 46.

[46] Матэрскі В. Рыжскі трактат і Беларусь // Беларускі гістарычны часопіс, 2002, № 5. С. 45.

лых перамоў пра федэрацыю[47]. 5.02.1919 г. газета «Звезда» ў рэдакцыйным артыкуле «К итогам сьезда Советов Белоруссии» тлумачыць: «Почему съезд ограничился только пожеланием о вступлении в Российскую Советскую федерацию, почему он сразу не претворил в дело свое пожелание о полном объединении с Россией? Для этого были очень и очень важные причины международно-политического характера. Перед Белоруссией был поставлен вопрос, как она принесет больше пользы... существуя как самостоятельная республика... политическая мудрость говорит нам, что мы должны пока существовать самостоятельно». Разам з тым, працягвае артыкул, «съезд подтвердил, что потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию “своего” белорукого языка, “своей” национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели»[48].

У адной са сваіх публікацый беларускі гісторык У. Ладысеў насуперак і гістарычным дакументам, і сваім ранейшым перакананням[49] у якасці лейтматыву адлучэння трох губерняў ад БССР вызначае гаспадарчы фактар: маўляў, тыя рэгіёны былі эканамічна знітаваныя з Цэнтральнай Расіяй[50]. Але, па-першае, тут аўтар спасылаецца на дакументы (дагэтуль нібыта малавядомыя), сфармуляваныя за год да тых падзей, а сітуацыя тады мянялася ледзь ні штодзённа.

---

[47] Снапкоўскі У. Знешнепалітычная дзейнасць Беларускай ССР (1919–1929 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс, 2001, № 3. С. 28.

[48] Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выданьне 2-е. Клыўлэнд, 1985 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://knihi.com/kalubovic/ajcy.html. Дата доступу: 13.01.2012.

[49] Напрыклад: Ладысеў У. Ф. Да пытання нацыянальна-тэрытарыяльнага адзінства беларускіх зямель у 20-я гады // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі / Пад рэд. І. П. Крэня. Гродна: ГрДУ, 1998. С. 104; Ладысеў У. Ф. Праблемы станаўлення беларускай дзяржаўнасці на савецкай аснове // Актуальныя праблемы гісторыі Беларусі: стан, здабыткі і супярэчнасці, перспектывы развіцця: Матэрыялы рэспуб. навук. канф.: У 4 ч. Ч. 1 / Пад рэд. І.П. Крэня, У. І. Навіцкага, І. А. Змітровіча. Гродна: ГрДУ, 2003. С. 61–62.

[50] Ладысеў У. Расійскі фактар і беларуская дзяржаўнасць у 20-я гады XX ст. // Беларуская думка, 2006, № 2. С. 117–118.

Па-другое, падобную думку знаходзім у манаграфіі Н. В. Каменскай «Первые социалистические преобразования в Белоруссии», выдадзенай у 1957 г.[51] І, па-трэцяе, так і карціць запытацца: а хіба пакінутыя БССР Менская і Гродзенская губерні былі меней інтэграваныя ў агульнарасійскую эканоміку, хіба іх гаспадарка арыентавалася на Захад? Больш таго (гэта ўжо па-чацвёртае), беларускія нацыянал-камуністы ў пачатку 1920-х пераканаўча даводзілі, што якраз эканамічна адарваныя губерні складаюць з Менскай адзін вытворча-гаспадарчы і этнаграфічны беларускі кантэкст (прычым гэты аргумент публікуецца самім жа У. Ладысевым!)[52]. (У дадзеным выпадку У. Ладысеў змяняе сваю пазіцыю яўна пад уздзеяннем палітычнай кан'юнктуры, бо казаць адмоўна пра «расійскі фактар» для гісторыі Беларусі тым часам было крамольна.) Між іншым, нават У. Ленін (у сувязі са стварэннем гаспадарчай базы Савецкай Расіі) на Беларусь не звяртае нават мінімальнай увагі — у адрозненне, напрыклад, ад стратэгічна важнай у гэтым сэнсе (сваімі запасамі хлеба і вугалю) Украіны[53]. Аўтары апошняй шматтомнай сінтэзы па гісторыі Беларусі (у прыватнасці гэта І. Ігнаценка і С. Хоміч) аддаюць перавагу менавіта знешнепалітычнаму фактару пры абвяшчэнні БССР, а, як яны зазначаюць, «этнічныя, эканамічныя, культурныя і іншыя аспекты да ўвагі не прымаліся»[54]. Да таго ж, як заўважае беларускі гісторык А. Дзядзінкін, рашэнне VI Паўночна-Заходняй канферэнцыі РКП(б) аб утварэнні Беларускай Рэспублікі супала з падачай афіцыйнай заявы Польскага міністэрства замежных спраў ураду РСФСР аб тэры-

---

[51] Гл.: Малыхіна Л. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс, 2003, № 4. С. 45, 49.

[52] Доклад в Ц. Б. Коммунистической партии Белоруссии // Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ. 2003, С. 287–291.

[53] Ленин В. И. Сочинения. Т. 29. М.: Государственное издательство политической литературы, 1955. С. 64–66, 234–235, 248 і інш.

[54] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэдактар) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2006. С. 106–107.

тарыяльных прэтэнзіях, што з’яўляецца важным аргументам на карысць знешнепалітычнага фактару ўтварэння БССР[55]. Дый самі бальшавікі афіцыйна шматкроць у 1919 г. казалі пра знешнепалітычныя фактары стварэння Беларускай Рэспублікі. Вось як апісваецца сітуацыя беларускім дзеячам-эмігрантам Аўгенам Калубовічам: «Ужо на самой 6-ай абласной канфэрэнцыі дакладчык у пытаньні абвешчаньня БССР А. Мясьнікоў (ён толькі што вярнуўся з Масквы, куды яго ў гэтым пытаньні выклікалі), каб “местные товарищи согласились с доводами центра... в целесообразности создания нового положения”, хоць і разглядаў абвешчаньне БССР як якуюсь уступку Беларускім сэкцыям РКП(б), за галоўны матыў абвешчаньня выстаўляў міжнародны фактар. Заходнія дзяржавы даюць народам “буржуазнае самавызначэньне” (у раёне Заходняй камуны — гэта БНР і Летувіская манархія), яму трэба супрацьпаставіць самавызначэньне на базе савецкай улады. “Нужно противоядие “союзным начинаниям”, каторае-б із большым шансам магло “замкнуть” “проход”, праз які “силы черного интернационала” “устремляются на Советскую Россию”. Іншымі словамі: калі-б ня было БНР, не тварылася-б і БССР; БССР — гэта супрацьвага (“противоядие”) БНР, клін супраць БНР і прытым напачатку вылучна прапагандовы, без запраўднага жаданьня тварыць яе. Тымі-ж матывамі палітычнай каньюктуры мамэнту тлумачыў абвешчаньне БССР на згадванай Віцебскай губэрнскай канфэрэнцыі КП(б)Б сябра ЦБ (і ўраду БССР ад групы Заходняй камуны) Р. Пікель; а таксама й другі сябра ЦБ (і ўраду БССР ад тэй-жа групы) С. Іваноў на Смаленскай губэрнскай канфэрэнцыі КП(б)Б, заявіўшы, што абвешчаньне БССР — гэта тактычны манэўр партыі з мэтаю паралізаваць палітыку вільсонаўскага лёзунгу самавызначэньня народаў, ужываную Заходнімі дзяр-

[55] Дзядзінкін А. Л. «Нацыянальнае пытанне» ў праграме бальшавікоў // Актуальные проблемы из исторического прошлого и современнсоти в общественно-гуманитарных и социо-религиоведческих науках Беларуси, ближнего и дальнего зарубежья: материалы международной научно-теоретической конференции, Витебск, 19–20 апреля 2007 г. / Вит. гос. ун-т; редкол.: В. А. Космач (гл. ред.) [и др.]. Витебск: Издательство УО «ВГУ им. П. М. Машерова», 2007. Ч. 1. С. 100.

жавамі. 24.9.1919 г. сакратар ЦК КП(б) Летувы й Беларусі В. Кнорын у газэце “Звезда” ў гэтай справе пісаў, што “Коммунистическая партия... мотивировала свой шаг исключительно причинами международного характера”. Ні А. Мясьнікоў, ні іншыя кіраўнікі КП(б)Б не паклікаліся пры гэтым на самае галоўнае: на права беларускага народу на нацыянальнае самавызначэньне»[56]. Праўда, нават тыя былыя праціўнікі стварэння дзяржаўнасці Беларусі, пераследуючы свае інтарэсы, якія па ўсёй верагоднасці заключаліся ў маштабе іхняй улады, выступілі супраць аддзялення ад Беларускай Рэспублікі ўсходніх губерняў, абгрунтоўваючы сваю пазіцыю эканамічнымі фактарамі[57].

Фактычна той жа комплекс чыннікаў (пагроза з боку Польшчы і дзейнасць нацыянальных сіл) дэтэрмінаваў абвяшчэнне ЛітБел, якой мы тут не надаем лішняй увагі, бо гэтая рэспубліка, неўзабаве паглынутая польскімі агрэсарамі, у развіцці падзей сыграла значна меншую ролю, чым спробы стварэння беларускай савецкай дзяржаўнай адзінкі. Тым больш што і ў сучаснай гістарыяграфіі няма прынцыповых разыходжанняў у інтэрпрэтацыях гэтага палітычнага акту. Хіба што варта адзначыць яшчэ большую брутальнасць, з якой гэтым разам вырашалася доля Беларусі. Стварэнне ЛітБел, паводле меркавання У. Ладысева, да ўсяго яшчэ і здымала “пытанне аб правамернасці далучэння ўсходніх этнічных тэрыторый да РСФСР”[58]. Гэтае аб’яднанне сталася ліквідацыяй хай сабе і намінальнай Беларускай Рэспублікі і выклікала крызіс у яе ўрадзе, які пакінулі тры наркамы — Ф. Шантыр, У. Фальскі і Я. Дыла. Такім чынам паслабляўся не толькі нацыянальны беларускі рух у цэлым, але і пазіцыі пракамуністычных беларускіх дзеячаў.

---

[56] Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выданьне 2-ое. Клыўлэнд, 1985 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://knihi.com/kalubovic/ajcy.html. Дата доступу: 13.01.2012

[57] Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX стагоддзя: Курс лекцый / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш. Мінск: РІВШ БДУ, 2002. С. 309.

[58] Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX стагоддзя: Курс лекцый / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш. Мінск: РІВШ БДУ, 2002. С. 309.

У гэткіх варунках правядзенне І Усебеларускага з'езда Саветаў на пачатку лютага 1919 г. было больш падобна да нонсенсу. Таму ён і не стаў пачаткам рэальнай дзейнасці ў рамках беларускай савецкай дзяржаўнасці, што было б лагічным для такога форума, тым больш што ім можна было б паспрабаваць зацьміць аналагічную снежаньскую падзею пад тоеснай назвай, калі ў 1917 г. беларускія дэпутаты былі разагнаныя, хоць і не ішлі папярок савецкай уладзе. Тая падзея выявіла ўсю шырыню і глыбіню разгортвання беларускага нацыянальнага руху, які стаўся пад канец 1917 г. сапраўды народным, хоць і дэклараваў, што незалежніцкія тэндэнцыі беларусаў не імкнуцца да радыкальнай аўтаноміі ў складзе Расіі. Аднак і гэтага, як палічылі бальшавікі, было ўжо занадта — і, напіўшыся[59], разагналі дэмакратычны сход. Яго савецкі аналаг у лютым 1919 г. праводзіўся па сцэнары, складзеным у Маскве (што затым стала рэгулярна практыкавацца), быў скліканы ў адміністратыўным парадку з неабходным для бальшавікоў падборам кандыдатаў без уліку тэрытарыяльных прапорцый — дэмакратызмам там і не пахла[60]. З'езд прадубліраваў рашэнне крамлёўскіх кіраўнікоў аб утварэнні Літоўска-Беларускай ССР і — як ні парадаксальна — прыняў першую Канстытуцыю БССР ды дзяржаўную сімволіку[61]. Натуральна, рэальнай улады ў аб'яднанай рэспубліцы беларусы не мелі. Але і гэтае ўтварэнне з наступленнем войска польскага неўзабаве спыніла існаванне.

Пасля выгнання палякаў з Беларусі перад другім абвяшчэннем БССР (паралельна існавала — на афіцыйным узроўні — і назва ССРБ, Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь) летам 1920 г. прадстаўнікі апазіцыі такога абвяш-

---

[59] Захарка В. Галоўныя момэнты беларускага руху // Спадчына, 1997, № 5. С. 14; Гадлеўскі В. Зь беларускага палітычнага жыцьця ў Менску ў 1917–1918 гг. // Спадчына, 1997, № 5. С. 26–27.

[60] Гл. падрабязней: Калубовіч А. «Айцы» БССР і іхны лёс. Выданьне 2-ое. Клыўлэнд, 1985 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://knihi.com/kalubovic/ajcy.html. Дата доступу: 13.01.2012..

[61] Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX стагоддзя: Курс лекцый / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш. Мінск: РІВШ БДУ, 2002. С. 310.

чэння — кіраўнікі Заходняй вобласці Р. Пікель і І. Рэйнгольц паслалі ў ЦК КП(б) ЛіБ тэзісы «Да пытання аб стварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі». У гэтых тэзісах, як адзначаюць Р. Платонаў і М. Сташкевіч, беларускаму народу фактычна адмаўлялася ў праве на самавызначэнне і стварэнне сваёй нацыянальнай дзяржаўнасці з наступным падагульненнем: «Сучасныя міжнародныя абставіны і рэальная суадносіны сіл між Савецкай Расіяй і капіталістычнымі краінамі Захаду зусім іншыя, чым у перыяд акупацыі Беларусі ў канцы 1918 г. У сувязі з гэтым пастаноўка пытання аб Савецкай Беларусі павінна быць іншай. <…> У перыяд рэакупацыі 1918 г. стварэнне Беларускай Рэспублікі апраўдвалася ў першую чаргу неабходнасцю мець буферную дзяржаву між савецкай Расіяй і белагвардзейскай Польшчай, на выпадак засцярогі Савецкай Расіі ад нечаканага ўдару з боку белай Польшчы. Матывы этнаграфічнага, эканамічнага і культурнага характару выконвалі пры стварэнні Савецкай Рэспублікі пабочную ролю. <…> Цяпер барацьба Савецкай Расіі з белай Польшчай не патрабуе ніякіх скрытых форм. Разгром яе, стварэнне ў ёй Савецкай Рэспублікі — чарговая задача сусветнай рэвалюцыі. Адсюль неабходнасць стварэння Беларускай Савецкай Рэспублікі павінна быць абгрунтавана іншымі аргументамі, чым стварэнне такой у 1918 г. Імі могуць быць — этнаграфічныя, эканамічныя і культурныя перадумовы. <…> Беларусы – не асобная нацыянальнасць або народнасць. Іх мова, рэлігія, культура нічым не адрозніваюцца ад велікарускай. Беларускі нацыяналізм — чыста інтэлігенцкі мяшчанскі рух (і то нязначная частка), які не мае ніякай падтрымкі сярод працоўных мас». Калі зыходзіць з тэзісаў, неабходна было вырашыць наступныя задачы: «1) падрыхтаваць меркаванні працоўных мас Беларусі да поўнага зліцця ва ўсіх адносінах з Савецкай Расіяй; 2) пакласці пачатак правільнаму, здароваму савецкаму будаўніцтву шляхам стварэння моцных губорганаў і паветцэнтраў на месцах; 3) савецкае будаўніцтва Белрэўкома павінна весціся выключна па лініі стварэння цвёрдага, якасна моцнага губернскага апарата Савецкай улады з адпаведнымі органамі на месцах на ас-

новах і палажэннях, якія прыняты для ўсіх губцэнтраў у Савецкай Расіі»[62].

Увогуле ў 1920 г. адносна беларускага пытання бальшавікі вагаліся найбольш: сваю тактыку ЦК РКП(б) будаваў тут з улікам прасоўвання на захад Чырвонай Арміі, а яе поспехі былі пераменлівымі (нават цягам аднаго летняга сезона). Як толькі наступ аказваўся няўдалым, адразу паўставалі структуры для фармальнага замацавання прасавецкай Беларусі і наадварот[63]. Бальшавікі працягвалі гандлявацца беларускай зямлёй спярша з незалежнай Літвой[64], а пазней — з Польшчай. Таму абвяшчэнне ССРБ 31 ліпеня 1920 г. падчас наступлення Чырвонай Арміі з'яўлялася таксама фармальным актам (і, верагодна, з улікам сітуацыі ў Польшчы, рэкламна-прапагандысцкім). Вось чаму нацыянальныя сілы (у першую чаргу даволі папулярныя тады эсэры) пад ім не падпісаліся[65]. У гэтай сувязі неабходна адзначыць і ўкраінскі фактар: у маі 1920 г. польска-ўкраінскія войскі адбілі ў Чырвонай Арміі Кіеў, што, у сваю чаргу, актывізавала дзеянні лідараў беларускага нацыянальнага руху[66]. І хаця паралельна з ССРБ рыхтаваўся праект «поўнага зліц-

[62] Паводле: Платонов Р., Сташкевич Н. Тернистый путь к свободе // Неман, 1992, № 11. С. 156–157; або: Платонаў Р., Сташкевіч М. Так вырашаўся лёс Беларусі. З гісторыі барацьбы палітычных партый за беларускую дзяржаўнасць у 20-я гады // Маладосць, 1993, № 4. С. 197–199.

[63] Гл. падрабязней: Платонов Р., Сташкевич Н. Тернистый путь к свободе // Неман, 1992, № 11. С. 155–156; або: Платонаў Р., Сташкевіч М. Так вырашаўся лёс Беларусі. З гісторыі барацьбы палітычных партый за беларускую дзяржаўнасць у 20-я гады // Маладосць, 1993, № 4. С. 196–197.

[64] Грыцкевіч А. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына, 1994, № 4. С. 56; Мирный договор между Россией и Литвой. 12 июля 1920 г. // Спадчына, 1993, № 5. С. 48–55.

[65] Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917 — 1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 131–132.

[66] Кукса А. Н. Польско-советская война и белорусско-украинские отношения (1919–1920 гг.) // Актуальные проблемы из исторического прошлого и современнсоти в общественно-гуманитарных и социо-религиоведческих науках Беларуси, ближнего и дальнего зарубежья: материалы международной научно-теоретической конференции, Витебск, 19–20 апреля 2007 г. / Вит. гос. ун-т; редкол.: В. А. Космач (гл. ред.) [и др.]. Витебск: Издательство УО «ВГУ им. П. М. Машерова», 2007. Ч. 1. С. 110.

ця» Беларусі «ва ўсіх адносінах з Савецкай Расіяй» (паўтараем працытаваныя словы Р. Пікеля і І. Рэйнгольца, па якіх і можна меркаваць пра тыя планы), аднак з наступленнем войск Пілсудскага і пагрозай адрыву беларускіх зямель ад савецкае краіны планы тыя відавочна страцілі актуальнасць. Дарэчы, «фікцыйнасьць юрыдычнага статусу БССР падкрэсьліваў іншы факт: летам 1920 г. не быў створаны ўрад рэспублікі, замест якога паўстаў у Менску Ваеннарэвалюцыйны камітэт з кампетэнцыямі губэрнскага органу ўлады. Усё гэта сьведчыла аб ваганьні і няўпэўненасьці кіруючых органаў РСФСР што да лёсу Беларусі»[67]. У канцы 1920 г. А. Чарвякоў нагадаў пра крайне ненармальнае становішча ў сувязі з неўрэгуляванасцю дзяржаўных стасункаў Беларусі і РСФСР, на што У. Ленін прапанаваў: «Червякову поручить *спешно* выработку проекта *детального* письма ЦК РКП о Белоруссии и *декрета* СНК о том же (тайного)»[68]. Перамовы скончыліся падпісаннем 16 студзеня 1921 г. «саюзнага рабоча-сялянскага дагавора» паміж рэспублікамі. Але і ён, з'яўляючыся хутчэй фікцыяй раўнапраўя, не вызначаў канчаткова беларуска-расійскіх адносін, пакідаючы Маскве шырокае поле для маніпулявання Беларуссю.

Пад канец лета 1920 г. (у сувязі з паспешлівым адступленнем Чырвонай Арміі на савецка-польскім фронце) ідэя буфернасці Беларусі зноў актуалізавалася. Гэтым разам планавалася аддаць пад Савецкую Беларусь 18 паветаў. Ізноў было катэгарычна адмоўлена ўлучыць сюды ўсходнюю частку этнічна беларускіх зямель уключна з Віцебскам, Смаленскам і Магілёвам на той падставе, што нібыта там няма ніякіх беларусаў, як заявіў В. Кнорын[69]. Хоць у «Дэкларацыі пра абвяшчэнне незалежнасці ССРБ» ад 31 ліпеня

---

[67] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 79.

[68] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 54. М.: Государственное издательство политической литературы, 1975. С. 436, 718–719.

[69] Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 2. XIX – XX стагоддзя: Курс лекцый / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш. Мінск: РІВШ БДУ, 2002. С. 325.

1920 г. чорным па беламу было напісана, што межы рэспублікі з Савецкай Расіяй і Украінай вызначаюцца «вольным выражэннем беларускага народа на павятовых і губернскіх з'ездах Саветаў у поўнай згодзе з урадам РСФСР і ССРУ»[70]. (Нехта ў таго народа пытаў!)

Савецка-польская вайна знясіліла абодва бакі і яны пагадзіліся на заключэнне мірнага дагавора. У той час большая частка ССРБ знаходзілася ўжо пад польскай акупацыяй. Ніводную з дзвюх беларускіх дэлегацый (ад БНР і ад ССРБ) за стол перамоў не пусцілі. Паводле мандата ад Ваеннарэвалюцыйнага камітэта ССРБ, яе інтарэсы прадстаўляла дэлегацыя РСФСР. Пазіцыя апошняй стасоўна мяжы з Польшчай, пра што казалася вышэй, была няпэўнай. І ў Рызе бальшавіцкая беспрынцыпнасць была чарговы раз прадэманстравана. Калі яшчэ летам 1920 г. Масква дамагалася правядзення савецка-польскай мяжы па «лініі Керзана», дык праз некалькі месяцаў яна прадэманстравала, што можа ахвяраваць усёй новастворанай Савецкай Беларуссю (чым фактычна выявіла свае адносіны да яе функцыі ў міжнароднапалітычных варунках). Больш таго, 23 верасня 1920 г. Усерасійскі выканаўчы камітэт звярнуўся да кіраўніцтва Польшчы з прапановай адкінуць пытанні аб самавызначэнні народаў і абмежавацца ўстанаўленнем усходняй граніцы Польшчы[71]. Толькі і гэта яшчэ не ўсё. Масква аддавала ССРБ Польскай Рэспубліцы фактычна на ўмовах непрызнання гэтай тэрыторыі беларускай, што станавілася перашкодай для стварэння "беларускага П'емонту" на тэрыторыі адроджанай польскай дзяржавы. Разам з тым, гэтакім чынам бальшавіцкі Крэмль манапалізоўваў прэрагатыву арганізацыі беларускай дзяржаўнасці, якую да таго ж мусіла прызнаць Варшава.

[70] Декларация о провозглашении независимости Совесткой Социалистической Республики Белоруссии // Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 285.

[71] Паводле: Літвін А. М. Пакт Рыбентропа-Молатава і Беларусь: да пытання вывучэння праблемы аб'яднання Усходняй і Заходняй Беларусі // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: Мат-лы Міжнар. навук. канф., Мінск, 22 красавіка 2004 г. / Гал. рэд. А. А. Каваленя, С. Я. Новікаў. Мінск: МДЛУ, 2004. С. 144.

Як пракаментаваў тую сітуацыю беларуска-польскі пісьменнік Сакрат Яновіч, «палякам Ленін аддаваў пасля і Менск, але яны не захацелі, расшыфраваўшы бальшавіцкую задуму накарміць “польскага гусака” меншасцямі да такое ступені, што скончыўся б з абжорства…»[72]. Гэтым самым С. Яновіч пагаджаецца з К. Душ-Душэўскім, які ў свой час адзначыў, «што маскоўскія бальшавікі прырэзалі кавалак Беларусі для Польшчы для таго, каб “палякі падавіліся гэтымі землямі”, як яны кажуць»[73]. (NB. Душ-Душэўскі прыпісвае гэтае меркаванне самім бальшавікам[74].) Трэба заўважыць, што, як мяркуе польскі гісторык-беларус Ю. Туронак, бальшавікі загадзя рыхтаваліся аддаць Польшчы частку беларускіх зямель — тую, што ўваходзіла ў склад ЛітБел, каб маніпуляваць імі «як тэрыторыямі зь неакрэсьленым дзяржаўным статусам, якія ў залежнасьці ад канкрэтнага ваенна-палітычнага становішча маглі быць перададзеныя ў сферу ўплыву Польшчы ці Расеі або падзеленыя паміж імі»[75]. Масква была гатова саступіць Беларусь Польшчы яшчэ ў 1919 г. у якасці платы за мір, неабходны бальшавікам, каб засяродзіцца на франтах Грамадзянскай вайны[76]. А падчас заключэння Мірнага дага-

---

[72] Яновіч С. Беларусь заўтра // ARCHE-Пачатак, 2004, № 2. С. 73; гл. таксама: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 79, 206.

[73] Душ-Душэўскі К. Беларусь і Рыжскі мір. Прадмова і публікацыя Аляксандра Вабішчэвіча // Спадчына, 1995, № 6. С. 222.

[74] У. Ленін 2 кастрычніка 1920 г.выказаўся на гэтую тэму наступным чынам: «Линия проходила так, что Минск оставалася у поляков, вся Белоруссия была у них. И не только Совет Народных Комиссаров, но и Президиум ВЦИК – высший орган РСФСР – торжественно, в специальном обращении заявил польскому народу, что он предлагает мир, что он отказывается от решения оружием вопроса о судьбе Белоруссии, которая никогда польской не была. <…> Но мы тем не менее заявили самым официальным, самым торжественным образом, что мы предлагаем мир на тогдашней линии. <…> Я напоминаю вам об этом, чтобы во всех речах, которые вам придется вести по этому вопросу, более энергично подчеркнули, что вначале мы предлагали мир на линии более восточной, чем теперешняя» (Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 41. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 319–320).

[75] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 75.

[76] Лазько Р. Спробы заключэння беларуска-польскага саюза ў 1919 г. // Białoruskie

вора ў Рызе ўжо ва ўступнай фазе перамоў кіраўнік савецкай дэлегацыі Адольф Іофэ быў схільны аддаць Беларусь пад уплыў Польшчы наўзамен за прызнанне ёю Савецкае Украіны[77], — яшчэ адзін бок разменнай манеты пад назвай «Беларусь».

Палякі не прынялі падарунка, і толькі 2/3 з адведзенай пад ССРБ тэрыторыі пасля Рыгі апынуліся ў складзе Польскай Рэспублікі. Дарэчы, у аспекце тэрытарыяльнай велічыні сённяшняй Беларусі, якая вырасла з савецкай рэспублікі, можна, мусіць, пашкадаваць, што палякі ў 1921 г. адмовіліся ад усіх ім прапанаваных 18 паветаў разам з Менскам, бо пры ўмове, што бальшавікі не змянілі б выкарыстаны пасля метад, як  падставу далучэння «кроўных братоў» да адпаведных рэспублік (акрамя Беларусі, маем прыклад Украіны ды Фінляндыі), дык Крамлю давялося б арганізоўваць БССР на ўсходніх этнічных землях беларусаў, у тым ліку на тых, што зараз уваходзяць у склад Расіі. Дзеля гэтага, акрамя Мінска, меліся «пра запас» яшчэ два патэнцыйныя цэнтры — Магілёў і Смаленск (не выключалася ўзбуйненне БССР і за кошт Смаленшчыны ды іншых тэрыторый на ўсход ад БССР, якая, дарэчы, упершыню была абвешчана менавіта ў Смаленску[78], што, тым не менш, застаўся пад Расіяй). Да падобнага меркавання схіляюцца Р. Платонаў і М. Сташкевіч, кажучы, што ўключэнне ў склад РСФСР Магілёўскай і Віцебскай губерняў, калі б іншыя тэрыторыі ССРБ захапіла Польшча, у перспектыве стала б асновай адраджэння беларускай дзяржаўнасці[79]. У такім выпадку патрэбна было б пераўзысці плошчай БССР плошчу этнічнай беларускай тэрыторыі, што апынулася пад Польшчай. Таму сёння Рэспубліка Беларусь

Zeszyty Historyczne. Białystok, 2001, № 15. С. 115.

[77] Паводле: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 210.

[78] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 73.

[79] Паводле: Малыхіна Л. Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі // Беларускі гістарычны часопіс, 2003, № 4. С. 46.

у выніку магла б мець нашмат больш тэрыторыі. Зразумела, гэта ўсяго толькі разважанні з вобласці альтэрнатыўнай гісторыі. Аднак у дадзеным выпадку на іх фоне больш выразна ўсведамляецца рэальнасць гістарычнага развіцця Беларусі ў міжваенны перыяд.

Такім чынам, Беларуская Рэспубліка была спляжана молатам (бальшавіцкай Расіяй) на кавадле (Польскай Рэспублікі), што яны і замацавалі 18 сакавіка 1921 г. Так атрымалася шасціпавятовая Беларусь. Як адзначае Я. Юхо, хоць яна і аб'яўлялася незалежнай, аднак фактычна і юрыдычна з'яўлялася аўтаномнай вобласцю ў складзе РСФСР, аб чым сведчыць і пастанова III з'езда Кампартыі Беларусі (лістапад 1920 г.), у якой аб прававым становішчы рэспублікі запісана: «Белоруссия, являясь Социалистической Советской Республикой, одновременно является составной частью РСФСР, и все органы в области общих мероприятий должны быть подчинены соответствующим комиссариатам РСФСР, однако они должны иметь определенную свободу в области разрешения вопросов местной жизни»[80]. Праўда, падпісаўшы прэлімінарны дагавор з Польшчай, Масква пайшла на фармальныя саступкі і, як ужо было сказана, 16 студзеня 1921 г. заключыла з савецкім Менскам дагавор, у якім прызнаваўся суверэнітэт Савецкай Беларусі, што было пацверджана пры стварэнні СССР.

У Рызе быў скончаны першапачатковы этап станаўлення новай беларускай дзяржаўнасці. Так атрымалася, што ў гэты перыяд найбольшымі «ворагамі беларушчыны» (Янка Купала) праявілі сябе бальшавікі (напачатку зусім не хаваючы гэтага, — як бы не апраўдвалі іх пасля палітыкі і гісторыкі). Але менавіта яны былі вымушаны не толькі прызнаць нацыянальныя памкненні беларускага народа, але і арганізаваць яму хоць намінальную суверэннасць, кіруючыся, натуральна, меркантыльнымі інтарэсамі — не выпусціць гэты народ са сваёй палітычнай арбіты. Як гаркава-іранічна

[80] Юхо Я. Беларускія ўрады 1918–1921 гг. і іх паўнамоцтвы // Беларускі гістарычны часопіс, 1993, № 4. С. 68.

сказаў быў той жа Янка Купала, «далі шэсць паветаў, дзякуй й за гэта».

А варыянтаў вырашэння «беларускага пытання» на пачатак 1920-х гг. існавала шмат. Беларускі гісторык Т. Процька выдзяляе шэсць мадэлей: «Антибелорусская модель автономных областей (через Облиспокомзап), национальная автономия (через Белнацком), независимая советская социалистическая республика (БССР, первое объявление), независимая социалистическая республика-буфер (ССРБ) и образцовая коммунистическая республика БССР»[81]. Між іншым, напэўна, варта дадаць, што да гэтага часу дэактуалізаваліся такія мадэлі эвентуальнага развіцця беларускай дзяржаўнасці, як пратэктарат Германіі або Польшчы, федэрацыя з апошняй, літоўска-беларуская дзяржава (пасавецку ЛітБел), праджэкт В. Ластоўскага часоў Першай сусветнай вайны ў  выглядзе адроджанага ВКЛ, а таксама задума А. Луцкевіча стварэння Чарнаморска-Балтыйскай канфедэрацыі ў складзе Літвы, Беларусі, Украіны, Польшы (як самастойнымі суб’ектамі) і — самае галоўнае — адсутнасць беларускай дзяржаўнасці ў якой бы там ні было форме. Такім чынам, добры тузін.

Сёння відавочна, што палітыка бальшавікоў была яўным фарысействам стасоўна праблемы самывызначэння беларускага народа з самага пачатку яе ўзнікнення — з часоў Першай сусветнай вайны. Як адзначае беларускі гісторык У. Снапкоўскі, «міждзяржаўныя адносіны паміж РСФСР і ССРБ складваліся на падставе “рэвалюцыйнай мэтазгоднасці” і сацыялістычнага права. Дакладнага вызначэння гэтым тэрмінам не было»[82].

Можна канстатаваць, што вынік вырашэння беларускага пытання ў выглядзе ССРБ не адпавядаў мэтам ні бальша-

[81] Протько Т. С. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.) / Т. С. Протько. Мінск: Тесей, 2002. С. 321.

[82] Снапкоўскі У. Знешнепалітычная дзейнасць Беларускай ССР (1919–1929 гг.) // Беларускі гістарычны часопіс, 2001, № 3. С. 28.

вікоў, прасякнутых ідэяй сусветнай рэвалюцыі, ні адроджанай Польшчы з яе ідэаламі межаў 1772 г., ні, тым больш, незалежніцкім памкненням нацыянальных беларускіх сіл, згуртаваных вакол ідэі БНР. Як слушна заўважае М. Сташкевіч, «масштаб действия классовых и социальных сил, логика политической борьбы предопределили поражение тех, кто пытался реализовать идею БНР. В этом противостоянии и родилась белорусская государственность на советской основе». Але даследчык у сваім тлумачэнні правалу нацыянальных незалежнікаў праз іх слабасць у параўнанні з класава-сацыяльнымі сіламі, не дадае, што савецкі варыянт паўстаў не з жадання тых класава-сацыяльных сіл (бальшавікоў), а з логікі палітычнай барацьбы, у якой згаданыя сілы беларускую дзяржаўнасць выкарыстоўвалі цалкам у сваіх інтарэсах, зусім не звяртаючы ўвагі на ўласна гэтую дзяржаўнасць. Праўда, М. Сташкевіч усё ж прыводзіць меркаванне, якое чытачу-аналітыку здольнае падказаць, што стварыць хаця б нібыта незалежную Савецкую Беларусь бальшавікоў падштурхнулі непадуладныя ім акалічнасці[83].

Аналітыкамі найноўшай гісторыі прызнаецца, што нацыі без дзяржавы, якая спрабуе набыць незалежнасць, складана за яе змагацца — тут нельга абысціся без спрыяльнага збегу акалічнасцей[84]. З такой тэзай прынамсі ў нашым выпадку неабходна пагадзіцца. У сітуацыі з Беларуссю сам па сабе фактар БНР не быў вырашальным у справе надання Заходняй вобласці хоць нейкіх прыкмет дзяржаўнасці. Савецкую Беларусь стварылі перадусім пад ціскам абставін міжнароднай палітыкі. Чыннік БНР тыя абставіны запачаткаваў і ўзмацняў, але бальшавікі не надавалі яму аператыўнай увагі: ні першае, ні другое абвяшчэнне Савецкай Беларусі не былі непасрэднай рэакцыяй на прэтэнзіі беларускіх нацыянальных сепаратыстаў. Роля буфера, якая

[83] Сташкевич Н. Трудный путь государственности // Беларуская думка, 2008, № 1. С. 31–32.

[84] Паводле: Шпорлюк Р. Формирование современной Украины: западное измерение // Перекрестки, 2006, №1–2. С. 32.

адводзілася Савецкай Беларусі, магла быць ускладзена на Літву і Украіну, межы якіх можна было зрабіць агульнымі па беларускай тэрыторыі (тым больш, што тэарэтычны досвед ужо быў у 1918 г. — vide supra). Але і прыніжаць значэнне БНР нельга, бо бальшавікі сваім стварэннем Савецкай Беларусі ставілі на мэце ў тым ліку нівеляваць фактар беларускіх нацыянальных сіл з іх памкненнем да самастойнасці, якая да таго ж магла атрымаць іншую пратэкцыю, найверагодна — з Захаду.

У той жа час ніводзін з бакоў не атрымаў і сакрушальнага паражэння ў барацьбе, якая пасля Рыгі не скончылася, а толькі прыпыніла сваю актыўную фазу, што сведчыла аб эвентуальным вырашэнні праблемы ў бліжэйшай будучыні.

Да таго ж у тым, што Беларусь не толькі не знікла з геаграфічнай мапы, але ў 1920-х гг. павялічыла свае адміністрацыйныя межы як Савецкая Рэспубліка, немалаважную ролю адыграў менавіта Рыжскі дагавор. Не было б яго, наўрад ці Крэмль пайшоў бы на так званае ўзбуйненне. Не было б яго, беларуская эліта была б знішчана ў 1930-я гг. дашчэнту; дзякуючы ж падзелу краіны па заходні бок мяжы заставаўся значны палітычны і культурны асяродак беларускіх нацыянальных сіл. Не было б яго, ці атрымала б summa summarum сённяшняя Беларусь суверэннасць? Ці не была б яна паглынута Імперыяй, як Карэла-Фінская ССР, якая не выканала сваю гістарычную місію ў распаўсюджванні сусветнай рэвалюцыі? Умоўны лад (якога, вядома ж, гісторыя не мае) у гэтых пытаннях — не метадалагічная памылка аўтара, але рытарычны сродак дзеля стварэння больш выразнага ўялення пра неадназначнасць сітуацыі (альбо адной з верагодных версій накшталт «матылька Брэдберы»[85]). Пра што казалася яшчэ ў 1921 г. Не-

[85] Як бачым з гісторыі, нацыянальная ці — карэктней будзе казаць — этнічная свядомасць насельніцтва ВКЛ у XVIII ст., падчас адзінаўладнага дамінавання і панавання пальшчызны сярод актыўнай часткі грамадства, рэзка прытупілася, прычым настолькі, што ў XIX ст., калі расійскі імператар захацеў «вярнуць» «адзінакроўных» братоў у лона «велікарускай» культуры, распачаўшы працэсы

хта інжынер Зябіцкі, згаданы Б. Тарашкевічам у curriculum vitae, спачуваючы беларускаму руху казаў: «Рыскі трактат робіць палажэньне трагічным. Але ня трэба маркоціцца, таму што магчыма, што якраз падзел Беларусі стане паваротным пунктам яе адраджэньня: наступіць спадужаньне паміж абодвума бакамі граніцы, урады будуць старацца беларускае пытаньне выкарыстаць адзін супраць другога. Ён (Зябіцкі. — *А. Т.*) і яго палітычныя прыяцелі належаць да тых, якія хацелі б судзеяць стварэньню беларускага П'емонту на занятай Польшчаю тэрыторыі»[86]. Што праўда, перавага так званых інтэгрыстаў (на чале з Р. Дмоўскім) над федэралістамі (ачольваў Ю. Пілсудскі) мінімізавала шанцы на стварэнне нейкага «беларускага П'емонта», які б даў магчымасць у будучым вярнуцца да праблемы незалежнай беларускай дзяржаўнасці. 1939 г. зверыфікаваў памылковасць дзеянняў польскай дэлегацыі, якая фармальна дабілася ад Расіі і Украіны згоды не выкарыстоўваць назваў накшталт «Заходняя Беларусь» ці «Заходняя Украіна», бо на практыцы сталася ўсё наадварот, што было, канечне, на шкоду Польскай Рэспублцы[87].

Развіваючы такім чынам думку глыбей, можна наогул дайсці да дастаткова абгрунтаваных меркаванняў, што падзел

---

арганічнага інтэгравання нашага краю ў Расію пры элімінацыі іншых уплываў, будучыя беларусы не прабудзіліся як аўтэнтычная нацыя, нягледзячы на агульнаеўрапейскую «вясну народаў». І наадварот, калі ў перыяд Першай сусветнай вайны на Беларусь сталі прэтэндаваць і з захаду, і з усходу (у значна меншай ступені з поўначы і поўдня — адпаведна Літва і Украіна), мы назіраем рэзкую каталізацыю эвалюцыі нацыянальнай свядомасці і — як вынік — актывізацыю беларускага нацыянальнага руху. Адсюль выснова: аднабаковы татальны ўплыў, а не біпалярнае ўздзеянне, вядзе да субтылізацыі этнатоеснасці насельніцтва Беларусі з перспектывай поўнай асіміляцыі нацыі. Дарэчы, думка ў прынцыпе не новая для гістарыяграфіі: польскі гісторык Рышард Радзік заўважае неспрыяльнае для фарміравання беларускай нацыі знаходжанне ўсёй тэрыторыі Беларусі ў расійскай дзяржаве, бо – у адрозненне ад украінцаў (частка якіх знаходзілася ў Галіцыі) ды літоўцаў (частка якіх знаходзілася ва Усходняй Прусіі) — яны не мелі свайго П'емонту і «не маглі выкарыстаць сутыкненне аднаго захопніка з другім» (Радзік Р. Прычыны слабасьці нацыятворчага працэсу беларусаў у XIX–XX ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 2. Сш. 2. Менск, 1995. С. 222).

86 Тарашкевіч Б. Аўтабіяграфія // Спадчына, 1996, № 4. С. 113–114.

87 Materski W. Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943. Warszawa: Oficyna Wydawnicza RYTM, 2005. S. 105.

Беларусі ў 1921 г. стаў у пэўным сэнсе карысным для будучыні краіны, а мо й наогул Рыжскі дагавор апынуўся выратаваннем для яе[88] (па вялікім рахунку Беларусь у Новай і Найноўшай гісторыі паўстала як такая менавіта *паміж* дзвюх варожых сіл і нават у многім *дзякуючы* ім, а калі б адна з іх счэзла, дык верагоднасць знікнення — праз паглынанне-асіміляцыю — цэлай аўтэнтычнай краіны, відавочна, рэзка ўзрасла б, — такая ўжо, відаць, яе доля ці, як адцеміў беларускі мысляр Ігнат Абдзіраловіч, «адвечны шлях»)[89]. Да таго ж, як заўважае выбітны знаўца гісторыі і культуры міжваеннай Заходняй Беларусі Арсень Ліс, падзел зусім не азначаў спынення кансалідацыі беларускага народа, нацыянальная ідэя эвалюцынавала[90]. І ў гэтым істотнае значэнне адыграў менавіта падзел Беларусі. Лагічна будзе меркаваць, што ён рухаў менавіта да ўз’яднання нацыі.

88 Хоць, канечне, сітуацыя магла павярнуцца і ў бок непапраўнай трагедыі: нацыянальныя дзеячы Беларусі, пачынаючы яшчэ з 1919 г., калі ўзнікла пагроза падзелу краіны паміж Польшчай і Расіяй, справядліва баяліся асіміляцыі абедзвюх частак, бо ніводная з іх не магла стаць суб’ектам федэрацыі з тымі дзяржавамі (Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 206).

89 Гэтую сітуацыю ў падобным жа ключы па-філасофску асэнсоўвае і сучасны беларускі мысляр І. Бабкоў (Паводле: Корзун Ф. Скразная лёгіка бабкоўскага будызму // ARCHE-Пачатак, 2006, № 1–2. С. 229), што дае нам падставы чарговы раз пераканацца ў слушнасці такой думкі. А яшчэ трохі пазней (напісання гэтых радкоў) аналагічныя рэфлексіі знайшліся і ў Ю. Туронка: «Трэба ж было нешта рабіць з шасьціпавятовай Меншчынай, якая, дзякуючы палякам, засталася на савецкім баку» (Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 80).

90 Ліс А. Заходняя Беларусь: культурная спадчына забытага дваццацігоддзя // Спадчына, 1994, № 6. С. 38–39.

# Ад мірнага дагавора да мірнага дагавора (міжваенны перыяд)

…Лучше пересолить в сторону уступчивости и мягкости к национальным меньшинствам, чем недосолить

**В. Ленин**

Игра в независимость

**И. Сталин**

Гістарыяграфія гэтай тэмы не такая стракатая, як стасоўна падзей 1917–1921 гг., хоць у многім наследуе тэндэнцыі папярэдняга перыяду. Савецкія гісторыкі стваралі вобраз клапатлівай Масквы, якая не толькі абараніла беларускую дзяржаўнасць, на што пасягала капіталістычнае суседства, але і праводзіла беларусізацыю ды каранізацыю паралельна з павелічэннем («узбуйненнем») тэрыторыі Савецкай Беларусі. Зразумела, абгрунтаванне дэтэрмінізму тых дзеянняў таксама кшталтавалася ў парадыгме савецкай ідэалогіі. А вось сапраўдныя прычыны не агалошваліся. Замоўчваліся і многія дзеянні, якія характарызавалі маскоўскае кіраўніцтва не з лепшага для беларускай дзяржаўнасці боку. Усё канцавалася высновай, што дзеянні Саветаў прагрэсіўныя для Беларусі, а шавіністычныя палітыкі

Польскай Рэспублікі і нацыяналістычна-буржуазныя дзеячы БНР адно і думаюць, як іх спляжыць. Контрверсійныя меркаванні прадстаўлялі беларускія эмігранты, аднак іх пазіцыі характарызаваліся 1) запалітызаванасцю (як правіла, яны былі палітычна заангажаванымі), 2) ярка выражанай палярнасцю, антынамічнасцю адносна пазіцый савецкіх даследчыкаў, што часта прыводзіла да прынцыпова супрацьлеглых высноў без дастатковых абгрунтаванняў, 3) малалікасцю даследчыкаў і слабай трансляцыяй веды: вынікі іх працы не сягалі за межы эміграцкага асяродка (палітыкаў і навукоўцаў капіталістычнага свету беларускія праблемы амаль не цікавілі). Рэальная фактычнасць міжваеннага перыяду пачала праясняцца толькі ў канцы 1980-х гг. Гэта датычыцца і параўнаўча больш плюралістычнай гістарычнай навукі ПНР, якой былі навязаныя выгадныя Крамлю інтэрпрэтацыі. Тым не менш і сёння гэтая праблема пакуль што  знаходзіцца на ўзроўні фрагментарнай рэпрэзентацыі, хоць у навуковы зварот уведзена ўжо даволі матэрыялаў. Таму варта вярнуцца да гэтай праблемы, па магчымасці пераадолеўшы аднабокасць некаторых ранейшых гістарычных даследаванняў.

Рыжскі дагавор фармальна прадугледжваў не такія ўжо і малыя правы для беларусаў Польскай Рэспублікі[91]. Зрэшты, de iure і ССРБ мела суверэннасць — яе юрыдычны статус, безумоўна, павышаўся з утварэннем СССР, у чым Савецкая Беларусь прымала непасрэдны ўдзел як юрыдычна самастойны суб’ект права. Верагодна, тым самым Масква распачала палітыку задабрэння беларускіх нацыянальных сіл па абодва бакі мяжы з мэтай выклікаць сімпатыю да сябе, якая да таго часу была страчана нават у асяродку пракамуністычнага беларускага руху, з боку якога трохі раней гучалі прапановы стварыць узорную Савецкую Беларусь, у тым ліку і як аргумент супраць папрокаў Польшчы ды інтрыг «белорусских националистов і социал-патрио-

---

[91] Гл.: Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей — с другой // Спадчына, 1993, № 4. С. 17.

тов»[92]. Беларускі філосаф І. Бабкоў не беспадстаўна выказвае думку, што «БССР найбольш адэкватна можа быць зразумета не як поўны правал нацыянальнага беларускага руху, а як посткаляніяльны кампраміс», выкліканы збегам шэрагу фактараў, да таго ж, нагадвае мысляр, «беларуская савецкая дзяржаўнасьць выклікала напачатку дастаткова аптымістычныя пачуцьці»[93]. Больш таго, А. Луцкевіч у сваёй кнізе «За 25 гадоў», выдадзенай у Вільні ў 1928 г., разглядае Савецкую Беларусь як часткова здзейснены «наш (дзеячаў БНР. — *А. Т.*) дзяржаўны ідэал, абвешчаны перад гэтым актам рады Рэспублікі 25 сакавіка 1918 г.»[94]. Між іншым, самі дзеячы БНР пры адступленні немцаў лічылі магчымым ступіць на шлях перагавораў з урадам РСФСР напярэдадні стварэння Савецкай Беларусі з мэтай арганізацыі кааліцыйнага ўрада апошняй[95]. Гэта дало падставы яшчэ аднаму беларускаму філосафу Валянціну Акудовічу назваць БНР і БССР ледзь не блізнюкамі, ва ўсялякім разе да 1929 г.[96] Сапраўды, прынамсі юрыдычна Беларусь перастала быць безаблічным «Северо-Западным краем» і набыла пэўную кадыфікацыю на міжнародна-прававым полі – і гэта ўжо, безумоўна, прагрэс, які ў гісторыі з гледзішча нацыянальнага развіцця мог бы застацца, бадай, неаспрэчным, калі б не далейшы брутальны разгром дасягненняў у справе беларушчыны.

---

[92] Доклад в Ц. Б. Коммунистической партии Белоруссии // Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ. 2003, С. 287–291.

[93] Бабкоў І. Генэалёгія беларускай ідэі. Зь лекцыяў для Беларускага Калегіюму // ARCHE-Пачатак, 2005, № 3. С. 161.

[94] Паводле: Так начиналась национальная трагедия // Неман, 1992, № 9. С. 137. Цікава, што ў адрозненне ад многіх іншых незалежнікаў сам А. Луцкевіч не паехаў жыць і працаваць на карысць Савецкай Беларусі, што выдае яго недавер бальшавікам, нягледзячы на ягоныя ж словы. Час паказаў, што рацыя была ў дзеяннях А. Луцкевіча, а не ў дэкляраваных словах: пры першай жа магчымасці ён быў схоплены бальшавікамі і зняволены.

[95] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 72.

[96] Акудовіч В. В. Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці. Мінск: Логвінаў, 2007. С. 53–59.

Пры рэалізацыі правоў паводле Рыжскага дагавора беларусы як нацыя па абодва бакі меліся адбыцца. Але планы метраполій былі інакшыя.

Крэмль спачатку не меў тут агульнай пазіцыі. 22 верасня 1922 г. І. Сталін у пасланні У. Леніну называе ўтварэнне БССР ды іншых рэспублік «игрой в независимость»: «За четыре года гражданской войны, когда мы ввиду интервенции вынуждены были демонстрировать либерализм Москвы в национальном вопросе, мы успели воспитать среди коммунистов, помимо своей воли, настоящих и последовательных социал-независимцев, требующих настоящей независимости во всех смыслах. <…> Мы переживаем такую полосу развития… когда молодое поколение коммунистов на окраинах игру в независимость отказывается понимать как игру, упорно признавая слова о независимости за чистую монету и также упорно требуя от нас проведения в жизнь буквы конституции независимых республик»[97]. Але У. Ленін вырашэнне праблемы бачыў інакш (прынамсі на паперы, бо практычная рэалізацыя, што закраналася намі вышэй, у яго магла адрознівацца ад тэарэтызавання). У сувязі з утварэннем СССР і з нагоды канфлікту ў Грузіі ўжо хворы лідар бальшавікоў у апошнія дні 1922 г. піша пісьмо «К вопросу о национальностях или об “автономизации”», у якім абвінавачвае І. Сталіна ў велікарасійскім нацыяналізме і змест якога агульным сваім палажэннем наўпрост датычыцца беларускага народа. Аб’ём цытаты варты таго.

«Я, кажется, сильно виноват перед рабочими России за то, что не вмешался достаточно энергично и достаточно резко в пресловутый вопрос об автономизации, официально называемый, кажется, вопросом о Союзе Советских Социалистических Республик. <…>

…“Свобода выхода из Союза”, которой мы оправдываем себя, окажется пустою бумажкой, неспособной защитить рос-

[97] Паводле: Протько Т. С. Становление советской тоталитарной системы в Беларуси (1917–1941 гг.) / Т. С. Протько. Мінск: Тесей, 2002. С. 323.

сийских инородцев от нашествия того истинно русского человека, великоросса-шовиниста, в сущности, подлеца и насильника, каким является типичный русский бюрократ. <…>

Я уже писал в своих произведениях по национальному вопросу, что никуда не годится абстрактная постановка вопроса о национализме вообще. Необходимо отличать национализм у нации угнетающей и национализм нации угнетенной, национализм большой нации и национализм нации маленькой.

По отношению ко второму национализму почти всегда в исторической практике мы, националы большой нации, оказываемся виноватыми в бесконечном количестве насилия, и даже больше того — незаметно для себя совершаем бесконечное количество насилий и оскорблений…<…>

Поэтому интернационализм со стороны угнетающей или так называемой "великой" нации (хотя великой только своими насилиями, великой только так, как велик Держиморда) должен состоять не только в соблюдении формального равенства наций, но и в таком неравенстве, которое возмещало бы со стороны нации угнетающей, нации большой, то неравенство, которое складывается в жизни фактически. <…>

…Лучше пересолить в сторону уступчивости и мягкости к национальным меньшинствам, чем недосолить»[98].

У Савецкім Саюзе, а значыць і ССРБ, у 1920-х гг. закінулі падманку каранізацыі і беларусізацыі: маўляў, правы беларусаў і меншасцей у Савецкай Беларусі аберагаюцца. Аднак гэта было толькі прынадай для акумуляцыі, кансалідацыі пад адным дахам беларускіх нацыянальных сіл розных палітычных поглядаў з мэтай іх далейшай элімінацыі. Як сведчаць сучасныя даследаванні, беларусізацыя

[98] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 45. М.: Государственное издательство политической литературы, 1975. С.356-360.

была толькі спосабам для выяўлення і ліквідацыі яе перадумоў і праваднікоў, гэта быў сродак для вырашэння «шэрагу вельмі важных задач унутранай і знешняй палітыкі», выкарыстанне якога пасля выканання адпаведнай функцыі было згорнута[99]. У прыватнасці мелася на мэце не толькі інспіраванне будучага аб’яднання з Заходняй Беларуссю шляхам стварэння лепшых (асабліва знешне, па форме) варункаў і перадумоў для нацыянальнага развіцця ў Савецкай Беларусі, але і імкненне ліквідаваць урад БНР, які і надалей праводзіў актыўную палітычную дзейнасць (што з’яўлялася адным з чыннікаў беларусізацыі і карэнізацыі ў ССРБ). Дарэчы, імкненне да ліквідацыі ўрада БНР найлепшым чынам сведчыць, па-першае, пра прызнанне гэтага суб’екта міжнароднага палітычнага поля, па-другое, пра выніковую дзейснасць таго суб’екта, якая ўплывала на савецкую палітыку — як знешнюю, так і ўнутраную. Бальшавікі змаглі арганізаваць спыненне дзейнасці некаторых чальцоў урада БНР ад імя ўсёй рэспублікі (што было юрыдычна неправамоцна[100], але гэта іншае пытанне). У гэтай акцыі не было забыта і будучае аб’яднанне Беларусі, якое ўжо падавалася як ментальна сфарміраванае па абодва бакі краіны меркаванне: «У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў, замацаваная ў Менску — сталіцы Радавай (Савецкай. — *А. Т.*) Беларусі, запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі Народ культурна, эканамічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, пастанавілі: спыніць існаваньне Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі»[101].

---

[99] Клімаў І. Беларусізацыя ў дакументах // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 8. Сш. 1-2. Менск, 2001. С. 273-295. Гл. таксама: Беларусізацыя: 1920-я гады: Дакументы і матэрыялы. Мінск: БДУ, 2001. 270 с.

[100] Гл., напрыклад: Снапкоўскі У. Эміграцыя. Фарміраванне і дзейнасць арганізацый беларускай эміграцыі. Сацыяльна-палітычныя плыні (1918–1939 гг.) // Полымя, 1995, №11. С. 208–210; Крэчэўскі П. Мандаты БНР. Даклад чытаны ў Беларускім Студэнцкім Клюбе ў Празе 16 студзеня 1926 г. // Спадчына, 1993, №3. С. 7–10.

[101] Ліцкевіч А. Беларуская віртуальная рэспубліка. Гісторыя палітычнага банкрутства БНР у люстэрку архіўных дакументаў // Беларуская думка, 2008, №3. С. 73.

Пасля роспуску ўрада БНР, арганізаванага Аляксандрам Цвікевічам, нават шчыра прабальшавіцкі паэт Міхась Чарот, сустрэўшыся з ім у Германіі, рэзка папракаў яго за здзейснены акт: «Гэта памылка! Пакуль вы былі тут, за мяжой, нам лягчэй было там весці нацыянальную палітыку»[102]. І ён меў рацыю, бо напярэдадні савецкія палітыкі, распрацоўваючы праграму стаўлення да беларускага пытання, хацелі высветліць, што можна зрабіць, каб выклікаць сімпатыі беларусаў у Заходняй Беларусі да БССР. У прыватнасці ў 1923 г. А. Луцкевіч праз С. Рак-Міхайлоўскага атрымаў просьбу распрацаваць кароткі даклад пра тое, якія мерапрыемствы былі б пажаданыя ў БССР з гледзішча заходніх беларусаў, перадусім ставілася пытанне пра павелічэнне БССР, пра культурную працу, пра амністыю дзеячам БНР[103]. Бальшавікі мелі канкрэтныя планы па ліквідацыі замежнага нацыянальнага актыву беларусаў, дзеля чаго выкарыстоўвалі ў прапагандасцкіх мэтах і выбітных прадстаўнікоў з Савецкай Беларусі. Так, пад канец 1925 г. арганізавалі замежную паездку з удзелам Цішкі Гартнага, Янкі Купалы і Міхася Чарота пад прыглядам «дыпламата» ад адпаведных органаў Аляксандра Ульянава. Мяркуючы па ўсім, беларускія літаратары разумелі ў якой якасці яны служаць таталітарнай машыне, што тады толькі набірала абароты. А А. Ульянаў жа потым засведчыў: «Когда меня послали на работу в Польшу, основной момент был раскол… За границей имелся целый ряд белорусских эмигрантских групп… Эти группы противопоставляли себя Советскому правительству, везде выставляя себя как “представителей народа”. Наша задача была обезглавить, обезвредить эти группы. Надо было связаться с этими группами, поставить перед ними вопрос, что если они явятся, вернутся сюда и будут честно работать, здесь им будет дана амнистия. Это было проделано»[104].

[102] Паводле: Янушкевіч Я. Неадменны сакратар Адраджэння, альбо Эсэ пра Вацлава Ластоўскага // Полымя, 1994, № 5. С. 164.

[103] Апостол национального возрождения // Неман, 1995, № 1. С. 156.

[104] Паводле: Някляеў У. Шлях. Папулярны біяграфічны нарыс // Дзеяслоў, 2007, № 3. С. 246–247.

Заўважым, што падобныя тэндэнцыі яшчэ нейкі час працягваліся. Аб чым сведчаць, напрыклад, матэрыялы пра значэнне Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу 1926 г., адной з галоўных мэт якой было засведчыць, як сказана ў назве публікацыі, бурнае нацыянальнае адраджэнне ў Савецкай Беларусі пад уплывам камуністаў. Таму форуму імкнуліся надаць міжнародны рэзананс[105].

Зрэшты, улічваючы выразаныя савецкай цэнзурай словы аднаго з герояў рамана М. Зарэцкага «Крывічы» (1929) Сьляпня, сэнс беларусізацыі як толькі тактычнага кроку савецкай ўлады, некаторымі пісьменнікамі разумелася ўжо і тады (перапрашаю за аб'ёмную цытату — яна тут да месца): «А вы ведаеце, што такое бе-ла-ру-сі-за-цыя? Га? Хо-хо-хо… Гэта, брат, хітрая, ой, хітрая штука… Гэта стаўка на форму… Так, так, на форму… Аўладаць формай, адлучыць яе ад зьместу, вылягчыць яе, выкруціць, высушыць… і выкінуць вон… Ха-ха-ха… Што — хітра, га? Тонка? <…> Навучыцца аўладаць беларускай мовай, каб лягчэй было згаварыцца зь сялянамі, скажам, пры зьбіранні падатку, гэта ня будзе разьвязаньне нацыянальнага пытаньня. Гэта будзе толькі ўсяго замена каляніяльнай палітыкі — "салдацкай" на каляніяльную палітыку — "езуіцкую". Гэта страшэнна шкоднае звужаньне праблемы нацыянальнай культуры. Гэта палітыка гандляроў з рынку, якія (я спэцыяльна гэта назіраў) зьвяртаюцца заўсёды да сялян у роднай іхняй мове, каб… лягчэй абдурыць іх»[106]. А трохі раней пра манапалізацыю бальшавікамі беларускага руху як тактычны крок, знаходзячыся ў Празе, казаў паэт Уладзімір Жылка[107].

---

105 Раманава І. Беларусь перажывае бурнае нацыянальнае адраджэнне пад уплывам камуністаў. Акадэмічная канферэнцыя 1926 г. у галасох відавочцаў // ARCHE-Пачатак, 2006, № 1–2. С. 92-104.

106 Паводле: Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 926.

107 Паводле: Янушкевіч Я. Неадменны сакратар Адраджэння, альбо Эсэ пра Вацлава Ластоўскага // Полымя, 1994, № 5. С. 165. Гл. таксама тоесную думку замежнае гістарыяграфіі на гэты конт: Ліндنэр Р. Гісторыкі і ўлада: нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. / Пер. з ням. Л. Баршчэўскага; нав. рэд. Г. Сагановіча. СПб., Неўскі прасцяг, 2003. С. 168.

Такім чынам, сапраўдная стратэгічная мэта бальшавіцкага Крамля адносна лаяльнай нацыянальнай палітыкі на Савецкай Беларусі ў 1920-я гг. (прад)бачылася многімі (але не ўсімі) актывістамі беларускага руху (прычым па розныя бакі мяжы) яшчэ задоўга да дасягнення бальшавікамі канчатковага выніку.

Тым не менш, намінальная суверэннасць рэспублікі ўжо адразу дазволіла казаць пра яе уніфікацыйнае для беларускіх тэрыторый значэнне; і ў пацверджанне Масква пасля знікнення актуальнасці значэння ССРБ як буфернай зоны ад капіталістычнага атачэння правяла два так званыя ўзбуйненні рэспублікі, хоць у канцы 1920 г. бальшавікі зусім не збіраліся «ўзбуйняць»[108] Беларусь з-за адсутнасці прагматычнага для сябе сэнсу[109]. Народны камісарыят замежных спраў РСФСР, як паведамляецца ў яго цыдулцы ад 6 лістапада 1920 г., лічыў «нежаданым далучэнне да Беларусі якіх бы там ні было частак Віцебскай або Магілёўскай губерняў»[110]. 17 лістапада 1920 г. кіраўніцтва Расійскай Кампартыі на нарадзе адзначала, што вырашэнне пытання пра тэрыторыю Савецкай Беларусі на дадзены момант з'яўляецца заўчасным, бо, як напярэдадні заявіў наркам замежных спраў Р. Чычэрын, было яшчэ невядома, «праз якія перыпетыі можа прайсці лёс Беларусі»[111]. Гэтыя словы

[108] Дарэчы, чаму тыя працэсы далучэння беларускіх этнічных тэрыторый да Беларускай Рэспублікі называюцца (пра)савецкімі гісторыкамі ўзбуйненнем? Быццам далучаліся да Беларусі нейкія «левыя» тэрыторыі, а не тыя, з якіх Беларусь як краіна (не блытаць з дзяржавай) складаецца.

[109] Знешняя палітыка Беларусі: Зборнік дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917–1922 гг. (Пастаянная камісія Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы). Мінск: БелНДІДАС, 1997. С. 214; Głogowska H. Białoruś 1914–1929. Kultura pod presją polityki. Białystok. 1996. S. 76.

[110] Паводле: Грыцкевіч А. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына, 1994, № 4. С. 55.

[111] Паводле: Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ, 2003. С. 287.

дазваляюць меркаваць, што планы так званага ўзбуйнення Савецкай Беларусі існавалі ўжо на той час, хаця намеру іх рэалізоўваць не было. Але ўжо неўзабаве бальшавікі былі вымушаныя яго рэалізоўваць, каб зрабіць Савецкую Беларусь большай і па тэрыторыі, і па насельніцтве за заходнебеларускія землі ў складзе Польшчы[112]. (Перад так званым узбуйненнем, у 1923 г., як меркаваў агент дэфензівы, нават існаваў план хаўрусніцтва з яшчэ слабой Нямеччынай, каб выступіць супраць Польскай Рэспублікі[113], свае разважанні на гэты конт у Берліна меліся і ў сярэдзіне 1920-х гг., а трохі пазней, у 1932 г., М. Тухачэўскі, запрошаны на манеўры германскага войска, размаўляў пра сумесныя дзеянні Чырвонай Арміі і Райхсвера супраць Польшчы[114]). У 1923 г. менавіта з ініцыятывы Крамля была створана Кампартыя Заходняй Беларусі і такім чынам «крэсы паўночнаўсходнія» ўпершыню атрымалі (пра)савецкую інтэрпрэтацыю, у якой да таго ж падкрэслівалася этнічная беларускасць зямель[115]. Праз гэтую дзею савецкае кіраўніцтва па-

---

[112] Напачатку Савецкая Беларусь займала плошчу ў 52,4 тысячы км². Прадстаўнікі БНР ацэньвалі беларускія тэрыторыі, якія апынуліся пад акупацыяй бальшавіцкай Расіі, у больш за 206 тысяч км² (Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. Вільня – Нью-Ёрк – Менск – Прага: Беларускі інстытут навукі і мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. С. 1220). У 1939 г. напярэдадні вераснёўскіх падзей БССР ахоплівала 125, 9 тысяч км².

[113] Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба ад 7 траўня 1923 г. // ARCHE-Пачатак, 2005, № 6. С. 243. Гл. таксама: Пронин А. А. Советско-германские соглашения 1939 г. Истоки и последствия // http://history.machaon.ru/all/number_10/pervajmo/pronin_print/index.html. Зрэшты, нямецка-савецкі саюз, скіраваны супраць Польскай Рэспублікі, меў абрысы рэальнасці ад пачатку 1919 г. (Materski W. Na widecie. II Rzeczpospolita wobec Sowietów 1918–1943. Warszawa: Oficyna Wydawnicza RYTM, 2005. S. 38).

[114] Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939 – 1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 66-67.

[115] Цікава, што геапалітычны тэрмін «Заходняя Беларусь» яшчэ трохі раней фігураваў сярод назваў (з польскага боку) адносна Віленшчыны, адарванай у 1921 г. ад суверэннай Літвы і неўзабаве далучанай да Польскай Рэспублікі, аднак насуперак незадаволеным беларускім дзеячам ён быў уласнаручна выкраслены Й. Пілсудскім (Тарашкевіч Б. Аўтабіяграфія // Спадчына, 1996, № 4. С. 92–132; Ліс А. Цяжкая дарога свабоды: Артыкулы, эцюды, партрэты. Мінск: Маст. літ., 1994. С. 215; Трусаў А. Сярэдняя Літва // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 11. С. 12); у гісторыі той рэгіён застаўся пад назвай, экспромтам прыдуманай Й. Пілсудскім у дарозе на перамовы з літоўскім бокам, — «Litwa Środkowa» (Сярэдняя Літва).

крысе выкрышталізавала сваё разуменне гэтых зямель як тэрыторыі, якая павінна належаць Савецкай Беларусі, а значыць СССР. Сэнс стварэння КПЗБ быў у інспіраванні справядлівасці эвентуальнага аб'яднання Беларусі (першапачаткова праз узброенае паўстанне[116], якое, аднак, не перарасло маштабаў партызанскай барацьбы, і таму яго ідэя неўпрыкметна была згорнутая). Але разам з тым Крэмль не адкінуў назву «Заходняя Беларусь», якую нацыянальныя сілы пачалі ўжываць самае позняе з 1918 г.[117]

Цікава нагадаць, што, паводле Антона Адамовіча, на пачатку 1920-х гг. распрацоўвалася і зусім неардынарная задума ўз'яднання Беларусі (так званы «мангольскі праект»).

[116] Гл., напрыклад: Рапарт Рамуальда Зямкевіча ў II аддзел Генеральнага штаба ад 26 сакавіка 1923 г. // ARCHE-Пачатак, 2005, № 6. С. 234.

[117] Гл., напрыклад: Чырвоны шлях, 1918, 30 ноября, № 7-8. С. 14-15; Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага: Беларускі інстытут навукі і мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998. С. 81; Езовитов К. Белоруссы и поляки. Документы и факты изъ истории оккупацiи Белоруссiи поляками въ 1918 и 1919 годахъ. Ковна: Изд. им. Ф. Скорыны. 1919. С. 50. Таму польскія гісторыкі не маюць рацыі, кажучы, што тая назва ўсталявалася пасля заснавання Кампартыі Заходняй Беларусі (і па сённяшні дзень многія думаюць, што назва «Заходняя Беларусь» узнікла ў 1923 г.: Bernacki B. Wybory do Zgromadzenia Ludowego Zachodniej Białorusi 22 października 1939 r. Kampania wyborcza w prasie polskojęzycznej // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2003, Z. 20. S. 153). Дый беларуская акадэмічная гістарыяграфія наконт гэтага пытання таксама ў гэтай праблеме далёка не ўся абазнаная, пра што сведчыць прыклад У. Ладысева, які складанне паняцця адносіць да пачатку 1920-х гг. (Ладысеў У. Аб'яднанне беларускай нацыі (да 65-годдзя ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР) // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 9. С. 8) ці І. Цітовіча з яго ж кіраўніком М. Сташкевічам (Цітовіч В. Краязнаўчы рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Дыс. ... канд. гіст. навук. Мінск, 2006. С. 4). Праўда, трэба прызнаць, што менавіта з утварэннем КПЗБ гэтая назва стала выкарыстоўвацца часцей і сярод незалежнікаў, што можна прасачыць, напрыклад, па архівах БНР (Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1–2. Вільня — Нью-Ёрк — Менск — Прага: Беларускі інстытут навукі і мастацтва Таварыства беларускага пісьменства, 1998). На такім польска-беларускім гістарыяграфічным фоне выгадна вылучаецца адна з апошніх аддадзеных у друк самім аўтарам публікацый У. Міхнюка (Міхнюк У. Заходняя Беларусь: граніцы, тэрыторыя і насельніцтва (гістарыяграфічныя нататкі) // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 11. С. 14–21). Ён аргументавана ўказвае, што назоў «Заходняя Беларусь» выкарыстоўваўся ўжо ў 1918 – 1919 гг. Увогуле ж, відаць, было б слушным шукаць выкарыстанне гэтага геапалітоніма пачынаючы з усталявання расійска-германскай лініі фронту ў 1915 г., якая падзяліла Беларусь з поўначы на поўдзень.

«Меркавалася трансфармаваць БССР у тэарэтычна незалежную дзяржаву пад пратэктаратам Савецкага Саюзу накшталт Мангольскай Народнай Рэспублікі. Плянавалася, што пры падтрымцы Саветаў беларускі нацыянальны рух у Польшчы ўзьніме «паўстаньне» за аддзяленьне беларускай тэрыторыі. У той-жа час адбудзецца "паўстаньне" і ў Савецкай Беларусі, якая рэалізуе сваё права на "аддзяленьне", і дзьве часткі Беларусі аформяць тэарэтычна незалежную дзяржаву, фактычна пад савецкім пратэктаратам, як і Мангольская Народная Рэспубліка. Сам СССР пры гэтым не выглядае агрэсарам, а, наадварот, — такім самым (калі яшчэ й ня больш) "пацярпелым", як і Польшча.

Цяжка сказаць, ці меў "мангольскі праект" у сваёй аснове пэўныя рэальныя намеры, ці з самага пачатку быў задуманы як чыстая правакацыя, якой у далейшым абярнуліся і "нацыянальны НЭП", і "беларусызацыя", і ўся бальшавіцкая дзейнасьць у Заходняй Беларусі. Ува ўсялякім выпадку, у свой час матываваньне яго выглядала праўдападобным»[118].

А згодна польскай крыніцы, падчас існавання Сярэдняй Літвы (1920–1922 гг.) быў яшчэ адзін варыянт паўстання. «Калі б пачалася ўзброеная барацьба Ковенскай Літвы і Беларусі з Польшчай, павінна было пачацца антыпольскае паўстанне ў той частцы Беларусі, якая, згодна з Рыскай дамовай, належала Польшчы. У гэтым выпадку на дапамогу Літве і Беларусі прыйшлі б савецкія войскі». Пасля выбараў у Сойм і Сенат Польскай Рэспублікі, адносна паспяховых для беларусаў і іншых нацыянальных меншасцей, па паведамленні той жа крыніцы, паўстанне на «крэсах усходніх» павінна было праявіць ініцыятыву ў паслабленні вайсковых сілаў польскай дзяржавы, з чаго «мелася скарыстаць Савецкая Расія, прайсьці праз Польшчу і злучыцца зь Нямеччынай. Пасьля гэтага мусіла быць утвораная незалежная Беларусь, магчыма, сфэдэраваная зь Літвой ці

[118] Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 851.

Савецкай Расіяй»[119]. Аднак гістарычныя варункі сталіся неспрыяльнымі для далучэння заходніх зямель Беларусі пасродкам паўстання, таму Масква вымушана была шукаць іншыя шляхі. У той жа час кіраўніцтва СССР спрабавала падрыхтаваць глебу для павелічэння тэрыторыі краіны за кошт вяртання зямель, якія ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі. Дзеля гэтага яна шукала дыпламатычнага кансенсусу стасоўна гэтага пытання з вядучымі дзяржавамі. Праўда, тут поспехі былі яшчэ меншымі. Аднак сам гэты факт казаў пра няспынную зацікаўленасць Савецкага Саюза ў аднаўленні межаў колішняй імперыі[120].

Досвед гістарыяграфіі сведчыць, што і да сённяшняга часу многія не ведаюць асноўных чыннікаў павелічэння Савецкай Беларусі ў сярэдзіне 1920-х гг. Як было сказана ў пункце 3-м сакрэтнага дакумента «В комиссию политбюро ЦК ВКП(б) по вопросу о расширении границ БССР», «основной решающий аргумент за расширение границ БССР – в ближайшее время — определяется политикой Польши»: меліся звесткі, што там збіраліся правесці шэраг рэформаў адносна нацыянальных меншасцей, у тым ліку беларусаў[121]. У сувязі з гэтым Крамлю неабходна было прэвентыўна рабіць пэўныя захады, і — як паказаў час — «вяртанне у склад БССР шэрагу ўсходнебеларускіх паветаў мела вялікі рэзананс у Польшчы і Заходняй Беларусі»[122]. А наперадзе ж была яшчэ і перспектыва вяртання самой Заходняй Беларусі.

---

119 Кароткі нарыс беларускага пытаньня // ARCHE–Пачатак, 2007, № 11. С. 230, 262 і інш.

120 Гл. падрабязней: Черноперов В. Л. Западная граница СССР и перспективы отношений с крупнейшими государствами Европы в дискуссии ведущих советских дипломатов конца 1924 г. // Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць: Мат-лы Міжнар. навук. канф., Мінск, 12 мая 2006 г. / А. А. Каваленя (гал. рэд.), С. Я. Новікаў (нам. гал. рэд.). Мінск: МДЛУ, 2007. С. 235–239.

121 В комиссию Политбюро ЦК ВКП(б) по вопросу о расширении границ БССР // Ладысеў У. Ф. Паміж Усходам і Захадам: Станаўленне дзяржаўнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі (1917–1939 гг.) / У. Ф. Ладысеў, П. І. Брыгадзін. Мінск: БДУ. 2003, С. 296.

122 Хоміч С. Асноўныя этапы фармавання тэрыторыі БССР (1918–1926) // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 7. Сш. 2. Менск, 2000. С. 360, 363.

І хаця савецкі ўрад устрымліваўся ад публічных заяў пра неабходнасць перагляду савецка-польскай мяжы (у адрозненне ад прадстаўнікоў саюзных рэспублік, да прыкладу старшыні ўрада Украінскай ССР у 1924 г.), аднак у сакрэтнай перапісцы народнага камісарыята замежных спраў дагавор з Польшчай аб ненападзе разглядаўся як не больш чым тактычны ход[123]. Усходнія межы Польшчы і Румыніі сталі картай для маніпуляцый у дыпламатычных гульнях паміж Масквой і Захадам яшчэ з часоў У. Леніна, які рэкамендаваў камісару замежных спраў Г. Чычэрыну «всемерно использовать постановку Ллойд Джоржем вопроса о восточных границах Польши и Румынии, указывая, что эти границы — препятствуют установлению мира, но делать это осторожно, дабы не навлечь нареканий об отступлении от Рижского договора»[124]. У сваю чаргу на Генуэзскай канферэнцыі Г. Чычэрыным было заяўлена, што «уважение (территориального статус-кво. — *А. Т.*) не должно рассматриваться как равнозначащее признанию этого статус-кво…[125] Малады расійскі даследчык А. Пронін заўважае, «что и советское руководство, заключив мирный договор с Польшей в 1921 году и тем формально признав восточную польскую границу, неизменно подчеркивало свое недовольство сложившейся ситуацией. Так, посол Германии в СССР в 20-х — начале 30-х годов фон Дирксен 17 октября 1931 г. писал из Москвы о своей встрече с Ворошиловым, утверждая, что границы с Польшей Ворошилов считает, как это он подчеркивал в разговоре с начальником Генерального штаба рейхсвера Адамом, "неокончательными" <…> 12 декабря 1931 года Ворошиловым в беседе с фон Дирксеном были сказаны следующие слова: "ни при каких обстоятельствах, разумеется, не может быть и речи о какой-либо гарантии польской западной границы; советское правительство — принципиальный противник Вер-

---

[123] Мезга М. Мяжа канфрантацыі // Беларуская мінуўшчына, 1996, № 2. С. 29.

[124] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 45. М.: Государственное издательство политической литературы, 1975. С. 187.

[125] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 45. М.: Государственное издаельство политической литературы, 1975. С. 547.

сальского договора”»[126]. Дый сам Сталін публічна праз нямецкага пісьменніка Эміля Людвіга ў гутарцы 13 снежня 1931 г. выказваўся пра непрызнанне межаў Версальска-Вашынгтонскай сістэмы, у тым ліку і ў першую чаргу Польшчы. Нягледзячы на гатоўнасць падпісаць з ёй пакт аб ненападзе, ён акцэнтаваў бы не прызнанне яе межаў, а непрымяненне «насілля, нападу для таго, каб змяніць граніцы Польшчы, СССР або парушыць іх»[127]. Напэўна, нездарма казытлівая для Масквы тэма Польшчы ўсплыла ў размовах савецкіх кіраўнікоў менавіта ў канцы 1931 г.: сёння ўжо вядома, што ў 1932 г. супраць Польшчы М. Тухачэўскі распрацоўваў планы кампаніі «глыбокіх аперацый» (цікава, што паведамляюць пра гэта менавіта расійскія гісторыкі)[128]. Урэшце ўжо 4 кастрычніка 1938 г. намеснік камісара замежных спраў Уладзімір Пацёмкін у размове з французскім паслом Рабэрам Кулёндрам выказаў меркаванне, што не бачыць для СССР іншага выйсця, акрамя чацвёртага падзелу Польшчы[129]. У такім кантэксце праўдападобна гучаць развагі І. Сталіна (аўтэнтычнасць якіх ставіцца пад сумнеў), пра тое, што справа вайны і міру на той час (19 жніўня 1939 г.) залежыць ад кіраўніцтва СССР. Калі заключыць дагавор з Англіяй і Францыяй, немцы будуць вымушаны адступіць ад планаў агрэсіі адносна Польшчы і стануць шукаць стасункаў з заходнімі дзяржавамі, а такое разгортванне падзей Маскве не пасуе. І наадварот, падпісанне дагавора аб ненападзенні з Германіяй умажлівіць яе інтэрвенцыю Польшчы і ўцягне ў вайну Англію і Францыю, што якраз для Савецкага Саюза было б прымальна, бо тады можна было б дачакацца спрыяльнага для сябе моманту ўступлення ў канфлікт. З гэтага была зроблена выснова,

---

[126] Пронин А. А. Советско-германские соглашения 1939 г. Истоки и последствия [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://history.machaon.ru/all/number_10/pervajmo/pronin_print/index.html. Дата доступу: 13.01.2012.

[127] Сталін І. В. Творы. Т. 13. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1951. С. 114–116.

[128] Паводле: Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 530.

[129] Паводле: Grzelak Cz. K. Kresy w czerwieni. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku. Warszawa: Wydawnictwo NERITON, 1998. S. 16.

што патрэбна прыняць прапанову немцаў, адмовіўшы англічанам і французам[130].

Дарэчы, на Украіне такой вострай праблемы падзелу, якую мела Беларусь, не існавала. «Ядро» Украіны разам з Кіевам знаходзілася ў складзе Саюза, а на распалавіненай паміж Мекаю (Вільняю) і Медынаю (Менскам) Беларуссю яшчэ трэба было ствараць «свой» беларускі («гравітацыйны» — Томаш Стрыек) цэнтр, надаваць яму кансалідуючае значэнне, якое затым нельга было б падвергнуць сумневу. Думаецца, што пасля няўдалай спробы агрэсіі прыкладна такім самым метадам планавалася ўключыць у склад СССР Фінляндыю, далучыўшы яе да Карэла-Фінскай ССР, якую заканстытуявалі ў 1940 г. адразу пасля заключэння з Фінляндыяй міра. А менавіта *аб'яднаць* нібыта кроўных братоў аднаго народа, палова якога ўсё яшчэ «стагнала пад капіталістычным гнётам». Таму і пасля вайны СССР лічыў фінскае пытанне нявырашаным, бо па-ранейшаму бачыў Фінляндыю ў сферы сваіх інтарэсаў. Дарэчы, германскі бок гэтаму і не пярэчыў, хоць і меў пэўныя ўмовы. Сам Гітлер казаў: «Это не затрагивает законных притязаний России <...> эта страна входит в русскую зону влияния». Праўда, ён настойваў на мірнай рэалізацыі пакта, з чаго Молатаў выявіў пэўнае нерваванне[131]. Рэч у тым, што з восені 1940 г. з боку Савецкага Саюза рыхтавалася другая фінская вайна з планамі поўнага захопу Фінляндыі за 45 дзён[132]. У 1956 г., пасля смерці Сталіна і асуджэння культу асобы, ідэя таго аб'яднання, відаць, канчаткова знікла —

130 Паводле: Grzelak Cz. K. Kresy w czerwieni. Agresja Związku Sowieckiego na Polskę w 1939 roku. Warszawa: Wydawnictwo NERITON, 1998. S. 39–40.

131 Запись беседы между Гитлером и Молотовым (в присутствии Риббентропа, а также советников посольств Хильгера и Павлова в роли переводчиков. 12 ноября 1940 г.) і Запись беседы Гитлера с Молотовым (в присутствии Риббентропа и Деканозова, а также советников посольств Хильгера и Павлова в роли переводчиков. 13 ноября 1940 г.) [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://around.spb.ru/variety/docs/diplomat/before.php. Дата доступу: 13.01.2012.

132 Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 543. Гл. таксама: Хроники с Николаем Сванидзе // Эфир НТВ. 24.06.07, 23.55 па маскоўскім часе.

і Карэла-Фінская ССР была пераўтворана ў Карэльскую Аўтаномную ССР (NB без Фінскай!).

У Польскай Рэспубліцы беларусы афіцыйна былі нацменшасцю, і гэта таксама паспрыяла таму, каб нават некамуністычныя нацыянальныя дзеячы на ніве беларушчыны пачалі даваць веры бальшавікам. Асабліва пасля таго, як дамаганні Б. Тарашкевіча і яго хаўруснікаў у палітыцы здабыць для беларусаў аўтаномію не рэалізаваліся. Тая аўтаномія (хаця б фармальная) у вялікай ступені пазбавіла б Маскву падстаў для інспіравання эвентуальнага аб'яднання Беларусі. Думаецца, менавіта сепаратысцкія памкненні Б. Тарашкевіча, якія (пры ўмове іх рэалізацыі) маглі б прынесці нямала шкоды Крамлю, пазней падштурхнулі бальшавікоў спярша наладзіць яму эміграцыю ў БССР, а затым рэпрасаваць яго (як і многіх іншых нацыянальных дзеячаў заходняй часткі Беларусі). У гэтай сувязі вартае ўвагі небеспадстаўнае меркаванне Р. Лазька пра разгром Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (ачольваў Б. Тарашкевіч), якая стала ахвярай дзвюх дыктатур — варшаўскай ды маскоўскай[133]. «Савецкае кіраўніцтва прыкладала актыўныя намаганні, каб не дапусціць стварэння і ўмацавання нацыянальных аб'яднанняў, гатовых да супрацоўніцтва з польскім урадам»[134]. Канечне, крамлёўскім бальшавікам было непамысна бачыць 8-тысячную Кампартыю Савецкай Беларусі на фоне больш чым 100-тысячнай (!) Грамады[135] (дарэчы, у Кампартыі Заходняй Беларусі мелася не больш чатырох тысяч сяброў і недзе столькі ж належала

[133] Гл. падрабязней: Лазько Р. Хто ж знішчыў «Грамаду»? // Беларуская мінуўшчына, 1994, № 2. С. 46–49. Пра дзейсны ўдзел у разгроме БСРГ ведалі (ці здагадваліся) і ў тагачассе, аб чым сведчаць згаданыя П. Мядзёлкай словы Янкі Купалы на гэтую тэму: Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця // Полымя, 1993, №3. С. 234.

[134] Мезга М. Мяжа канфрантацыі // Беларуская мінуўшчына, 1996, № 2. С. 31.

[135] Паводле: Адамовіч А. Да гісторыі беларускае літаратуры. Мінск: Выдавец ІП Зьміцер Колас, 2005. С. 860; Палуян У. А. Беларуская сялянска-работніцкая грамада // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 1. Мінск: БелЭН, 1993.— С. 416.

да Камуністычнага Саюза моладзі[136]). Варта заўважыць, што пасля разгрому Грамады яе сябры не пайшлі ў КПЗБ — саюзніка па антыпольскай барацьбе. Дык можа і не такое шчыльнае супрацоўніцтва ў іх было, як спрабуюць запэўніць многія, у тым ліку і сучасныя, гісторыкі[137]? Тым больш, што радыкальныя метады барацьбы КПЗБ (бывала, праўда, іх правакавалі агенты дэфензівы[138]), якія выклікалі рэпрэсіі польскіх уладаў, нярэдка толькі шкодзілі ўздыму беларускага нацыянальнага руху. Між іншым, сапраўдныя намеры стасоўна Грамады Крэмль выявіў адно пазней, абвінаваціўшы ўдзельнікаў руху ў спробе ўтварэння ў межах Польшчы буржуазнай беларускай дзяржавы[139]. Тым не менш, відавочна, што бальшавікі прымалі ўдзел у стварэнні Грамады, імкнучыся праз яе ўзвесці «мосьцік да камунізму»[140].

З іншага боку, неабходна адзначыць, што пасля ліквідацыі Грамады на выбарах у Сейм за камуністаў прагаласавала 26% — амаль у 2,5 разы больш чым за іншых беларускіх палітыкаў[141]. Відаць, што палітычныя прыхільнікі ліквідаванай Грамады часткова пераарыентаваліся на КПЗБ — параўнаўча з іншымі найбольш блізкую ідэйна арганізацыю. Разам з тым, у адрозненне ад БСРГ (нават пасля яе разгому) КПЗБ пры наяўнасці большых, чым мела тая ж Грамада, субсідый так і не стала народным палітычным рухам, што, напэўна, кампраментавала камуністаў увогуле.

136 Ладысеў У. Камуністычная партыя Заходняй Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 4. Мінск: БелЭН, 1997. С. 67; Бобер М. Камуністычны Саюз моладзі Заходняй Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 4. Мінск: БелЭН, 1997. С. 76; Ліс А. Заходняя Беларусь: культурная спадчына забытага дваццаціголдзя // Спадчына, 1994, № 6. С. 40, 43.

137 Найбольшую ўвагу тут заслугоўваюць перадусім працы Анатоля Сідарэвіча, напрыклад: Сідарэвіч А. Антон Луцкевіч і Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада // ARCHE, 2007, № 9. С. 192–218. У гэтым артыкуле аўтар педалюе тэму стварэння Грамады фактычна пад камуністычным уплывам, як і яе супрацоўніцтва з бальшавікамі, хаця і не робіць з гэтага канчатковых высноў.

138 Рагуля В. Успаміны. Мінск: ВЦ: «Бацькаўшчына», 1993. С. 53.

139 Mironowicz E. Białorusini w polityce piłsudczyków w latach dwudziestych // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2005, № 23. С. 58.

140 Рагуля В. Успаміны. Мінск: ВЦ: «Бацькаўшчына», 1993. С. 42, 51.

141 Ладысеў У. Цяжкі шлях выправанняў // Беларускі гістарычны часопіс, 1994, № 1. С. 85.

У выніку ўсіх гэтых падзей да 1939 г. па абодва бакі мяжы ўсталяваўся стэрэатып пра будучае аб'яднанне як далучэнне Заходняй Беларусі да Беларусі Савецкай, чым быў створаны для яго рэальны грунт. Усталяванню гэтага стэрэатыпу садзейнічала сваёй няўмелай палітыкай і кіраўніцтва Польскай Рэспублікі. Польская ўлада ясна разумела, што здзейсніла захоп Заходняй Беларусі, «крэсаў паўночнаўсходніх». Разам з тым, імкненне стварыць унітарную дзяржаву дыктавала Варшаве праводзіць асіміляцыю нацменшасцей (што, дарэчы, нівелявала б факт захопу «крэсаў»), і ў гэтым бачыцца стратэгічна-гістарычны пралік міжваеннай Польшчы: беларусы ў ёй сталі маргіналамі, тады, калі па ўсходні бок мяжы яны былі нібыта роўнымі сярод роўных і мелі свой «цэнтр», сваю сталіцу. У многім дзякуючы таму праліку Савецкі Саюз і змог з лёгкасцю стварыць грунт для аб'яднання Беларусі пад саюзным дахам. У сувязі з гэтым нельга не пагадзіцца з акадэмікам М. Касцюком, што «ў тагачасных ваенна-палітычных абставінах аб'яднанне магло адбыцца толькі на савецкай аснове»[142] (праўда, думаецца, не абавязкова ў межах Беларускай ССР: спачатку нават падумвалі пра арганізацыю такіх савецкіх рэспублік, як Польшча, Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь — гл. далей).

Якія ж галоўныя высновы можна вылучыць стасоўна развіцця беларускай праблемы ў святле імкненняў маскоўскіх палітыкаў? Найперш неабходна адзначыць, што ва ўмовах тагачаснай міжнароднай ды ўнутранай сітуацыі бальшавіцкі Крэмль вымушаны быў не толькі не ігнараваць беларускую праблему, але і ісці на канструктыўнае для беларускага народа яе вырашэнне (спачатку). Аднак, як прадказвалася некаторымі, гэта быў толькі меркантыльны крок для бальшавікоў (як, напрыклад, НЭП у савецкай эканоміцы). Беларусізацыя і так званае ўзбуйненне выконвалі адно тактычную ролю: 1) давалі магчымасць раскрыцца нацыянальнаму патэнцыялу ў Савецкай Беларусі, 2) кшталтавалі

[142] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2006. С. 570.

сімпатыю ў «заходнікаў», перацягваючы іх на бок саветаў, – у выніку па абодвух гэтых пазіцыях беларускі нацыянальны рух чакала элімінацыя, як духоўная (знішчэнне гістарычна-культурнай спадчыны), так і фізічная (рэпрэсіі супраць інтэлектуальнай і эканамічнай эліты). Галоўнай мэтай крамлёўскіх палітыкаў з’яўлялася пашырэнне межаў савецкай дзяржавы, і Заходняя Беларусь разглядалася страчанай толькі на пэўны, але нядоўгі, час. У першай палове 1920-х гг. далучыць гэтую тэрыторыю не дазволілі неспрыяльныя абставіны. І калі стала відавочна, што далучэнне Заходняй Беларусі — справа не аднаго дня, то Масква пачала перацягваць з Польскай Рэспублікі ды іншых краін у БССР нацыянальных дзеячаў, каб 1) яны не шчыравалі над арганізацыяй «беларускага П’емонта», каб 2) увогуле элімінаваць беларускі нацыянальны рух на абедзвюх частках Беларусі, зрабіўшы яе абсалютнай марыянеткай бальшавіцкай палітыкі шляхам ліквідацыі перадусім актывістаў БНР. Часткова задума атрымалася. Масква сама падрыхтавала для сябе ўмовы (перадусім замацавала на розных узроўнях палітыкі думку пра адзіна магчымы савецкі варыянт аб’яднання Беларусі), каб у 1939 г. ужо аб’яднаная Беларусь апынулася ў межах імперска-таталітарнай дзяржавы.

# З агню ды ў полымя: 1939-ы

Если на Запад — русская армия заслуживает колонии..

**А. Жданов (из «Черновых записей» к договору о ненападении между СССР и Германией)[143]**

В интересах СССР — Родины трудящихся, чтобы война разразилась между Рейхом и капиталистическим блоком. Нужно сделать все, чтобы эта война длилась как можно дольше в целях изнурения двух сторон. Именно по этой причине мы должны согласиться на заключение пакта, предложенного Германией, и работать над тем, чтобы эта война, объявленная однажды, продлилась максимальное количество времени. <…> Что плохого было бы, если в результате разгрома Польши мы распространим социалистическую систему на новые территории и население

**И. Сталин**

Мы с Германией разделили Польшу… Если есть лица виноватые, то мы тоже виноваты

**И. Сталин**

У гэтай частцы працы, бадай самай складанай і заблытнай, хацелася б даць па магчымасці аб’ектыўную характарыс-

[143] Паводле: Наджафов Д. Г. Начало второй мировой войны. О мотивах сталинского руководства при заключении пакта Молотова — Риббентропа // Война и политика, 1939–1941. М.: Наука, 1999. С. 95.

тыку палітычных падзей 1939 г. і іх пасляверасնёўскага лёсу, а таксама адлюстраваць рэальны стан гісторыі аб'яднання Беларусі. Да таго ж даць прававую ацэнку верасню 1939 г. з улікам беларускай пазіцыі, не здраджваючы пры гэтым фактралогіі.

Традыцыйны агляд гістарыяграфічных здабыткаў, якіх вельмі шмат — у сэнсе колькасным, але, на жаль, не абавязкова якасным, паспрабуем рэпрэзентаваць у выглядзе наступных рэфлексій.

Савецкая гістарычная навука — ад сталінскай да гарбачоўскай эпохі — адназначна ацэньвала паход Чырвонай Арміі як вызваленчы (пералік прыкладаў ператварыўся б у аб'ёмны, сёння нікому не патрэбны гістарыяграфічны даведнік). Сучасная беларуская гістарыяграфія, за выключэннямі, якія не ўплываюць на агульны дыскурс, не адмовілася ад савецкай дэфініцыі адносна гістарычнай справядлівасці аб'яднання[144]. Тыповымі для старэйшага пакалення беларускіх гісторыкаў з'яўляюцца словы з сучаснага энцыклапедычнага выдання: «Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР — акт гістарычнай справядлівасці, ліквідацыі гвалтоўнага і грабежніцкага падзелу Беларусі паводле ўмоў Рыжскага мірнага дагавора 1921 г.»[145]; «Важнейшым вынікам» савецка-германскага дагавора ад 23 жніўня 1939 г. для Беларусі ёсць «гістарычна справядлівая ў жыцці беларускага народа падзея — уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР»[146]. Не пазбеглі гэтага штампу і аўтары (у прыватнасці С. Хоміч, М. Касцюк, А. Літвін) адносна ліберальнай, дэмакратычнай і дэпалітызаванай сінтэзы па гісторыі Беларусі[147]. Тут таксама можна згадваць бясконцы шэраг прыкладаў.

---

[144] Гл., напрыклад: Костюк М. П. Большевистская система власти в Беларуси. М.: ИРИ РАН, 2002. С. 208.

[145] Гл.: Горбач А., Міхнюк У. Уз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. Кн. 1. Мінск: БелЭН, 2001. С. 571.

[146] Снапкоўскі У. Савецка-германскія дагаворы // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. Кн. 1. Мінск: БелЭН, 2001. С. 194.

[147] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэд.) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2006. С. 455, 468.

Найперш неабходна зазначыць, што гэты тэзіс запачаткаваны палітычным дыскурсам Другой сусветнай вайны і належыць ён менавіта савецкім ідэолагам. Нават Саюз Польскіх Патрыётаў, створаны з ініцыятывы непасрэдна І. Сталіна, заявіў пра законнасць «жаданняў беларусаў і ўкраінцаў да нацыянальнага ўз'яднання»[148]. Натуральна, кіраўніцтва аб'яднанай Савецкае Беларусі таксама штораз паўтарала словы пра «гістарычныя правы», «справядлівасць як у гістарычных, так і этнаграфічных адносінах», «законнае і справядлівае жаданне беларускага народа» etc.[149] Як бачым, такая таўталагізацыя дала плён: савецкая *гістарычная* навука з лёгкасцю падхапіла *палітычнае* абгрунтаванне, зрабіла яго настолькі моцным стэрэатыпам, ад якога і сёння не можа пазбавіцца гістарыяграфічны афіцыёз Рэспублікі Беларусь (бадай, ён ужо ператварыўся ў псіхічны комплекс). Многія навукоўцы-гісторыкі ці то забываюць, ці то не разумеюць (а мо і не хочуць разумець), што гістарычная навука не павінна залежаць ад палітычнай кан'юнктуры, што гістарычная навука і паклікана дзеля таго, каб прааналізаваць працэсы бесстаронна ды непрадузята. І ў той жа час нонканфармісцкія даследаванні такімі гісторыкамі чамусьці расцэньваюцца як палітызаваны погляд на падзеі верасня 1939 г. (у чым беспасярэдне вінавацілі аўтара гэтых радкоў прадстаўнікі старэйшага пакалення, у прыватнасці У. Ладысеў). Толькі хто ж той погляд палітызаваў? Банальны адказ: аналіз дэтэрмінізму падзей і фактаў, што мелі месца ў гісторыі — вось галоўны чыннік такой пазіцыі (у адрозненне ад заангажаванасці маскоўскай галаслоўнасцю савецкіх і пост- ці неасавецкіх квазігістарычных меркаванняў). Іншая справа, што палітызаванасць у такіх даследаваннях сапраўды прысутнічае, але з прычын спецыфікі самога гістарычнага перыяду, калі ў Савецкім Саюзе больш, чым у любой іншай дзяржаве, кожны момант жыцця не толькі грамадства, але і індыві-

[148] Паводле: Вялікі А. Ф. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944–1946): Манагр. / Навук. рэд. В. Дз. Селяменеў. Мінск, БДПУ, 2005. С. 20.

[149] Паводле: Вялікі А. Ф. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944–1946): Манагр. / Навук. рэд. В. Дз. Селяменеў. Мінск, БДПУ, 2005. С. 26, 30, 31.

дуума, падпарадкоўваўся ідэалагічным устаноўкам Крамля. Таму навуковы аналіз такіх працэсаў немагчыма цалкам дэпалітызаваць — выключыць з іх палітыку. Але галоўнае для навукі — не дамешваць да даследавання праблематыку дня сённяшняга, што ператварыла б яе ў публіцыстыку, а гісторыкаў — у канфармістаў альбо дысідэнтаў — у залежнасці ад іх грамадскіх поглядаў (апошнімі, праўда, становяцца часцей за ўсё незалежныя ад палітычных актуалій і спекуляцый даследчыкі, бо любым палітыкам гісторыя калі і неабходна, дык у тым ці іншым, але заўсёды адназначным, а не полівалентным варыянце).

У сувязі са слоганам «гістарычная справядлівасць» хацелася б таксама заакцэнтаваць адзін парадаксальны момант. Аднак тут наперад варта зрабіць пэўнае філасафічнае адступленне.

Паняцце гістарычнай справядлівасці, калі ў яго не ўдумвацца, не выклікае пытанняў для разумення. Хаця, відавочна, разуменне гэтага паняцця цалкам суб'ектыўнае — аб чым сведчыць хаця б яго адсутнасць у навуковых энцыклапедыях па гісторыі (у тым ліку і толькі што згаданай). Яно (разуменне) будзе цалкам залежаць 1) ад прыватнай пазіцыі таго ці іншага аўтара (палітычнай, метадалагічнай), 2) ад кан'юнктуры (сацыяльнай, навуковай), прычым яна, безумоўна, будзе пэўным чынам уплываць і на прыватную пазіцыю. Менавіта ад прыватнай пазіцыі пэўнага суб'екта і актуальнай кан'юнктуры будзе залежаць вызначэнне таго гістарычнага моманту, якому як быццам справядліва было б вярнуць колішні status quo. Але ж як вызначыць той момант і каму яго вызначаць? У свой час, яшчэ ў 1906 г., вядомы польскі вучоны І. Бадуэн дэ Куртэнэ з нагоды «гістарычных праў» (у прыватнасці польскіх памешчыкаў на Беларусь, але нам важны сам прынцып) пісаў: «Историческим правам отдельных национальностей место в архиве истории. Ссылками на исторические права можно, если угодно, обосновать восстановление людоедства, рабства, крепостничества, самодержавия и т. д. Нельзя, конечно, отри-

цать историю, но источником для практического решения политических вопросов может быть один только современный исторический момент»[150].

Прыхільнікі паняцця «гістарычная справядлівасць» (стасоўна падзей 1939 г. у тым ліку) міжволі не заўважаюць іншых «відаў» справядлівасці, акрамя гістарычнай (якая да таго ж не з'яўляецца навуковай[151]), а іх жа можа быць процьма. Такім чынам прыхільнікі існавання ў гістарычным працэсе такой з'явы як гістарычная справядлівасць самі найлепей выяўляюць сапраўдную несправядлівасць, бо з іх боку адсутнічаюць прыклады іншых відаў справядлівасці.

Генеза паняцця «гістарычная справядлівасць» упіраецца ў «логіку здаровага розуму», з якой тэарэтычны дыскурс перакладаецца «ў сферу практычнага розуму, дзе сам тэарэтычны дыскурс губляе свае прывілеі выказваць ісціны розуму», а ён (практычны розум) з'яўляецца ні чым іншым, як звычайнай так званай жыцейскай мудрасцю, якая выяўляе сітуацыйную полі- ці нават амбівалентнасць, г. зн. прымеркавана да ўсіх выпадкаў жыцця пры наяўнасці тэзаўантыномій, якія прымяняюцца ў залежнасці ад перакананняў суб'екта — але не даследчыка-навукоўца[152].

Тым не менш, было б *несправядліва* не заўважыць, што ў гісторыі *палітычнай* думкі існуе такое паняцце, як справядлівасць (аднак — не з эпітэтам «гістарычная»!). «Осмысление справедливости в истории политической мысли дает нам два принципиально разных подхода к решению этой проблемы. Первый подход сформировался в рамках

[150] Паводле: Турук Ф. Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов. М.: Госиздат, 1921. С. 51.

[151] Гэта катэгорыя маралі. Але нават з гэтага гледзішча падзеі на Беларусі верасня 1939 г. выглядаюць далёка не адназначна, пра што крыху пазней.

[152] Гл.: Дзермант А., Санько С. Этнагенез Беларусаў II: Яшчэ раз пра навуку і ідэалогію, або Куды вядзе «логіка здаровага розуму» // ARCHE-Пачатак, 2006, № 3. С. 185–203. (Агаваруся, што гэтая спасылка прыводзіцца як згода з аспектам навуковасці падыходаў, метадалогіі, але не дадычыць усяго кантэксту палемікі аўтараў з Юрасём Пацюпам.)

классической (античной) парадигмы политической философии, и связан прежде всего с именами Платона и Аристотеля. Классическая мысль понимает под справедливостью такой социальный и политический порядок, который ориентирован *телеологически* — на обретение блага в рамках совместного существования людей. Прямо противоположную трактовку справедливости дает политическая философия классического либерализма, представленная в первую очередь именами Гоббса, Локка, Руссо и Канта. В трудах этих мыслителей справедливость начинает трактоваться как функция *индивидуальной свободы*, причем свободы, понимаемой формально — как защита неотчуждаемых прав.

Иначе говоря, классическая мысль дает нам *этическую трактовку* справедливости (в основе которой — идея блага), а современная мысль — *правовую трактовку* (основанную на свободе)»[153].

Відавочна, што ў нашым выпадку мы маем справу з анахранічнай этычнай трактоўкай, а не з прававой. Наяўнасць міжнародных правапарушэнняў з боку Масквы і Берліна (а таксама Лондана і Парыжа, але гэта адыход у бок) сёння ўжо нікім не аспрэчваецца. Аднак рэалізацыя савецкім бокам «гістарычнай справядлівасці», паводле ягонага ж разумення, не вытрымлівае крытыкі (гэтаму аспекту ў дадзенай працы ўдзяляецца канцэптуальная ўвага). Прычыны часткова бачацца ў непасрэдных адносінах савецкага кіраўніцтва да справядлівасці ў гістарычным развіцці: «Вопрос о борьбе… нужно рассматривать не под углом зрения справедливости, а под углом зрения политического момента, под углом зрения политической потребности пар-

[153] Канарш Г. Ю. Понятие справедливости в истории политической мысли (античная традиция и классический либерализм) // Философские науки, 2006, № 2. С. 142. Да таго ж некаторыя сучасныя мысляры даводзяць, што не існуе агульнага ўніверсальнага паняцця «справядлівасці» (гл.: Печерская Н.В. Метаморфозы справедливости: историко-этимологический анализ понятия справедливости в русской культуре // Полис, 2001, №2. С. 132–146).

тии в каждый данный момент» (з выступлення І. Сталіна на паседжанні выканкама Камінтэрна 22 студзеня 1926 г.)[154].

З іншага боку, кіраўніцтва міжваеннай Польскай Рэспублікі лічыла этнічныя беларускія землі за Бугам арганічнай часткай Польшчы і тлумачыла неабходнасць іх далучэння «гістарычным правам»[155]. Як бачым, гэтая пазіцыя метадалагічна тоесная савецкай, — разыходжанне заключаецца адно ў змесце таго, што кожнаму з бакоў хацелася б гістарычна «ўсправядлівіць». А пастуліраванне савецкай пазіцыі адбылося толькі дзякуючы далучэнню Заходняй Беларусі да БССР. У адваротным выпадку (прынамсі пры захаванні Польшчай міжваеннага *status quo)* існавала верагоднасць фігуравання тоеснага погляду на беларускую праблему ў польскай гістарыяграфіі. Якраз да яе цяпер і звернемся.

Польская гістарычная навука цягам усяго «пээнэраўскага» перыяду нібыта набірала паветра ў лёгкія, каб выгукнуць: «Агрэсія! Акупацыя!» Небеспадстаўна, аднак занадта эмацыянальна, што таксама перашкаджае цвяроза аналізаваць праблему. Яе даследаванне часцей за ўсё спыняецца на падзеях 1939 г. без пашырэння храналагічных межаў за выключэннем, канечне, апелявання да Рыжскага мірнага дагавора 1921 г. (аднак, як правіла, без згадкі пра ўдзел Польшчы ў Мюнхенскім дагаворы і далейшым падзеле Чэхаславакіі, што фактычна стала прэцэдэнтам для вырашэння лёсу і самой Польскай Рэспублікі, а таксама без паглыблення ў беларусацэнтрычны аспект аналізу праблемы, г.зн. без увагі на тое, што можа быць яшчэ адна пазіцыя адносна падзей і 1921 і 1939 гг., пазіцыя, прадстаўнікі якой пры ўсім сваім жаданні не ўдзельнічалі ў прыняцці рашэнняў ні

[154] Паводле: Суворов В. Ледокол. Кто начал Вторую мировую войну?: Нефантастическая повесть-документ. М.: Издательский дом «Новое время», 1992. С. 43.

[155] Паводле: Ладысеў У. Ф. Да пытання нацыянальна-тэрытарыяльнага адзінства беларускіх зямель у 20-я гады // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі / Пад рэд. І. П. Крэня. Гродна: ГрДУ, 1998. С. 104.

ў першым, ні ў другім выпадку). А гэтая пазіцыя, як бы там каму не хацелася, усё-такі была. І ёсць.

Тут таксама не варта займацца пералікам, бо можна загрузнуць у працьме прац на гэтую тэму. Тым не менш трэба адзначыць, што польская гістарычная навука за савецкім часам усё ж была нашмат больш плюралістычнай за грамадскія навукі ў Савецкім Саюзе. І калі самі даследчыкі не маглі рабіць высноў пра агрэсію дзвюх імперскіх дзяржаў супраць Польскай Рэспублікі, дык права трансліраваць плюралізм пазіцый (у тым ліку і стасоўна гэтай падзеі) у іх было[156]. Да таго ж даследаваннямі гісторыі Польшчы займаліся і яе шматлікія эмігранты, паднімаючы тэмы, на якія ў «сацыялістычным лагеры» было накладзена табу.

Неабходна таксама заўважыць, як эвалюцыянавала польская гістарычная навука адносна беларускага пытання. У часы ПНР дадзеная праблема або абыходзілася ўвагай, або даследчыкі дыпламатычна шукалі кампрамісную інтэрпрэтацыю падзей, што пакідала нявырашанымі многія пытанні. Аднак пасля польскацэнтрычнага выбуху ў 1990-х гг., абумоўленага эмацыяльнымі чыннікамі, працы польскіх даследчыкаў набылі большую разважлівасць і абсяг іх даследаванняў значна пашырыўся.

Нельга не абмінуць яшчэ адну — не лепшую — рысу сучаснай польскай гістарыяграфіі – яе неахайную, як для навукі, увагу да здабыткаў беларускіх гістарычных даследаванняў (за рэдкім выключэннем прадстаўнікоў беластоцкай школы). А дарма. Думаецца, гэта падкарэктавала б рэфлексіі польскіх гісторыкаў, асабліва з боку шматстайнасці навуковых поглядаў саміх беларусаў адносна гісторыі сваёй радзімы.

Трэцюю пазіцыю стасоўна дадзенай праблемы транслявалі беларускія эмігранты, у большасці сваёй гэта дзеячы

[156] Гл. хаця б матэрыялы, апублікаваныя ў часы ПНР: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. 877 с.

БНР ці іх паслядоўнікі[157]. Яны важка і абгрунтавана давodзілі, што беларускі народ мае не толькі нейкае віртуальна гістарычнае права на самавызначэнне і дзяржаўную суверэннасць, але і зважалі на той момант, што, нягледзячы на неспрыяльныя акалічнасці нацыянальнага развіцця і перманентны ціск з боку, бадай, усіх суседзяў, беларускія палітычныя сілы прымусілі лічыцца з сабой, сталі фактам гісторыі і немалаважным чыннікам таго, што Беларусь здабыла сабе хоць і намінальную, але дзяржаўнасць, якая ўрэшце рэшт ператварылася ў рэальную. Нават не беручы пад увагу дэкл араванні інстытутаў і дзеячаў БНР (што магло б у іншым выпадку застацца адно на паперы), мы бачым у той ці іншай (але дужа канкрэтнай, каб праігнараваць) ступені рэакцыю тых жа суседзяў на беларускі рух і ў першую чаргу — Расіі ды Польшчы, ва ўзаемадачыненнях якіх беларуская карта стала адной з казырных (калі не самай казырнай)[158]. Лепшых доказаў патэнцыялу нацыянальнай і дзяржаўнай самадастатковасці Беларусі не патрэбна. Таму ўсе розыгрышы беларускай карты выяўляліся як брутальны гвалт дужэйшага (дужэйшых) над слабейшым. Аднак гэтая пазіцыя ў гістарыяграфіі не заняла належнага месца, бо моцна муляла гісторыкам ад палітыкі і палітыкам ад гісторыі. Яна і сёння не выглядае лішне моцнай.

Дарэчы, антысавецкія беларускія палітыкі падчас Другой сусветнай вайны праявілі розныя пазіцыі адносна савецкага варыянту аб’яднання Беларусі. У гэтай сувязі, выбіваючыся з агульнага шэрагу, звяртае на сябе ўвагу фігура гісторыка і палітыка М. Шкялёнка, які на такім палітычна заангажаваным мерапрыемстве як Другі Усебеларускі Кангрэс (27 чэрвеня 1944 г.) здолеў падняцца над парадыгмай голых эмоцый стасоўна праблемы Беларусі ў польска-

[157] Яна нярэдка фігуруе ў дадзеным даследаванні, хаця і не з’яўляецца абавязкова магістральнай.

[158] Так званая беларуская карта традыцыйна выкарыстоўвалася расійскім царызмам у перыяд Новай гісторыі (Смалянчук А. «Беларуская карта» ў дзейнасці царскае адміністрацыі (другая палова XIX – пачатак XX ст. // Спадчына, 1996, № 4. С. 53–66). Нядзіўна, што ў перыяд Найноўшай гісторыі яна не страціла актуальнасці.

расійскіх дачыненнях і звярнуцца да іх разгляду праз навукова-гістарычную прызму, сам разумеючы фрустрацыйнасць такога кроку: «У часе вайны, калі грымяць гарматы і льецца навакол кроў, а адзіным прадстаўніком права зьўляецца меч, можа выдавацца справай малаважнай займацца ўмовамі і пастановамі, хоць-бы і з галіны міжнародных дачыненняў, але якія не страцілі сваю актуальнасць, значэньне і праўную сілу, дзякуючы зьменам, што прынясла вайна. Бо гэта, звычайна, ужо дакуманты, якім месца ў архіве і якія могуць быць у большай ці меншай меры цікавымі перадусім толькі для гісторыка. З нашага гледзішча гэткімі архіўнымі дакумантамі зьўляюцца розныя польска-бальшавіцкія дагаворы, аб'ектам якіх была тэрыторыя Беларусі і яе народа. І гэта з дзьвюх прычынаў: 1. Гэткія дагаворы былі зробленыя без нашага ўдзелу, накіненыя гвалтам і ўжо бадай таму мы ня можам прызнаць ім у дачыненьні да нас праўнае сілы. Практычна, зразумела, мы змушаныя былі мець іх на ўвазе, бо выкананьне іх гарантавала сіла, але па сваёй істоце яны былі разгляданыя намі заўсёды — як акты гвалту, і ніколі — як акты, у аснове якіх ляжала права». Далей у выступленні М. Шкялёнак кажа пра чарговы розыгрыш беларускай карты палякамі і бальшавікамі, выступаючы супраць яго. Сваю пазіцыю ён базіруе на гістарычнай аргументацыі, сягаючы ў часы ВКЛ, даводзячы, што «гісторыя не дае ніякага абасанаваньня іхным прэтэнсыям да Беларусі». «Рыскі трактат 1921 г.» называецца ім «найвялікшым злачынствам бальшавіцкай Масквы ў дачыненьні да Беларусі». Пастанова аб уключэнні Заходняй Беларусі праз далучэнне да БССР таксама прызнаецца незаконнай, юрыдычна неабгрунтаванай[159].

Але гэта было ўжо напрыканцы Другой сусветнай вайны, калі вяртанне савецкай ўлады на Беларусь стала непазбежным і відавочным. А ў самым яе пачатку многія заходнебеларускія нацыянальныя дзеячы (у прыватнасці Беларуская

[159] Шкялёнак М. Беларусь і суседзі. Гістарычныя нарысы. Беласток: Беларускае Гістарычнае Таварыства, 2003. С. 236–248

хрысціянская дэмакратыя і яе друкаваны орган «Kryniса») падзеі савецкага аб’яднання расцанілі як гістарычную справядлівасць[160]. Аднак неабходна пры гэтым заўважыць колькі прынцыповых і канцэптуальных момантаў:

1) ацэньваўся не юрыдычны, а перадусім палітычны (што, як паказана вышэй, адэкватна гісторыі палітычнай думкі) і этнічны аспекты (да таго ж, нагадаем, былі і контрвізіі беларускіх палітыкаў, якія ў справе дасягнення незалежнасці разлічвалі на дапамогу Германіі; тут варта дадаць, што на першым этапе Другой сусветнай вайны палітыка ІІІ Райха на акупаваных тэрыторыях значна адрознівалася ад дзеянняў у перыяд германа-савецкай вайны, да таго ж і задумкі Берліна стасоўна Беларусі спачатку для яе выглядалі параўнаўча авантажнымі і перспектыўнымі ў плане развіцця дзяржаўнасці);

2) генеза паняцця «гістарычная справядлівасць» у савецкіх і сучасных гісторыкаў узыходзіць да савецка-сталінскага палітычнага дыскурсу і да меркаванняў нацыянальных сіл Беларусі дачынення не мае.

Усё гэта разам азначае, што наша асэнсаванне падзей якасна не трансфармуецца.

Вераснёўскія наступствы пакта Молатава — Рыбентропа, прызнанага сусветнай супольнасцю злачынным, стасоўна Беларусі як гістарычнага краю многімі лічацца справядлівымі[161]. Такімі гісторыкамі амаль не звяртаецца ўвага на

[160] Паводле: Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 504

[161] Дарэчы, як не дзіўна, гэтаму паспрыяла і пазіцыя Англіі ды Францыі — тагачасных саюзнікаў Польшчы — стасоўна ўключэння нядаўніх усходніх правінцый міжваеннай Польскай Рэспублікі ў склад СССР, што разглядалася Лонданам дастаткова спакойна і нават зычліва, без якіх-кольвек прэтэнзій да Масквы (гл. падрабязней: Сальков А. П. Проблема принадлежности Западной Белоруссии и Западной Украины в советско-англо-франко-американских отношениях (сентябрь 1939 — июнь 1941 гг.) // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы міжнароднага навуковага семінара 1 верасня 2003 года, Мінск. Адк. рэд. В. Ф. Балакіраў, К. І. Козак. Мінск: НАРБ,

тое, што вераснёўская акцыя Савецкага Саюза супярэчыла падпісаным ім жа міжнародным дакументам, у тым ліку дэкларацыі аб ненападзе з Польшчай[162]. Дый заключэнне самога пакта Молатава — Рыбентропа пярэчыла папярэднім савецка-польскім дамоўленасцям «не принимать участия ни в каких соглашениях, с агрессивной точки зрения явно враждебных другой стороне». Масква, аргументуючы сваю інтэрвенцыю тым, што Польшча ўжо не існуе, а яе ўрад не падае прыкмет жыцця, карысталася недастат-

---

2004. С. 16–26; Sobczak K. Polska wojna wrześniowa na dwoch frontach 1.09 — 17.09 — 6.10.1939. Warszawa: Wydawnictwo Comandor, 2005. S. 156–158). Дый сучасныя польскія даследчыкі сярод чыннікаў падзелу версальскай Польскай Рэспублікі схільны бачыць у тым ліку і англійска-французскі фактар: «Trzeba niezmiennie pamiętać, że operacja Armii Czerwonej w Polsce 17 września 1939 r. stała się możliwa tylko w warunkach bezczynności aliantów Rzeczypospolitej na froncie zachodnim» (Kornat M. Agresja 17 września 1939 i jej konsekwencje w polityce europejskiej // Radziecka agresja 17 września 1939 r. i jej skutki dla mieszkańców ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Białystok, 2000. S. 50). Гэта лоўка сёння выкарыстоўваецца ў сваіх велікарасійскіх інтарэсах некаторымі расійскімі гісторыкамі, якія кажуць: «Сами британские политики того времени полагали действия СССР по восстановлению дореволюционной территории абсолютно правомерными: лорд Галифакс, министр иностранных дел, выступая в палате лордов, так представил советско-германский договор и действия СССР: “Будет справедливым напомнить две вещи: во-первых, советское правительство никогда не предприняло бы такие действия, если бы германское правительство не начало и не показало пример, вторгнувшись в Польшу без объявления войны (але ж перад тым быў пакт Молатава — Рыбентропа з яго сакрэтным пратаколам! — *А. Т.)*; во-вторых, следует напомнить, что действия советского правительства заключались в перенесении границы по существу до той линии, которая была рекомендована во время Версальской конференции лордом Керзоном…” 10 октября 1939 г. такую же оценку дал У. Черчилль» (а хто ж дапамагаў Польшчы ў 1919–1920 гг. у барацьбе супраць Савецкай Расіі, як не Англія? — *А. Т.*) (Паводле: Нарочицкая Н. То, что нельзя забывать // Неман, 2005, № 5. С. 138). Больш таго, Лондан, пэўна, баючыся большага збліжэння Берліна і Масквы, прапаноўваў апошняй супрацоўніцтва, абяцаючы ўзамен фактычнае прызнанне як мінімум да канца вайны занятых Саветамі тэрыторый (Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939—1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 428). Зразумела, Крамлю патрэбна было знясіленне ваюючых бакоў, кожны з якіх быў зацікаўлены ў альянсе з ім; а лепшым фактычным прызнаннем занятых Чырвонай Арміяй тэрыторый стала першапачатковая рэакцыя Лондана на падзеі верасня 1939 г.

[162] Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 106.

кова правамоцнымі аргументамі для спынення савецка-польскіх дагавораў. Паводле міжнарожнага права, «государство продолжает существовать в смысле международного права даже тогда, когда оно *временно* не обладает центральной властью, поскольку оно представляемо не только своим центральным правительством, но и *всеми* его органами. ...Даже захват противником всей его территории («debellation») сам по себе не прекращает существования побежденного государства...»[163]. Да таго ж СССР трапляў пад дэфініцыю агрэсара паводле Лонданскай канвенцыі 1933 г., якую сам жа падпісваў (больш таго: менавіта праект Савецкага Саюза быў пакладзены ў аснову вызначэння агрэсіі[164]). Масквой парушаўся шэраг дакументаў[165].

Тады ўзнікаюць лагічныя пытанні, ці захавалася б справядлівасць, каб уз'яднанне Беларусі адбылося праз захоп міжваеннай Польскай Рэспублікай БССР? Ці, можа, захавалася б справядлівасць тады, калі б Сталін, просячы перадыху ў Гітлера (снежань 1941 г.), аддаў III Райху заходнюю частку сваёй імперыі, у тым ліку Беларусь? У апошнім выпадку наша краіна таксама была б «аб'яднанай» — у Lebensraum'e. Але Гітлер не пайшоў на такі крок[166]. Нельга скідваць з рахунку, што ў III Райха адносна Беларусі напярэдадні яе акупацыі былі планы не толькі элімінацыі, але і стварэння «вольных ад Сталіна рэспублік», што, як справядліва заўважае Юры Туронак, мала чым адрознівалася ад саюзнага status quo з гледзішча нацыянальных інтарэсаў, папросту адбылася б «замена распараджальнага цэнтра — з Масквы на Берлін»[167]. Ці рэалізацыю тых пла-

[163] Случ С. З. Советско-германские отношения в сентябре-декабре 1939 года и вопрос о вступлении СССР во Вторую мировую войну // Отечественная история, 2000, № 5. С. 46–58; № 6. С. 10–27.

[164] Сталін І. В. Творы. Т. 13. Мінск: Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1951. С. 394.

[165] Лебедева Н. С. Польша между Германией и СССР в 1939 году // Война и политика, 1939—1941. М.: Наука, 1999. С. 74; Sobczak K. Polska wojna wrześniowa na dwoch frontach 1.09—17.09—6.10.1939. Warszawa: Wydawnictwo Comandor, 2005. S. 162–163.

[166] Грыцкевіч А. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына, 1994, № 4. С. 59–60.

[167] Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Пер. з польскай В. Ждано-

наў можна было б назваць аб’яднаннем? Справядлівасць *гэткіх* аб’яднанняў не ўкладваецца ў галаве. Менавіта на фоне гэтых пытанняў бачыцца абсурднасць той справядлівасці, адэптамі якой з’яўляюцца і сёння многія беларускія гісторыкі.

Трэба заўважыць, што «афіцыйная» гістарычная навука беларускай дзяржавы на дадзены момант месцамі ўсё ж трохі адыходзіць ад такой пазіцыі, кажучы ўжо наступнае: «Дзеянні савецкага кіраўніцтва *калі нельга апраўдаць, то можна правільна зразумець*, зыходзячы са склаўшайся рэальнай палітычнай сітуацыі»[168] (курсіў наш. — *А. Т.*). Як паказваюць зацытаваныя словы, аўтар ужо дапускае магчымасць неапраўдання дзеянняў савецкага кіраўніцтва. (*Неапраўдання* «гістарычнай *справядлівасці*»?!) Аднак, спрабуючы «выкруціцца», кажа пра разуменне палітычна-гістарычнай логікі тых дзеянняў («можна правільна разумець»!). А што, усе іншыя моманты гістарычнага працэсу можна разумець і няправільна? Ці можна правільна не разумець? Ці нельга правільна разумець? Думаецца, аўтар цытаты сафістычна заганяе сябе ў тупік квазінавуковых разважанняў, яўна завужаючы магчымасці выбару правядзення палітычнага курса кіраўніцтвам Савецкага Саюза і не ўлічваючы меркаванні стасоўна развіцця тых падзей аднаго з яго кіраўнікоў — Сталіна. Ex fontibus, вайна адкрывае перад СССР «широкое поле деятельности для развития мировой революции. <…> В интересах СССР — Родины трудящихся, чтобы война разразилась между Рейхом и капиталистическим блоком. Нужно сделать все, чтобы эта война длилась как можно дольше в целях изнурения двух сторон. Именно по этой причине мы должны согласиться на заключение пакта, предложенного Германией, и работать над тем, чтобы эта война, объявленная

віча. Каментарыі А. М. Літвіна. Мінск: Беларусь, 1993. С. 38.

[168] Ладысеў У. Ф. Ваенна-палітычны фактар у вырашэнні праблемы адзінства беларускай нацыі ў пачатковы перыяд II сусветнай вайны (метадалагічны аспект) // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы міжнароднага навуковага семінара 1 верасня 2003 года, Мінск. Адк. рэд. В. Ф. Балакіраў, К. І. Козак. Мінск: НАРБ, 2004. С. 11.

однажды, продлилась максимальное количество времени. <…> Что плохого было бы, если в результате разгрома Польши мы распространили социалистическую систему на новые территории и население»[169]. Сам Сталін добра разумеў значэнне «мірных» дагавораў, бо сам яшчэ ў 1925 г. успамінаў прэцэдэнты заключэння падобных у Новай гісторыі, напрыклад, паміж Германіяй ды Аўстрыяй, паміж Францыяй ды Расіяй, што прывяло да развязання Першай сусветнай вайны; апошні да таго ж меў і сакрэтны пратакол (!!!), паводле якога прадугледжвалася ваенная ўзаемадапамога супраць Германіі[170].

Яшчэ адным нібыта безумоўна важкім аргументам у спробе апраўдання ўзаемадачыненняў СССР з нацысцкай Германіяй з'яўляецца той факт, што апошняй ужо быў падрыхтаваны план «Белы» — напад на Польшчу, таму ў такой сітуацыі рашэнне Масквы ісці на шчыльны кантакт з ідэйным ворагам было прагматычным і адэкватным. Аднак хто сказаў, што Германія тады абавязкова б здзейсніла агрэсію? Пазней Берлін рыхтаваў аперацыю «Марскі леў» (напад на Англію), але ж не рэалізаваў яе, павярнуўшы вектар сваёй агрэсіі на ўсход. Як сцвярджаецца ў польскай гіс-

---

[169] Паводле: Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 104-105. Гл. таксама: Наджафов Д. Г. Начало второй мировой войны. О мотивах сталинского руководства при заключении пакта Молотова – Риббентропа // Война и политика, 1939–1941. М.: Наука, 1999. С. 85–105.

[170] Гл. падрабязней: Сталин И. В. Сочинения. Т. 7. М.: Государственное издательство политической литературы, 1952. С. 274–276.

Дарэчы, менавіта ў тым, 1925-м, годзе Сталін акрэсліў ваенную знешнепалітычную дактрыну СССР.

«Вопрос о нашей армии, о ее мощи, о ее готовности обязательно встанет перед нами при осложнениях в окружающих нас странах, как вопрос животрепещущий.
Это не значит, что мы должны обязательно итти (так у тэксце. – *А. Т.*) при такой обстановке на активное выступление против кого-нибудь. Это неверно. Если у кого-нибудь такая нотка проскальзывает – это неправильно. Наше знамя остается по-старому знаменем **мира**. Но если война начнется, то нам не придется сидеть сложа руки, – нам придется выступить, но выступить последними. И мы выступим для того, чтобы бросить решающую гирю на чашу весов, **гирю**, которая могла бы перевесить» (Сталин И. Полное собрание сочинений. Т. 7. М.: Государственное издательство политической литературы, 1952. С. 14).

тарыяграфіі, ужо вядома, што Гітлер не распачаў бы вайны ў 1939 г., калі б англа-французска-савецкая кааліцыя склалася[171]. Але сёння даказана, што Крэмль не імкнуўся да канструктыўнага выніку тых перамоў, бо яны патрэбны былі толькі каб паскорыць паразуменне Берліна з Масквой[172]. Да ўсяго трэба ўспомніць міжваенныя меркаванні савецкага кіраўніцтва наконт заходняга суседа, у іх яўна дамінавалі матывы змены межаў тагачаснай Польскай Рэспублікі на карысць СССР. А Гітлеру пакт Молатава-Рыбентропа, як кажуць, "развязваў рукі".

Аргументы прыхільнікаў тэзы, паводле якой СССР, нягледзячы на дагавор аб дружбе з Германіяй, нельга лічыць яе саюзнікам, тым больш стасоўна падзелу Польскай Рэспублікі, разбіваюцца словамі Сталіна пра «дружбу, скрепленную кровью» (Телеграмма И. В. Сталина министру иностранных дел Германии г. Иоахиму фон Риббентропу // Правда, 1939, 25 дек.) і Молатава пра «общую» (Германіі і СССР) перамогу над Польшчай, дзеля чаго, як ён выславіўся, «оказалось достаточно короткого удара по Польше со стороны германской армии, а затем — Красной Армии, чтобы ничего не осталось от этого уродливого детища Версальского договора» (О внешней политике Советского Союза: // Известия, 1939, 1 нояб.). Да таго ж яшчэ згадаем сумесныя германа-савецкія заявы (Правда, 1939, 29 сент.), цалкам вытрыманыя ў саюзніцкай рыторыцы[173]. Як трапна заўважае на аснове дакументаў савецка-германскіх стасункаў расійскі даследчык Сяргей Случ, існавалі нават планы сумесных баявых дзеянняў у Польшчы[174]; у тым дакуменце аўтарства Молатава казалася аб «непосредствен-

[171] Гл., напрыклад: Sobczak K. Polska wojna wrześniowa na dwoch frontach 1.09–17.09–6.10.1939. Warszawa: Wydawnictwo Comandor, 2005. S. 47.

[172] Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 90.

[173] Паводле: Пронин А. А. Советско-германские соглашения 1939 г. Истоки и последствия [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://history.machaon.ru/all/number_10/pervajmo/pronin_print/index.html. Дата доступу: 13.01.2012.

[174] Случ С. З. Советско-германские отношения в сентябре-декабре 1939 года и вопрос о вступлении СССР во Вторую мировую войну // Отечественная история, 2000, № 5. С. 46–8; № 6. С. 10–27.

ной реализации намеченного плана» адносна захопу Польшчы[175]. Дый простае садзейнічанне баявым дзеянням Германіі было — з Мінска падаваліся радыёсігналы для дапамогі пры арыентацыі нямецкай авіяцыі ў ходзе атак на польскія аб'екты[176], існавала таксама дамоўленасць аб агульных дзеяннях супраць польскага супраціву. З гэтай мэтай у канцы 1939 г. у Закапаным (горад у нямецкай зоне акупацыі) быў створаны сумесны вучэбны цэнтр для падрыхтоўкі афіцэраў нямецкай і савецкай спецслужбаў (СД і НКВД) для барацьбы з польскім Супраціўленнем[177].

Зрэшты, нават без увагі на вышэйсказанае, няўжо так цяжка ўсвядоміць, што любая агрэсія, да таго ж з ярка выражанымі імперскімі амбіцыямі, не можа несці нейкае дабро як народнай масе (нацыянальнай у тым ліку), так і асобе ў прыватнасці.

Раней ужо згадвалася, што перад інкарпарацыяй зямель Польскай дзяржавы існавала задума стварэння трох «дзяржаўных» фарміраванняў у выглядзе савецкіх рэспублік: Польшчы, Заходняй Украіны ды Заходняй Беларусі[178]. У такім выпадку савецкая польская рэспубліка стварыла б падставы для эвентуальнага аб'яднання яе з астатнімі польскімі тэрыторыямі, што траплялі пад германскую акупацыю. Задума падобная да меркавання аднаго з дзеячаў III Райха Арно Шыкеданца, які займаўся германскімі планамі на ўсходзе. Ён не выключаў, «што ў выпадку нямецка-

[175] Гэты дакумент і цэлы шэраг іншых, якія сведчаць пра ледзь ні братэрскае саюзніцтва III Рыма і III Райха, сёння з'яўляюцца шырока даступнымі праз рэсурсы сусветнай электроннай сеткі: [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://around.spb.ru/variety/docs/diplomat/wwar.php. Дата доступу: 13.01.2012 .

[176] Коваль В. С. Довкола радянсько-польської війни 1939 року // Історичні зошити, 1991, № 1. С. 32, 37; Sobczak K. Polska wojna wrześniowa na dwoch frontach 1.09 – 17.09 – 6.10.1939. Warszawa: Wydawnictwo Comandor, 2005. S. 141–142; Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 103–104.

[177] Кузняцоў І. Палітыка і лёс людзей // Полымя, 1995, №9. С. 207; Лебедева Н. С. Польша между Германией и СССР в 1939 году // Война и политика, 1939–1941. М.: Наука, 1999. С. 75–78.

[178] Падрабязней гл.: Стжембош Т. Введение // «Zachodnia Białoruś». 17.IX.1939–22.VI.1941. Т. 1. Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939. Warszawa, 1998. S. 38–39.

польскага канфлікту Саветы пад выглядам узброенай дапамогі Польшчы зоймуць» заходнебеларускія і заходнеўкраінскія абшары, у выніку чаго «Германія страціла б, напэўна, найбольш абяцальныя перспектывы расчлянення Расіі, тады як адцягнуўшы ўвагу Саветаў на пэўны час ад сумежных дзяржаў, Германія атрымала б немалую карысць... Землі з беларускім і заходнеўкраінскім насельніцтвам мелі б неацэннае значэнне як асяродкі і базы для глыбокага расколу Расіі»[179]. Як бачым, Крэмль змяніў толькі матыў сваіх дзеянняў, але не сутнасць. Праз прызму працытаванага меркавання відавочна, што падзел міжваеннай Польскай Рэспублікі, які адбыўся, быў выгадны не столькі Германіі, колькі СССР[180]. Савецкі Саюз атрымаў стратэгічную ініцыятыву. Германія мусіла весці вайну супраць Англіі і Францыі, бо эвентуальнасць заключэння міру ўпіралася б у праблему, з якой вайна распачалася, гэта значыць у так званую справу польскую, што нельга было б вырашыць без удзелу Масквы. Як выказаўся І. Сталін, Гітлер, сам таго не разумеючы і не жадаючы, падрывае капіталістычную сістэму, мы ж можам манеўраваць, падштурхоўваючы адзін бок супраць другога, абы мацней пабіліся[181].

Крэмль выбраў іншы варыянт развіцця падзей, прапанаваўшы Райхстагу перагледзець дэмаркацыйную лінію, якая спярша даходзіла да самай Варшавы, каб, па словах Сталіна, не мець праблем з польскай аўтаноміяй[182]. СССР прадставіў свае ваенныя дзеянні як дапамогу і вызваленне

179 Паводле: Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй / Пер. з польскай В. Ждановіча. Каментарыі А. М. Літвіна. Мінск: Беларусь, 1993. С. 27–28.

180 Перадусім у інтарэсах апошняга і заключаўся германа-савецкі пакт: у іншым выпадку Савецкі Саюз мог застацца адзін супраць скансалідаванага капіталістычнага свету, пра што, па ўсёй верагоднасці, казаў і сам Сталін (Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 104–105).

181 Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 113, 129.

182 Падрабязней гл.: Документы внешней политики. 1939. Т. XXII: В 2 кн. Кн. 2: Сентябрь–декабрь. Масква, 1992. С. 605–606.

кроўных братоў у Заходніх Беларусі і Украіне, што, паводле ленінскай тэорыі, фармальна апраўдвала гэтыя дзеянні, бо яны нібыта не траплялі пад паняцце анексіі[183], але што не перашкодзіла СССР захапіць 51,4 % тэрыторыі Польскай Рэспублікі. Дарэчы, звернем увагу на выказванне Сталіна 17 красавіка 1940 г. з выступлення на нарадзе начальніцкага складу па абагульненні досведу баявых дзеянняў супраць Фінляндыі: «*Война в Польше* (курсіў наш. — *А. Т.*) это была военная прогулка»[184]. А таксама на яшчэ адно: «*Мы с Германией* (курсіў наш. – *А. Т.*) разделили Польшу... (Ці трэба нейкія большыя прызнанні ў канстатацыі status belli?! — *А. Т.*) Если есть лица виноватые, то мы тоже виноваты — не предвидели мы этого»[185]. І пасля гэтых слоў — фактычнага прызнання самога Сталіна — ці ж можна сцвярджаць, што «нельга таксама ставіць знак роўнасці паміж СССР і Германіяй як агрэсарамі»[186]? Для Крамля ж насам-

---

[183] У гэтай сувязі дазволім сабе шырокае цытаванне У. Леніна: «Аннексией нельзя назвать всякое присоединение «чужой» территории, ибо социалисты, вообще говоря, сочувствуют устранению границ между нациями, сближению и слиянию наций, образованию более крупных государств. Ясно, что аннексией нельзя считать всякое нарушение status quo: это было бы величайшей реакционностью и насмешкой над основными понятиями исторической науки. Ясно, что аннексией нельзя считать всякое насильственное, военное, присоединение, ибо против насилия, если оно применяется в интересах массы населения и в интересах прогресса человечества, социалисты возражать не могут. Ясно, что аннексией можно и должно считать лишь присоединение территории *вопреки воли* ее населения. Другими словами, понятие аннексии неразрывно связано с понятием *самоопределения наций*» (Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 27. М.: Государственное издательство политической литературы, 1973. С. 462–463).

[184] [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://stalin1.boom.ru/14-18.htm. Дата доступу: 13.01.2012. У Берлін з савецкага боку ў першай палове верасня паступіла паведамленне пра магчымасць непачынання «новай вайны» (NB на абодва словы), эвентуальнасць чаго залежыла ад нямецкага боку (Ладысеў У. Аб’яднанне беларускай нацыі (да 65-годдзя ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР) // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 9. С. 6). Што яшчэ раз даказвае ўнутрыкрамлёўскую ацэнку падзей вакол Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны ў верасні 1939 г. як вайны.

[185] Паводле: Сальков А. П. Проблема принадлежности Западной Белоруссии и Западной Украины в советско-англо-франко-американских отношениях (сентября 1939 – июнь 1941 гг.) // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы міжнароднага навуковага семінара 1 верасня 2003 года, Мінск. Адк. рэд. В. Ф. Балакіраў, К. І. Козак. Мінск: НАРБ, 2004. С. 21.

[186] Ладысеў У. Ф. Ваенна-палітычны фактар у вырашэнні праблемы адзінства беларускай нацыі ў пачатковы перыяд ІІ сусветнай вайны (метадалагічны аспект) // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы

рэч тыя падзеі братэрскім вызваленнем і аб’яднаннем падзеленай Беларусі (і Украіны) зусім не з’яўляліся. Як справядліва і трапна заўважае А. П. Салькоў, «воссоединение белорусского и украинского этносов в рамках национальных государств» з’явілася «побочным, хотя и необыкновенно важным результатом реализации советских геополитических целей»[187]. Пра такія адносіны савецкага кіраўніцтва да аб’яднання Беларусі сведчыць далучэнне Заходняй Беларусі з вялікімі зменамі адносна яе першапачатковага тэрытарыяльнага абазначэння[188], а таксама іншыя факты:

1) Савецкі Саюз захапіў тэрыторыі, якія ніколі не лічыліся Заходняй Беларуссю (Ломжыншчына) і дзе не дзейнічала КПЗБ (першапачаткова планавалася ўвогуле заняць землі амаль да Варшавы!). (У той жа час беларуска-ўкраінскі тэрытарыяльны падзел па Заходнім Палессі быў праведзены адпаведна з зонамі дзеяння КПЗБ і КПЗУ[189].) Самі бальшавікі пасля Рыжскага дагавора вызначалі этнаграфічную тэрыторыю Беларусі, якая апынулася пад Польшчай, у 98 815 км² з 3,2 млн насельніцтва[190]; беларусы Заходняй Беларусі ацэньвалі яе абшар у 107 000 км²[191]; цікава, што савецкая акадэмічная навука кіравалася ўжо пасляваенным станам і дэкларавала тэрыторыю Заходняй Беларусі ў 82 тысячы км², аднак побач жа ўключала ў яе склад усе

---

міжнароднага навуковага семінара 1 верасня 2003 года, Мінск. Адк. рэд. В. Ф. Балакіраў, К. І. Козак. Мінск: НАРБ, 2004. С. 11.

187 Сальков А. П. Проблема принадлежности Западной Белоруссии и Западной Украины в советско-англо-франко-американских отношениях (сентября 1939 – июнь 1941 гг.) // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы міжнароднага навуковага семінара 1 верасня 2003 года, Мінск. Адк. рэд. В. Ф. Балакіраў, К. І. Козак. Мінск: НАРБ, 2004. С. 19.

188 Гл., напрыклад: Стжембош Т. Введение // «Zachodnia Białoruś». 17.IX.1939–22.VI.1941. T. 1. Wydarzenia i losy ludzkie. Rok 1939. Warszawa, 1998. S. 38–39.

189 Śleszyński W. Bezpieczeństwo wewnetrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach pyłnocno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Warszawa: Oficyna Wydawnicza Rytm, 2007. S. 288.

190 Ладысеў У. Ф. Рыжскі дагавор 1921 года і палітыка кіраўніцтва Савецкай Расіі экспарту рэвалюцыі // Biuletyn Historii Pogranicza, 2001, № 2. С. 38.

191 Хваля М. Заходняя Беларусь. Яе абшар, люднасць і натуральныя багацці // Наш палетак, 1932, № 1. С. 12

чатыры ваяводствы «крэсаў паўночна-ўсходніх», якія займалі нашмат большую плошчу[192]; сённяшняя акадэмічная навука Беларусі ў склад Заходняй Беларусі не ўключае тэрыторыю на захад ад Беластока (так званы Ломжынскі рэгіён) і раён Каменя-Кашырскага[193]. Нейкай трывалай канстанты стасоўна геаграфіі гэтай геапалітычнай назвы не было і дасюль няма. Пазіцыя, выкладзеная У. Міхнюком падаецца найбольш абгрунтаванай і аб’ектыўнай, аднак мае істотны недахоп: з поля зроку аўтара выпадае пазіцыя дзеячаў БНР адносна Рыжскага дагавора[194]. Зрэшты ў любым выпадку Ломжыншчына не трапляе пад панятак Заходняй Беларусі;

2) да чарговага падпісання савецка-германскага дагавора, на гэты раз аб дружбе, не было нават канкрэтных планаў адносна долі Заходняй Беларусі і іншых зямель тагачаснай Польскай Рэспублікі, якія апынуліся занятымі вермахтам і Чырвонай Арміяй;

3) пры правядзенні і ўдакладненні дэмаркацыйнай савецка-германскай мяжы тэрыторыя, уключаная ў БССР, разглядалася па-ранейшаму як разменная ў кантэксце палітыкі еўрапейскага маштабу — пасол у Маскве Шуленбург прызнаваўся: «Господин Сталин лично говорил мне в то время, что он готов сделать уступки на севере пограничной линии, там, где она проходит через Белоруссию»[195];

---

192 Хаўратовіч І. П. Заходняя Беларусь // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 4. Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя, 1971. С. 533–535; Хаўратовіч І. П. Уз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 10. Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя, 1974. С. 438–439; Хаўратовіч І. П. Заходняя Беларусь // Беларуская савецкая энцыклапедыя. Т. 12. Мінск: Беларуская савецкая энцыклапедыя, 1975. С. 151–157.

193 Хаўратовіч І. Заходняя Беларусь // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. Мінск: БелЭН, 1996. С. 421. NB, сярод аўтараў «знакомые все лица».

194 Міхнюк У. Заходняя Беларусь: граніцы, тэрыторыя і насельніцтва (гістарыяграфічныя нататкі) // Беларускі гістарычны часопіс, 2004, № 11. С. 14–21. Гл. таксама аналітыку праблемы польскага гісторыка Яна Ежы Мілеўскага: Мілеўскі Я. Е. Заходняя Беларусь: да пытання тэрыторыі і насельніцтва // Беларускі гістарычны часопіс, 1998, №3. С. 40–42.

195 СССР—ГЕРМАНИЯ. 1939–1941. Документы и материалы о советско-германских отношениях с апреля 1939 г. по июль 1941 г. [Электронны рэсурс]. Рэжым

4) Віленшчына, заходнебеларускасць якой у гульнях з беларусамі з 1923 па 1939 гг. не ставілася Масквою пад сумнеў, была ў якасці траянскага каня прэзентаваная Літве[196]

---

доступу: http://around.spb.ru/variety/docs/diplomat/union.php. Дата доступу: 13.01.2012.

[196] З прыходам бальшавікоў у Вільню 19 верасня 1939 г. у горадзе распачаліся дакладна тыя ж працэсы, звязаныя са зменай улады, што і па ўсёй занятай тады імі заходнебеларускай тэрыторыі. За час прабывання ў Вільні (да 27 ці 28 кастрычніка 1939 г.) новая ўлада «зактуалізавала тут па-свойму беларускае жыццё», напрыклад, сталі выдавацца дзве беларускія газеты – «Віленская праўда» і «Свабодная Беларусь» (A. K. Z naviejšaj minuŭščyny // Krynica, 1939, 17 listapada. S. 2–3), пра што, дарэчы, з аднаўленнем сваёй улады на гэтых землях у 1940 і 1944 гг. Саветы «забылі». «Віленская праўда», як і цэнтральныя газеты Беларусі, была напоўнена прапагандысцкімі тэкстамі пра гістарычныя правы беларускага народа на Вільню і Віленшчыну (гл., напрыклад: Грозаў Н. Вільна сёння // Звязда, 1939, 5 кастрычніка. С. 2; [б. а.] 75-тысячны мітынг у г. Вільна // Звязда, 1939, 8 кастрычніка. С. 2; Iwanow M. Sprawa przynależności Wilna i problemy narodowościowe na Białorusi // Społeczeństwo białoruskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939–1941. Warszawa, 1995. S. 87; Снайдэр Т. Спрэчкі за літоўска-беларускую Айчыну // Дзеяслоў, 2004, № 6. С. 202). У ёй гучалі эйфарычныя прасавецкія інтанацыі, цалкам тоесныя іншым газетам, створаным савецкай уладай на далучаных землях («Будзем жыць у брацкай сям'і народаў СССР» – назва артыкула на першай старонцы першага нумара газеты; гл. фота ў: Чарняева А. І. «Віленская праўда» // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 2. – Мінск: БелЭН, 1994. С. 284). Паводле старонак таго выдання, віленчукі збіраліся «разам з усімі людзьмі працы на Беларусі, пад сонцам Сталінскай Канстытуцыі будаваць новае шчаслівае жыццё» (цыт. паводле: Žepkajte R. Okupacja Wilna przez Armię Czerwona (19 września – 27 października 1939) // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939 – 1941. Warszawa, 1995. S. 304). Адна з цэнтральных савецкіх газет «Известия» яшчэ нават 10 кастрычніка 1939 г. надрукавала прапагандысцкі фотаздымак прасавецкага мітынгу ў Вільні, а ўжо ў наступным нумары за 11 кастрычніка паведамлялася пра перадачу горада Літве. Хаця яшчэ 19 верасня на пытанне літоўскага пасла пра перадачу Літве Вільні В. Молатаў адказаў, што не бачыць перашкод, а кропкай адліку саміх непасрэдных перамоў на гэты конт можна лічыць 29 верасня (г. зн. дакладна на наступны дзень пасля заключэння 28 верасня 1939 г. паміж СССР і Германіяй чарговага дагавора аб дружбе і мяжы, які прадугледжваў новую лінію размежавання на польскай тэрыторыі і сферы ўплыву адносна літоўскай пакуль тады яшчэ суверэннай дзяржавы: Документы внешней политики. 1939. Т. XXII: В 2 кн. Кн. 2: Сентябрь–декабрь. Масква, 1992. С. 135–136. Ні кіраўніцтва БССР, ні тым больш часовыя органы ўлады на новазанятых беларускіх тэрыторыях не падазравалі, які сцэнар для Вільні і Віленшчыны рыхтавала Масква. Больш таго, на агульным з'ездзе беларускай грамадскасці, якія адбыўся 24 верасня ў беларускай гімназіі з удзелам высокіх прадстаўнікоў савецкіх часовых органаў улады, адзін з іх – камандарм Іван Клімаў – нават выразіў перакананне, што Вільня застанецца належаць Беларусі, а яшчэ ў адной размове паведаміў, што ён атрымаў адпаведныя паўнамоцтвы на абвяшчэнне Вільні сталіцай Заходняй Беларусі. У канцы верасня 1939 г. з'явілася інфармацыя пра перанос сталіцы Беларусі з Мінска ў Вільню, і яна не была беспадстаўнай, бо кіраўніцтва БССР само было перакананае ў тым, што гэты горад будзе ў складзе Беларусі (Iwanow M. Sprawa przynależności Wilna i problemy narodowościowe na Białorusi // Społeczeństwo

(дарэчы, у стасунках СССР з Літвою двухаблічны Крэмль тым часам прызнаваў савецка-літоўскую мяжу, устаноўленую мірным дагаворам паміж Расіяй і Літвой у 1920 г., паводле чаго паўночна-заходняя частка Беларусі разам з гарадамі Вільня, Горадня, Ліда, Браслаў, Паставы і інш. адносіліся да Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі[197], гэта значыць, каб бальшавікі былі тут цалкам паслядоўнымі, яны павінны былі б аддаць нашмат большую частку Беларусі, адабранай у Польскай Рэспублікі; да таго ж паводле Рыжскага дагавора, пытанне пра прыналежнасць спрэчных паміж Польшчай і Літвой тэрыторый падлягала вырашэнню выключна паміж гэтымі дзвюма дзяржавамі[198], г. зн. Масква не мела да таго пытання ніякага дачынення);

5) Л. Кагановіч, не тоячы намераў СССР, казаў, што адной з першачарговых задач Крамля было «прибрать к рукам» дзяржавы, аднесеныя паводле пакта з Германіяй да сферы інтарэсаў Савецкага Саюза[199] (успомнім і вышэй прыведзеныя словы Сталіна пра распаўсюджванне сацыялістычнай сістэмы на новыя тэрыторыі і насельніцтва). Тым больш, што калі б савецкі бок сапраўды кіраваўся тым, што Рыжскі мірны дагавор несправядлівы, дык аўтаматычна рэанімаваў бы лінію Керзана — этнаграфічную польска-беларускую мяжу, устаноўленую незадоўга да Рыгі міжнароднай палітычнай супольнасцю, што ў такім выпадку з’яўлялася б вельмі карэктным (тое, што да лініі Керзана ўсё ж вярнуліся пры вырашэнні пасляваенных межаў ва Усходняй Еўропе, у пэўнай меры пацвярджае нашу дум-

białoruskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej w latach 1939–1941. Warszawa, 1995. S. 88–89).

197 Грыцкевіч А. Гісторыя геапалітыкі Беларусі // Спадчына, 1994, № 4. С. 56; Мирный договор между Россией и Литвой. 12 июля 1920 г. // Спадчына, 1993, № 5. С. 48–55.

198 Мирный договор между Россией и Украиной, с одной стороны, и Польшей – с другой // Спадчына, 1993, № 4. С. 15.

199 Случ С. З. Советско-германские отношения в сентябре–декабре 1939 года и вопрос о вступлении СССР во Вторую мировую войну // Отечественная история, 2000, № 5. С. 46–58; № 6. С. 10–27), аўтар спасылаецца на: Стенограмма выступления наркома путей сообщения Л.М. Кагановича на заседании коллегии НКПС 27 ноября 1939 г. // Российский государственный архив социально-политической истории, ф. 81, оп. 3, д. 333, л. 136.

ку[200]). Аднак на першым месцы тут знаходзілася ленінска-сталінская дактрына распаўсюджвання рэвалюцыі. Бальшавіцкая Расія разам з фашысцкай Германіяй у 1939 г. зрабіла тое самае, што здзейсніла яна ў 1921 г. у «дыялектычным» (адзінства і барацьба супрацьлегласцей) хаўрусе з адроджанай польскай дзяржавай, а менавіта — падзяліла землі суседа[201] (тым больш, што незадоўга да «чацвёртага[202] падзелу Рэчы Паспалітай» яе кіруючыя колы самі стварылі падобны прэцэдэнт, пайшоўшы фактычна (у юры-

[200] Чаму ў пэўнай меры? Ды рэч у тым, што і ў канцы, і пасля вайны крамлёўскія палітыкі адстойвалі не столькі «гістарычную справядлівасць», колькі прыналежнасць да СССР эканамічна каштоўнай Галічыны: «Документи свідчать, що коли йшлося про конкретні території, то суперечки ніколи не торкалися Волині чи Західної Білорусії» (Коваль В. С. Довкола радянсько-польської війни 1939 року // Історичні зошити, 1991, № 1. С. 58).

[201] Цікава, што такое параўнанне намі знойдзена і ў падстававым падручніку па гісторыі Беларусі для студэнтаў гістарычных факультэтаў беларускіх ВНУ (Гісторыя Беларусі. У 2 ч. Ч. 2. XIX–XX стагоддзя: Курс лекцый / П. І. Брыгадзін, У. Ф. Ладысеў, П. І. Зялінскі і інш. – Мінск: РІВШ БДУ, 2002. С. 439). А вось убачыць сярод аўтараў адпаведнага раздзела У. Ладысева, «барацьбіта за гістарычную справядлівасць», было даволі нечакана.

[202] Дарэчы, генезіс тэрміна «чацвёрты падзел» адносна вераснёўскіх падзей 1939 г. нельга прыпісваць цалкам польскаму палітычнаму ды гістарычнаму дыскурсу. Яшчэ да таго, як на даляглядзе тыя падзеі з'явіліся, кіраўніцтва СССР загаварыла пра эвентуальнасць «практики XVIII ст.: произвести вместе (з Германіяй. – А. Т.) четвертый раздел» (Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 105–106). Стасоўна падзей верасня 1939 г. ідыёма «чацвёрты падзел Польшчы» бескрытычна ўсталявалася ў польскай гістарыяграфіі. Яна мае на ўвазе тры падзелы Рэчы Паспалітай у 1772, 1793 і 1795 гг. Аднак NB: нельга атаясамляць Рэч Паспалітую і Польшчу (як цэлае і яго частку), хоць адроджаная польская дзяржава і прысвоіла тую назву, пад якой існавалі Каралеўства Польскае і ВКЛ. Пры падзелах канца XVIII ст. дзялілася не толькі этнічна польская тэрыторыя, а і ВКЛ – землі яўна не польскія. А. Латышонак адзначае, што ў кантэксце падзей тагачасся маніпуляцыя тэрыторыяй Беларусі была апрабаваная польскімі элітамі ў якасці абарончай практыкі (Паводле: Булгакаў В. Злыя дэманы беларускай гісторыі // ARCHE-Пачатак, 2007, № 9. С. 143). Калі гэта так, то Польшча тады выступала не толькі як аб'ект падзелаў, але і як суб'ект. Прычым этнічна беларускія землі (як яны праявіліся ў будучыні) адыходзілі Расіі, як і ў верасні 1939 г. Акрамя гэтага, беларускія землі дзяліліся паміж рознымі бакамі ў перыяд 1915–1921 гг., а таксама падчас заканчэння Другой сусветнай вайны. Канечне, ва ўсіх выпадках галоўную ролю грала Расія. Але і польскія дзяржаўныя дзеячы спрабавалі вырашыць свае праблемы за кошт Беларусі, як у канцы XVIII, так і ў XX ст. Такім чынам, па колькасці падзелаў беларускія землі пераўзыходзяць польскія. Яны не толькі дзяліліся тады, калі дзяліліся польскія, але яшчэ і ў асобных выпадках. Прычым у большасці падзелаў Беларусі XX ст. бралі ўдзел і палякі, як і ў XVIII ст. А вось беларусы, як суб'ект міжнароднага права, у нечым падобным не былі заўважаныя.

дычным сэнсе гэта нідзе не замацавана) на хаўрусніцтва з той жа нацысцкай Германіяй стасоўна лёсу Чэхаславакіі[203]). Аднак калі ў 1921 г. заключаўся *мірны* дагавор, дык у 1939 г. распачыналася Другая сусветная вайна. Скажыце, што лепш для людзей, мір ці вайна? На Беларусі дагэтуль існуе падставовы крытэрый жыцця — «абы вайны не было»[204];

6) сёння ўжо вядома, што на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны меркавалася стварыць польскую адміністрацыйную адзінку, да якой эвентуальна маглі б быць далучаны захопленыя Германіяй землі Польскай Рэспублікі (з гэтай мэтай нават пачалася падрыхтоўка да стварэння польскіх «чырвоных легіёнаў»)[205], — такім чынам, ізноў Беларусь разглядалася як аб'ект палітычных маніпуляцый, як сродак чарговай савецкай стратэгічнай кампаніі.

Разам з тым, аб'яднанне Беларусі, хоць і з'яўлялася, можна сказаць, ускосным ці другасным вынікам у кантэксце між-

---

[203] У сувязі з гэтым нельга не пагадзіцца з абурэннямі атамана Палескай Сечы (Украінская Паўстанцкая Армія) генерала-харужага Тараса Бульбы-Бараўца: маўляў, палякі, пачынаючы з Рыгі 1920 г., так доўга гандлявалі чужымі землямі то з Масквою, то з Берлінам, пакуль сама Польшча не зрабілася нямецкай і маскоўскай калоніяй (Бульба-Боровець Т. Армія без держави. Слава і трагедія українського повстанського руху. Спогади. Вінніпег – Канада, 1981. С. 66).

У пару сацыяльна-палітычнай лібералізацыі польская гістарычная навука праявіла тэндэнцыю не толькі да вытлумачэння логікі падзелу Чэхаславакіі паміж Германіяй, Польшчай і Венгрыяй, але і да канструявання вобразу міжваеннай Польскай Рэспублікі як ахвяры таго акту на той падставе, што яго кантэкст прывёў неўзабаве да агрэсіі супраць самой Польшчы (гл., напрыклад: Sobczak K. Polska wobec Monachium // W 50 rocznicę konferencji monachijskiej – niedocenionego ostrzeżenia dla narodów świata. Mareriały z sesji naukowej. Bęsia 21–22 września 1988. Studia i Materiały Nr 19. Historia. Olsztyn, 1990. S. 11–20).

[204] На пачатку германа-савецкай вайны на запытанне немцаў, якое ўлады хацелі б беларускія сяляне, адзін дзед шчыра адказаў, што такой, якая дала б «спакой нашаму сялу» (паведамленне П. Панамарэнкі Сталіну): Чайковский А. С. Невідома війна: (Партиз. рух в Україні 1941–1944 рр. мовою документів, очима історика). К.: Україна, 1994. С. 58. Звярнем увагу на адсутнасць (прычым тыповую для беларускае вёскі) нейкай дзяржаўніцкай арыентацыі ў селяніна пры патрыятычнасці адносна сваёй малой радзімы. (Гл. на гэты конт таксама, напрыклад: Радзік Р. Прычыны слабасьці нацыятворчага працэсу беларусаў у XIX–XX ст. // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 2. Сш. 2. Менск, 1995. С. 197.)

[205] Міranовіч Я. Найноўшая гісторыя Беларусі. Санкт-Пецярбург: «Неўскі прасцяг», 2003. С. 115; Dębski S. Między Berlinem a Moskwą. Stosunki niemiecko-sowieckie 1939–1941. Warszawa: Polski Instytut Spraw Międzynarodowych, 2007. S. 600.

народных падзей, усё ж было імі дэтэрмінавана. Як ужо было згадана вышэй, кансалідацыя беларускага народа, нацыянальная ідэя эвалюцыянавала насуперак, а часам нават дзякуючы падзелу краіны. Але гэтая кансалідацыя была абумоўлена не столькі высілкамі саміх беларусаў, колькі знешнепалітычнай імперскай сілай. Таму злучэнне дзвюх частак аднаго народа не ёсць плёнам іманентнай нацыянальнай эвалюцыі (хоць і гэты фактар тут адыграў сваю ролю, падрыхтаваўшы адпаведную глебу, па-марксістку кажучы, базіс), а абумоўленае логікай працэсу гісторыі. Вынікі Першай сусветнай вайны (версальска-вашынгтонская сістэма), былі відавочна няўстойлівымі, і многія дзяржавы (у першую чаргу Германія ды СССР) імкнуліся да перабудовы свету паводле сваіх геапалітычных меркаванняў. Аднак імі не былі адэкватна засвоены ўрокі 1914–1918 гг., галоўны з якіх засведчыў, што сусветная вайна бурыць імперыі, а не мацуе[206]. Таму дзяржаватворчы працэс Беларусі, перапынены ў міжваенны перыяд, заканамерна меў працяг падчас чарговай глабальнай вайны (трэба заўважыць, што акрамя нацыянальнай кансалідацыі Беларуская Рэспубліка стала адной з заснавальніц ААН), а вынікам «халоднага» капіталістычна-сацыялістычнага супрацьстаяння, названага трэцяй сусветнай вайной, з'явілася ўтварэнне суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Ergo: для Беларусі аб'яднанне 1939 г. з'яўляецца цалкам адэкватным дыялектыцы гісторыі. Таму можна адказаць на запытальныя словы Ю. Туронка — «ці ў выніку ўсіх міжваенных і пасьляваенных выпрабаваньняў існавала б сёньня беларуская нацыя, калі б не адбылося яе ўзьяднаньне, калі б Заходняя Беларусь працягвала заставацца ў межах Польшчы?»[207] — наступнае: згодна з дыялектыкай гісторыі, Беларусь павінна была аб'яднацца, а вось акалічнасці гэ-

[206] Наджафов Д. Г. Советско-германский пакт 1939 года: переосмысление подходов к его оценке [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.rus-lib.ru/book/35/36/36-4/154-165.html#_ftn1. Дата доступу: 13.01.2012.

[207] Туронак Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006. С. 816.

тага аб'яднання склаліся такія, што з гэтага самі беларусы пацярпелі больш, чым які іншы народ Еўропы ў Другой сусветнай вайне. І яшчэ: аб'яднанне адбылося, бо адбылося раз'яднанне ў 1921 г. Гісторыя толькі ўстанавіла status quo сваіх законаў. І ў абодвух выпадках (і ў 1921, і ў 1939 гг.) да падзей наўпрост спрычыніўся савецка-расійскі імперыялізм, спярша ў хаўрусе з тагачаснай Польскай Рэспублікай, затым — з ІІІ Райхам.

Дарэчна таксама будзе згадаць, што 17 верасня 1939 г. з'яўляецца толькі датай вызвалення, паводле савецкай тэрміналогіі, але ні ў якім разе не аб'яднання, бо кіраўніцтва Савецкага Саюза на той час само яшчэ не ведала, ці будуць «крэсы паўночна-ўсходнія» ў адной рэспубліцы. De iure паварот да варыянта, праз які  Беларусь урэшце аб'ядналася, пачаўся 28 верасня 1939 г., калі паміж СССР і Германіяй быў падпісаны чарговы дагавор аб дружбе і мяжы, які прадугледжваў новую лінію размежавання на польскай тэрыторыі і сферы ўплыву адносна літоўскай, пакуль тады яшчэ суверэннай, дзяржавы[208]. 29 кастрычніка Народны сход Заходняй Беларусі прыняў дэкларацыю аб далучэнні яе да БССР. 2 лістапада 1939 г. Крэмль афіцыйна задаволіў тую «просьбу», што толькі потым (!), 14 лістапада, прадубліраваў Вярхоўны Савет БССР. Нелігітымнасць, недэмакратычнасць таго сходу, пра што сведчаць многія сёння лёгка даступныя матэрыялы[209], як і потым выбары

[208] Документы внешней политики. 1939. Т. XXII: В 2 кн. Кн. 2: Сентябрь-декабрь. Москва, 1992. С. 135–136.

[209] Гл. хаця б: Хоміч С. Беларускія скарбы Гувера // Спадчына, 2003, № 4–5. С. 69. Больш таго, месцамі было заўважана, што тэхналогія выбараў дазваляла вылічыць тых, хто не галасаваў за адзінага ў бюлетэні кандыдата: Польское подполье на территории западных областей Беларуси (1939–1954): Монография / С. А. Ситкевич, С. А. Сильванович, В. В. Барабаш, Н. А. Рыбак. Гродно: ГГАУ, 2004. С. 137–138. Гэта значыць, новая ўлада, акрамя пастаноўкі спектакля па юрыдычным афармленні далучэння зямель, паралельна выяўляла іх антысавецкі патэнцыял. Да таго ж савецкія «выбары» на Заходняй Беларусі, як сведчаць адрасаваныя ўладам пытанні бескампраміснай моладзі, адбываліся пад пагрозай савецкай зброі (Gnatowski M. Niepokorna Białostocczyzna. Opór społeczny i polskie podziemnie niepodległościowe w regionie białostockim w latach 1939–1941 w radzieckich żrodłach. Białystok. 2001. S. 80). Пра ролю Чырвонай Арміі ў ходзе выбараў на Заходняй Беларусі ў навуковы

ў саветы розных узроўняў, выклікаюць сумненні сёння хіба адно ў тых беларускіх гісторыкаў, што засталіся ў палоне савецкіх ідэалагічных установак. Дзіўна слухаць такіх навукоўцаў, якія з аднаго боку сцвярджаюць пра мала ні 100-адсоткавую актыўнасць электарату, а з іншага (жадаючы паказаць катастрафічна нізкі ўзровень адукацыі «заходнікаў») – кажуць (у дадзеным выпадку цалкам слушна), што непісьменнасць пры панскай Польшчы даходзіла да 70 % (прынамсі на Палессі). Якім жа чынам, хочацца запытаць у тых даследчыкаў, змаглі прайсці працэдуру выбараў людзі, што й чытаць не ўмеюць? Адказ навідавоку: іх рукою ўпэўнена вадзіла ўлада.

У свой час У. Ленін таму і задумваў палітыку ліквідацыі непісьменнасці[210], бо разумеў, што іначай масы не ахапіць бальшавіцкім уплывам і тым больш не дабіцца татальнай падтрымкі. Але ён жа і папярэджваў, што «скачками здесь завоевать можно меньше всего, особенно среди масс, стоящих на низком культурном уровне»[211], «мы ни в коем случае не должны спешно нести коммунистические идеи напрямую в деревню», «поспешность и размашистость наиболее вредны»[212]. Такім чынам, нават логіка савецка-

---

зварот ужо ўведзены матэрыялы, якія адлюстроўваюць, як тысячы чырвонаармейцаў дыктавалі саветызуемаму народу «яго» ж волю (Grzelak Cz. Rola Armii Czerwonej w wyborach na zajętym teritorium Polski północno-wschodniej w 1939 roku // Polska i jej wschodni sąsiedzi w XX wieku. Studia i materiały ofiarowane prof. dr. hab. Michałowi Gnatowskiemu w 70-lecie urodzin / redakcja naukowa: Hanna Konopka, Daniel Boćkowski. Białystok: Wydawnictwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2004. S. 247–261). А ў снежні 1940 г. на выбарах дэпутатаў у мясцовыя Саветы ўлады не толькі навязвалі сваіх дэпутатаў, але пры гэтым адхілялі вылучаных ад народа. У Столінскім раёне такіх апынулася ажно 76 (Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Столінскага р-на. Мінск: БЕЛТА, 2003. С. 181). Са старых часоў на выбарчых участках захаваўся надпіс: «Пакіньце адно прозвішча, а астатнія выкрасліце». «Гэта здзіўляла, бянтэжыла, абурала выбаршчыкаў» (Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Іванаўскага р-на. Мінск: БЕЛТА, 2000. С. 152).

[210] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 44. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 170–174.

[211] Ленин В. И. Полное собрание сочинений. Т. 37. М.: Государственное издательство политической литературы, 1974. С. 464.

[212] Паводле: Жыжак С. Лавіце момант: ленінская спадчына // «ARCHE Пачатак», 2004, № 4. С. 94.

га правадыра абвяргае магчымасць створаных на паперы паказчыкаў падтрымкі савецкай улады на выбарах у Заходняй Беларусі. Відавочнасць гэтага пачынаюць ужо прызнаваць і некаторыя афіцыёзныя гісторыкі Беларусі. Адзначаецца, напрыклад, што каля 400 тысяч чалавек выказаліся супраць дэпутатаў або не прынялі ўдзел у галасаванні ў Народны сход[213]. Але само па сабе выказванне супраць або няўдзел у галасаванні не становіцца сведчаннем адсутнасці дэмакратыі. Можа варта, сказаўшы «А», мовіць і «Б» — прызнаць адсутнасць дэмакратыі на тых савецкіх выбарах?

Карацей кажучы, фармальна аб’яднанне Беларусі адбылося лічы праз два месяцы пасля «вызвалення», post actum. А фактычна sic! яшчэ пазней, можна сказаць, толькі пасля вайны, бо праз старую мяжу не зрабілі вольнага перамяшчэння. «На старой границе имелись свои погранотряды. Это была большая сила»[214]. Атрымліваецца, што паспаліты люд займеў большую магчымасць перасякаць былую савецка-польскую мяжу адно пры германскай акупацыі, да якой захоўваўся даваенны стан з жорсткім кантролем той мяжы. Летам 1941 г., ужо пасля нападу Германіі на СССР, мясцовае насельніцтва, якое рушыла на ўцёкі, не прапускалася савецкімі памежнікамі! Нельга стрымацца, каб не працытаваць у гэтай сувязі дзённік аднаго габрэя, які, відаць, разумеючы эвентуальнасць развіцця падзей стасоўна сваёй долі, пісаў: «Как велико было горе тех, кто все же достиг советской границы! Тут по всей линии границы стояли пограничные войска НКВД и угрожали застрелить каждого, кто намеревался пересечь границу. Пропускали только тех, кто имел специальный пропуск или билет коммунистической партии. А так как пропусков нигде нельзя было получить — в воскресенье все учрежденья были закрыты, а в понедельник всюду уже была суматоха, — то

[213] Каваленя А. А. Моладзь заходніх абласцей Беларусі напярэдадні і ў пачатку Вялікай Айчыннай вайны // Заходні рэгіён Беларусі вачыма гісторыкаў і краязнаўцаў: зборнік навук. артыкулаў / Гродз. дзярж. ун-т; рэдкалегія: І. П. Крэнь, У. І. Навіцкі, В. А. Белазаровіч (адк. рэдактары) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2006. С. 15.

[214] Литвин А. Как это было // Неман, 1991, № 6. С. 160.

число тех, кому удалось пройти дальше на восток, было крайне незначительным. Огромная масса людей должна была вернуться обратно. Их положение было ужасно. Идти обратно означало наверняка попасть в руки немцев, захвативших уже оставшееся пространство, а идти дальше почему-то не позволяли советские пограничные войска…» І яшчэ адно сведчанне: «Пока была Советская власть, Западная Беларусь была изолирована от всего мира. Даже граница между Восточной и Западной Белоруссией была закрыта и местным жителям запрещалось пересекать ее. <…> Только после захвата Белоруссии немцы открыли границы и мы могли навестить родственников — как на востоке, так и на западе»[215]. Ад такой інфармацыі ствараецца ўражанне, што былая савецка-польская мяжа ахоўвалася нашмат больш пільна за «першымі Саветамі», чым да іх прыходу, калі яна перасякалася адносна немалой (як для мяжы паміж дзяржавамі-антаганістамі) колькасцю цікаўных паглядзець на «светлую будучыню», якая нерэдка абарочвалася для іх турмой ці нечым яшчэ горшым. (NB, ахоўвалі былую мяжу, калі верыць крыніцам, менавіта памежныя войскі. Дык хто ж нас, беларусаў, насамрэч аб’яднаў пасля Рыгі?!)

Цікава прасачыць рэакцыю насельніцтва на вераснёўскія падзеі 1939 г. Паводле ўспамінаў сучаснікаў, беларусы чакалі перамен да лепшага і чырвонаармейцаў называлі не інакш як «нашымі». Бадай, толькі польская частка насельніцтва была па азначэнні настроена варожа да савецкай улады, што праяўлялася як у актыўным супраціве (падпольная барацьба), так і ў пасіўным (так званая ўнутраная эміграцыя)[216]. Але ў хуткім часе і беларусы разгледзе-

[215] Паводле: Татаренко А. Недозволенная память: Западная Беларусь в документах и фактах: 1921–1954 / Татаренко Александр. СПб: «Архив АТ», 2006. С. 245–246, 332

[216] Гл., напрыклад: Сільвановіч С. А. Польскі рух супраціўлення ў Заходняй Беларусі (верасень 1939 – чэрвень 1941 г.) // Праблемы ўз’яднання Заходняй Беларусі з БССР: Гісторыя і сучаснасць: Матэрыялы Міжнар. навук.-тэарэт. канф., 17–18 верас. 1999. Мінск: БДУ, 2000. С. 199–206; Ермолович В. И., Жумарь С. В. Огнем и мечом: Хроника польского националистического подполья в Белоруссии (1939–1953 гг.). Мінск: БелНИЦДААД, 1994. 112 с.; Трофимчик А. В.

лі сутнасць вызваліцеляў і бальшавікі ў іх вуснах не без іроніі трансфармаваліся ў «башлыкоў»[217]. Дый пасляваеннае перасяленне беларусаў у Беларусь (ізноў перадзеленую бальшавікамі), а палякаў у Польшчу паказала сапраўдныя адносіны насельніцтва да савецкай улады. Яе ўжо не прызнавалі сваёй, хоць да 1939 г. многія і чакалі Саветаў. Пры магчымасці сяляне імкнуліся застацца па заходні бок мяжы, нягледзячы, што і там існавалі праблемы экзістэнцыйнага характару (напрыклад, нацыянальная нецярпімасць, бандытызм). І наадварот, значная частка кансерватыўных па ладзе жыцця сялян, якія лічыліся палякамі і апынуліся на тэрыторыі, што далучалася да БССР, старалася ўцячы ад калгасаў, непамерных падаткаў, хамскай улады, што неслі нэндзу, паўсядзённы неспакой ды рэпрэсіі[218].

Такім чынам, ні з прававога, ні з нейкага маральнага, а таксама гістарычнага гледзішча падзеі вакол 17 верасня 1939 г. нельга назваць справядлівымі. Акт 17 верасня — 14 ліста-

---

Антисоветские настроения в ученической среде западных областей БССР (1939–1941 гг.) // Культура, наука, образование в современном мире: материалы конференции. III Международная научная конференция, Гродно, 2007. Гродно: Издательско-полиграфический отдел УО «ГГАУ», 2007. С. 265–270; Трофимчик А. Политика по реорганизации школы и антисоветские настроения в ней на территории, присоединенной в 1939 – 1941 гг. к БССР // Białoruskie Zeszyty Historyczne. Białystok, 2007. № 27. С. 84–121; Трафімчык А. Рэарганізацыя школы і антысавецкія настроі сярод школьнікаў заходніх абласцей БССР (1939–1941 гг.) // Беларусь і беларусы ў прасторы і часе: Зборнік да 75-годдзя прафесара Адама Мальдзіса / Пад рэд. С. Запрудскага, А. Фядуты, З. Шыбекі. Мінск: Лімарыус, 2007. С. 365–371; Трафімчык А. Праявы антысаветызму ў сістэме школьнай адукацыі на Градзеншчыне ў 1939 – 1941 гг. // Гарадзенскі палімсест. XII–XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.) / Пад рэдакцыяй А.Ф.Смалянчука, Н.У.Сліж. Горадня-Беласток: ІГДБ (ЕГУ), 2008. С. 173–176. Польская гістарыяграфія гэтага пытання мае непараўнальна большыя здабыткі.

[217] Успаміны Івана Мікалаевіча Гайцюкевіча (1919–2002), жыхара в. Вялікія Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці // Зборы аўтара. Пра такую трансфармацыю не пабаяліся сказаць, праўда, дастаткова мяккім чынам, беларускія дактары гістарычных навук М. Касцюк і А. Літвін (Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 5. Беларусь у 1917–1945 гг. / А. Вабішчэвіч [і інш.]; рэдкал. М. Касцюк (гал. рэдактар) і інш. Мінск: Экаперспектыва, 2006. С. 468), хоць увогуле беларускі афіцыёз яе стараецца абмінаць або дэклараваць зусім адваротнае.

[218] Гл., напрыклад: Вялікі А. Ф. На раздарожжы. Беларусы і палякі ў час перасялення (1944–1946): Манагр. / Навук. рэд. В. Дз. Селяменеў. Мінск, БДПУ, 2005. с. 319; Mironowicz E. Przesiedlenia ludności z Białorusi do Polski i z Polski do Bałorusi w latach 1944–1946 // Białoruskie Zeszyty Historyczne, 2003, Z. 19. S. 183–195.

пада 1939 г. неабходна прызнаць фармальна аб'яднаўчым для Беларусі (калі не браць пад увагу беларускія этнаграфічныя ўскрайкі на поўначы і на ўсходзе). Таму варта скарэктаваць канатацыю дэфініцыі «аб'яднанне», што паводле савецкай інтэрпрэтацыі атрымала безапеляцыйна станоўчую афарбоўку. Па-першае, аб'яднанне было далёкім ад дэмакратычнага, яно планавалася ў звышсакрэтных варунках і вузкім колам прадстаўнікоў III Рыма і III Райха. Па-другое, яго праводзілі зусім не тыя хто аб'ядноўваўся: іх аб'ядналі, не пытаючыся, і толькі потым post factum правялі інсцэніроўку «Народнага» схода. Як і ў 1921 г. пры падзеле Беларусі, яе прадстаўнікі былі не проста праігнараваныя пры рэалізацыі нібыта аб'яднаўчага працэсу (а насамрэч каланіяльнага захопу) — яны нават не ведалі пра яго падрыхтоўку і маглі толькі меркаваць пра далейшае развіццё лёсу Заходняй Беларусі пасля 17 верасня 1939 г., бо ў Крамля было некалькі варыянтаў (многія інтэлектуалы-«заходнікі», хто б мог стацца тымі прадстаўнікамі, неўзабаве апынуліся за кратамі, а нацыянальная эліта ўсходняй часткі Беларусі практычна ўжо была элімінавана бальшавікамі). Такім чынам, акт, здзейснены кіраўніцтвам Савецкага Саюза ў 1939 г., па форме можна маркіраваць тэрмінам «аб'яднанне», аднак нельга забываць пра яго зместавую напоўненасць: інтэграцыя адбылася шляхам далучэння заходняй часткі беларускіх зямель, аншлюсам на капыл «перад- і ваколмюнхенскіх» дзеянняў фашысцкай Нямеччыны 1937–1938 гг. Думаецца, што менавіта выкарыстанне ў дадзеным выпадку тэрміна «далучэнне» дазваляе канкрэтызаваць гістарычную сутнасць гэтай шматграннай і неадназначнай падзеі як для беларускага народа, так і яго суседзяў. 17 верасня яшчэ не было аб'яднання. Яно такім сталася праз шэраг самых розных падзей, разгорнутых у часе.

Дарэчна будзе давесці, што сучасныя ўкраінскія гісторыкі, кажучы пра «насильницькі методи» «приєднання західної частини українських земель до Великої України в рамках Радянського Союзу», пры гэтым слушна заўважаюць, што

аб'яднанне «було найважливішим кроком у формуванні української соборності»[219]. «Однак ця подія, — цытуем іншага ўкраінскага гісторыка, — принесла українцям не менші страждання, ніж полякам»[220]. Карэктна бачыць такое ж (і нават большае) значэнне тых падзей і для распалавіненай перад 1939 г. Беларусі. Яе тагачасная драма заключалася яшчэ і ў тым, што на далучанай частцы адразу пачалася рэалізацыя сцэнара, апрабаванага амаль за два дзясяткі гадоў у БССР. Канечне, са сваёй спецыфікай, самай галоўнай рысай якой з'яўлялася аператыўнасць, а вынік тоесны — саветызацыя і русіфікацыя.

Прызнаючы аб'яднаўчы для Беларусі момант у падзеях 1939 г., недапушчальна казаць пра «вызваленне Чырвонай Арміяй» і тым больш пра нейкую справядлівасць таго акта, тым самым прызнаючы справядлівасць агрэсіі. Падзеі 1939 г. былі справядлівымі гэтак жа, як і дзяльба Беларусі ў 1918–1921 гг. І падзеі 1939 г. не дадалі ў гісторыі справядлівасці, бо зло нельга выкараніць злом. Ад гэтага яго толькі пабольшае. А наданне тым і іншым сацыяльна-палітычным з'явам ацэнак (што так любяць рабіць многія даследчыкі-грамадазнаўцы) павінна быць адэкватным сістэме каштоўнасцей сучаснай цывілізацыі і імкнуцца не трапляць у цянёты кан'юнктуры і залежнасці ад палітычных сілаў ці асабістых перакананняў даследчыка. Расійскім філосафам Аляксандрам Дзьякавым заўважана, што «науки о человеке, какими мы их знаем сегодня, постарались «забыть» о своем происхождении. <…> Гуманитарные науки «забывают» о том, что в их основании лежит рационалистическая метафизика субъекта» (падкрэслена намі. — *А. Т.*), якім з'яўляецца менавіта чалавек, homo[221]. Англійскі мыс-

[219] Історія України: нове бачання. / В. Ф. Верстюк, О. В. Гарань, О. І. Гуржій та ін.; Під ред. В. А. Смолія. К.: «Альтернативи», 2000. С. 338.

[220] Гетьманчук М. Ризький договір і трагедія Польщі в 1939 році // 1939 рік в історичній долі України і українців. Матеріали Міжнародної наукової конференції 23–24 вересня 1999 р. Львів: Видавничий центр ЛНУ імені Івана Франка, 2001. С. 119.

[221] Дьяков А. В. Науки о человеке в эпоху постмодерна // Личность. Культура. Общество, 2006, Вып. 2. С. 267.

ляр Н. Дэвіс заўважыў, што гісторыкі расказваюць «абстрактную» гісторыю — мінулае дзяржаў, народаў, у якой мала месца індывіду. Перафразаваўшы вядомы выраз палітычнай культуры сацыялізму, ён стварыў свой тэзіс, які лаканічна і ясна выказвае сутнасць жаданага падыходу да гістарычных канструкцый: «historia z ludzką twarzą»[222].

Канечне, з гледзішча метадалогіі гістарычных даследаванняў у дадзеным выпадку мы маем спрэчку прынцыпаў: з аднаго боку нацыянальнага ды, калі можна так сказаць, антрапацэнтрысцкага ў іх спалучэнні, а з іншага — класавага (пра апошні гл. вышэй хаця б меркаванні Леніна адносна паняцця анексіі). І стасоўна кожнага з іх знойдзецца важкая аргументацыя (класавасць жа таксама прадугледжвала прагрэсіўнасць дзеянняў у імя вышэйшай мэты — устанаўлення камуністычнага ладу па ўсёй зямлі, і толькі потым нацыянальныя інтарэсы, якія ўрэшце павінны былі б нівелявацца). Аднак тэорыі цягам развіцця чалавецтва трансфармуюцца, змяняюцца. А такая мера ўсіх рэчаў як чалавек — застаецца спрадвеку. Практыка ж паказала, што «сацыялістычная/камуністычная праўда» зусім ігнаравала чалавека, асобу (як вобразна мовіў рупар рэвалюцыі У. Маякоўскі, «единица — ноль»), а значыць, не з’яўлялася гуманнай — у адрозненне ад дэмакратызаваных нацыянальных ідэй. Нацыянальных элементаў не пазбегнуў, дарэчы, і сталінскі таталітарны імперыялізм, урэшце сінтэзаваўшы сацыяльную ідэю «светлай будучыні» з велікарасійскім шавінізмам (маўляў, народы «сплотила навеки великая Русь», як пазней канстатавалася ў савецкім гімне): «Вещь неслыханная, невозможная вчера: в СССР “родина” объявлена священным словом. Родина склоняется во всех падежах, комсомольцы учатся патриотизму по классическим прописям: то есть, прежде всего, национальной гордости. <…> И враги — это даже не мировая буржуазия, а конкретно: Япония, Германия. Нельзя думать, что все это пишется и говорится по заказу. Естественнее предпола-

---

222 Davies N. Europa między Wschodem a Zachodem. Kraków: Wydawnictwo Znak, 2007. S. 158.

гать, что власть только открыла шлюзы, долго сдерживающие поток бурной национальной стихии»[223].

Аўтар гэтай работы змог не толькі абгрунтаваць правамоцнасць аб’яднання Беларусі ў 1939 г., але і зірнуць на падзею адрозна ад заідэлагізаваных сучасных даследчыкаў (асабліва на Беларусі. Да таго ж не трэба забываць, што, паводле Ж.-М.. Дамэнака, «гісторыя… гэта перадусім спосаб, згодна зь якім культура трактуе прошлыя падзеі, каб на гэтай падставе аналізаваць сваю цяпершчыну і плянаваць будучыню»[224], таму і асэнсаванне палітычных працэсаў на і вакол Беларусі наўпрост выяўляе культуру аўтараў, іх адносіны да норм міжнароднага права, да права народа на нацыянальнае самавызначэнне, да гісторыі беларускай дзяржаўнасці, да таго, на якія ж гістарычныя ідэалы варта арыентавацца нацыі ў сваім развіцці, etc.

Ne quid falsi audeat, ne guid veri non audeat historia!

---

[223] Федотов Г. П. Новый идол // Судьба и грехи России: Избранные статьи по философии русской истории и культуры: В 2 т. Т. 2 / Сост., вступительная статья Бойкова В. Ф. СПб., 1991. С. 53.

[224] Паводле: Ф'ют А. Быць (або ня быць) сярэднееўрапейцам // Спадчына, 1998, № 5. С. 195.

# Заключэнне

Рускія вызвалялі ад палякаў.
Палякі вызвалялі ад рускіх.
Вызвалялі шведы,
Вызвалялі французы,
Вызвалялі немцы.
І хто нас толькі не вызваляў?
А мы як былі нявольнікамі,
Так і засталіся.

**І. Чыгрын**

*Самы найлепшы прыяцель, самы найлепшы збаўца наш ад нашага ліхалецця — гэта мы самі. І калі не хочам загінуць, калі не хочам быць вечнымі рабамі, — павінны пакінуць мы благую прывычку думаць, што нехта прыйдзе і выратуе нас з нашай бяды, з нашай няволі. Гэта ж не можа быць, каб нехта быў лепшым прыхільнікам да нас, як мы самі да сябе.*

**Янка Купала, 22.10.1919**

Падсумуем: Беларусь займела дзяржаўнасць не дзякуючы расійскім бальшавікам, а насуперак ім. Кіраўніцтва Савецкай Расіі мела за мэту толькі сусветную рэвалюцыю. У кан-

цэпцыі іх дзеянняў беларуская дзяржаўнасць фігуравала адно як тактычны сродак, які не ў якім разе не меў стратэгічнага значэння. Але (геа)палітычная кан'юнктура перманентна падтрымлівала актуальнасць гэтага сродку і абумовіла яго актыўнае выкарыстанне крамлёўскімі бальшавікамі, што стварыла ўражанне пра іхні клопат над «малодшымі братамі» — своеасаблівы нацыянальны патэрналізм. Хаця, як вышэй было прадэманстравана, вельмі часта яны не хавалі сваіх сапраўдных намераў, не кажучы ўжо пра тое, колькі імі рабілася ўпотай. Цікава, што нягледзячы на даволі шырокую рэпрэзентаванасць матэрыялаў па тэме (нават у беларускай гістарыяграфіі), гэтае пытанне распрацавана далёка недастаткова і часта неадэкватна: для польскай гістарычнай навукі яно не вельмі актуальнае, як і для расійскай, а беларуская — скрозь засмечаная выпешчанымі савецкім часам стэрэатыпамі пра «добрых» бальшавікоў. Пры сённяшняй наяўнасці і даступнасці антынамічных матэрыялаў гэта выглядае элементарным нонсенсам.

У якасці асноўных вынікаў праведзенага аналізу палітычнай сітуацыі вакол Беларусі перыяду 1917–1939 гг. можна вылучыць наступныя тэзісы:

1. Бальшавікі ні ў самым пачатку, ні ў пазнейшыя часы не збіраліся даваць беларусам дзяржаўнась, але былі вымушаныя гэта зрабіць пад ціскам геапалітычнай сітуацыі. Спачатку Беларусь мусіла быць адным са звёнаў буфернай зоны, а пасля — фарпостам па распаўсюджанні бальшавіцкай рэвалюцыі на Захад, пачынаючы з Польшчы.

2. Беларусь заўсёды разглядалася Крамлём як разменная манета, якой можна скарыстацца, зыходзячы з тактычных меркаванняў у кантэксце актуальных палітычных падзей, перш за ўсё ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Палітыка Крамля адносна Беларусі вызначалася інтарэсамі СССР на міжнароднай арэне і польскім фактарам, але ніяк не інтарэсамі ўласна Беларусі. З іншага боку, у нацыянальнай палітыцы бальшавікі дэкларавалі сваё місіянерства на Беларусі,

актыўна прапагандуючы гэтую сваю ролю як унутры краіны, так і за яе межамі.

3. Пасля заключэння Рыжскай мірнай дамовы кіраўніцтва СССР не адмаўлялася ад планаў вяртання ў склад сваёй дзяржавы зямель былой Расійскай імперыі. Таму у міжваенны перыяд Польшча ніколі не выпадала з поля зроку савецкага кіраўніцтва. У сувязі з гэтым па абодва бакі мяжы працавала ўзмоцненая прапаганда ідэі аб'яднання Беларусі на савецкай аснове.

4. Спрыяльны момант настаў летам 1939 г., калі Германія і СССР дамовіліся аб сферах уплыву. Праз падзел тэрыторыі Польскай Рэспублікі Беларусь да БССР была далучаная Заходняя Беларусь (але ў абсечаным варыянце). Гэтая акцыя сталася шырмай для рэалізацыі чарговых экспансіянісцкіх планаў Крамля. Адразу пасля далучэння на тэрыторыі Заходняй Беларусі пачалася аператыўная саветызацыя, спехам арганізоўваліся асноўныя сацыяльныя інстытуты савецкай улады, неўзабаве даволі зладжана запрацавалі ўсе рэпрэсіўныя механізмы таталітарнай машыны.

5. Нягледзячы на папярэднія тэзісы, належыць прызнаць, што падзеі 1939 г. былі крокам наперад у развіцці дзяржаўнасці Беларусі і яе цэласнасці, аднак за гэта беларускі народ заплаціў надта вялікую цану.

Напрыканцы хацелася б засцерагчы чытача ад меркавання, што гэтую працу можна расцэньваць як рэверанс тагачасным дзеянням міжваеннай Польскай Рэспублікі. Яе палітыка стасоўна Беларусі патрабуе асобнага даследавання.

# Біяграфія

Анатоль Трафімчык нарадзіўся 14.02.1976 г. у в. Вялікія Круговічы Брэсцкай вобласці. У 1998 г. скончыў Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры. У 2001 г. скончыў аспірантуру Інстытута літаратуры НАН Беларусі. У 2003 г. — аспірантуру Інстытута еўрапейскіх даследаванняў НАН Украіны. У 2004 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Інстытуце гісторыі НАН Украіны на тэму «Станаўленне савецкай сістэмы адукацыі ў заходніх абласцях БССР у 1939 — 1941 гг.».

2004 — 2007 гг. — працаваў на пасадах дацэнта і старшага выкладчыка кафедры філасофіі і гісторыі УА «Баранавіцкі дзяржаўны ўніверсітэт». 2008 г. — вучыўся ў Варшаўскім універсітэце (Усходнія Студыі). Ліпень 2009 г. — атрымаў дыплом Школы летняй Варшаўскага ўніверсітэта. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага музея Якуба Коласа, метадыстам аддзела міжнароднай і сацыякультурнай дзейнасці ДУА "Інстытут культуры Беларусі". Ад верасня 2012 г. — малодшы навуковы супрацоўнік Цэнтра гуманітарных даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАНБ. Ад снежня 2013 г. — начальнік аддзела навукі і міжнародных сувязей Прыватнай установы адукацыі "БІП-Інстытут правазнаўства".

Стыпендыят Універсітэта Лазарскага (Варшава, 2011). Навуковыя работы неаднаразова адзначаліся рознымі дыпламамі ў конкурсах навуковых прац, прысвечаных

польскай праблематыцы, якія арганізоўваліся пад патранатам Пасла Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь (2009 — 2011). За шматлікія публікацыі па беларусістыцы адзначаны дыпломам намінанта прэміі імя Ежы Гедройца (2010) і дыпломам «Выдавецкага дома “Звязда”» (2013).

Даследуе гісторыю асветы заходняга рэгіёна Беларусі сярэдзіны XX ст., праблемы заходнебеларускага памежжа і палітычнай гісторыі першай паловы XX ст. Выступае ў друку як літаратуразнаўца. Мае больш чым 150 навуковых публікацый у айчынных і замежных (Польшча, Украіна, Расія, Літва, ЗША) выданнях па разнастайных праблемах гістарычнай навукі, літаратуразнаўства, літаратурнай крытыкі (у т. л. 1 манаграфія), каля 100 навукова-папулярных і публіцыстычных публікацый (з іх 2 кнігі і 1 брашура), звыш 50 літаратурна-мастацкіх публікацый (з іх 3 кнігі).

У серыі **“Бібліятэка “Беларускі калегіюм”**
выйшлі:

**Віталь Сіліцкі** “Адкладзеная свабода**”**,
**Алесь Анціпенка** “Быць (пры)сутным”,
**Сяргей Харэўскі** “ПраЧутае”
**Валер Булгакаў** “Беларусь 1994–2004 гг.:
разбудова дзяржавы і перасьлед нацыі”
**Алесь Смалянчук** “Беларуская гісторыя: знайсці чалавека”
**Юр Пацюпа** “Анонс: квадрат тэкстаў”
**Адам Глобус** “Імёны: літаратурныя партрэты”
**Сяргей Дубавец** “Errata: як што называецца, так і адбываецца”

Літаратурна-мастацкае выданне

**ТРАФІМЧЫК Анатоль Віктаравіч**

**ЛЕНІН І СТАЛІН ДУМАЮЦЬ ПРА БЕЛАРУСЬ**

Аўтар ідэі серыі *Максім Жбанкоў*
Каардынатар *Алесь Анціпенка*
Галоўны рэдактар *Валянцін Акудовіч*
Рэдактар *Валянцін Акудовіч*
Карэктар *Наталля Якавенка*
Дызайн вокладкі *Сяргей Ждановіч*

Падпісана да друку 20.09.2013. Фармат 84×108 $^{1}/_{32}$.
Ум. друк. арк 5,6. Улік.-выд. арк. 5,4. Наклад 300 асобнікаў.
Замова № 482.

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ №02330/0494468 ад 08.04.2009.
Пр-т Незалежнасці, 19-5, 220030, г. Мінск.
lohvinaupress@gmail.com

Надрукавана на капіравальна-памнажальным
абсталяванні І. П. Логвінава